# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК
Ц. Б. КРАЯЗНАЎСТВА
ПРЫ ІНСТЫТУЦЕ
БЕЛАРУСКАЙ
КУЛЬТУРЫ



№ 12 (27) 1927 г. СЬНЕЖАНЬ









МЕНСК.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства
ПРЫ
ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

№ 12 (27) Сьнежань 1927

ГОД ВЫДАНЬНЯ ТРЭЦІ

ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры
МЕНСК—1927



# Пашырэньне тэматыкі „Нашага Краю“.

Часопіс „Наш Край“ з кожным годам набывае новы лік дапісчыкаў і корэспондэнтаў; з кожным годам пашыраецца яго распаўсюджанасьць сярод краязнаўчых організацый і паасобных краязнаўцаў. І зразумела, што чытачы ставяць „Нашаму Краю“ ўсё новыя і новыя запатрабаваньні. Інакш і немагчыма: орган цэнтральнае краязнаўчае ўстановы, якім зьяўляецца час. „Наш Край“, павінен быць тэю крыніцаю, адкуль краязнаўчыя організацыі і паасобныя краязнаўцы чэрпаюць патрэбныя ўзоры для свае працы, програмы, пляны, анкеты, парады, мэтодолёгічныя ўказаньні, патрэбныя для працы краязнаўца і г. д. Вось чаму краязнаўчыя організацыі так зацікаўлены ў тым, каб час. „Наш Край“ па магчымасьці меў усеахапляючы характар.

Каб надаць „Наш Кр.“ па магчымасьці ўсеахапляючы характар, ЦБК пашырыла програму зьместу свайго цэнтральнага органу. Галоўнаю адзнакаю гэтае програмы зьяўляецца тое, што ў зьмест „Нашага Краю“ ўводзіцца шмат якіх новых тэм, што яна імкнецца ахапіць па магчымасьці ўсе галіны краязнаўства, што характар яе тэм—імкненьне задаволіць інтарэсы і запатрабаваньні шырокага кола чытачоў-краязнаўцаў.

ЦБК добра ведала, распрацоўваючы програму, што выканаць заданьні, якія ставяцца перад „Нашым Краем“, магчыма поўнасьцю толькі тады, калі краязнаўчыя організацыі адзавуцца і прыдуць на дапамогу дасылкаю літаратурнага матар‘ялу, уцягненьнем новых дапісчыкаў і корэспондэнтаў, калі дасылаемы з месц матар‘ял будзе адказваць тым пытаньням, якія выстаўляе, як агульную задачу, у сваёй програме ЦБК. Для ЦБК цікава тое, каб літаратурныя працы, якія будуць дасылацца з месц для час. „Наш Край“, у агульнай сваёй суме ахаплялі ўсе галіны краязнаўства. Толькі пры такіх умовах і магчыма поўнае і ўсебаковае вывучэньне нашае краіны; разам з гэтым толькі пры такіх умовах час. „Наш Край“ зьявіцца тым органам, які здолее задаволіць запатрабаваньні краязнаўцаў.

Якія-ж новыя задачы паставіла ЦБК перад „Нашым Краем“? Якія задачы, ужо стаяўшыя перад „Нашым Краем“, ЦБК мае на мэце ўзмацніць, пашырыць і паглыбіць? Зразумела, што як ажыцьцяўленьне новых задач, гэтак сама і ўзмацненьне старых павінна ў адносінах да „Нашага Краю“ знайсьці свой адбітак на яго старонках, конкрэтна выліцца ў цэлым шэрагу новых па зьместу артыкулаў, програм, анкет, допісаў і г. д.

Каб даць некаторую орыентоўку нашым дапісчыкам і корэ-

спондэнтам у апроцоўцы матар'ялу, мы лічым патрэбным спыніцца на аналізе тых задач, якія ставіць перад „Нашым Краем" ЦБК.

Наша мастацкая літаратура ў сваіх лепшых творах мае надзвычайна многа цікавага краязнаўчага матар'ялу. У творах старога і маладога пакаленьня пісьменьнікаў мы знойдзем багатыя, памастацку выкананыя апісаньні прыроды, апісаньні пэйзажаў, краявідаў, паасобных зьяў прыроды і г. д. А клясавыя суадносіны як дарэволюцыйных часоў, гэтак сама і пасьля Кастрычнікаўскае рэволюцыі? А тыпы сялян, сялянак незалежна ад узроўсту? А апісаньні грамадзкага, сямейнага і інш. побыту? Усё гэта маецца ў нашай мясцовай беларускай і яўрэйскай і інш. літаратуры. І вось скарыстаньне гэтага матар'ялу мастацкае літаратуры, апрацоўка яго ў мэтах вывучэньня краю, надрукаваньне цэлага шэрагу артыкулаў у „Нашым Краі" на паказаныя і іншыя тэмы набывае надзвычайнае значэньне.

Трэба адзначыць, што ў напрамку распрацоўкі краязнаўчых тэм па мастацкай літаратуры краязнаўцамі Беларусі зроблена вельмі мала. „Наш Край" ня меў ніводнага артыкулу па вывучэньні краю па матар'ялах мастацкае літаратуры. Зьнішчэньне гэтага недахопу—адна з задача час. „Наш Край".

Намі і нашымі дапісчыкамі мала было зьвернута ўвагі на быт беларусаў у Латвіі, Літве, Польшчы і ў межах нашага Саюзу як, напрыклад, у Сібіры. Між тым, кожная з паказаных замежных краін (за выключэньнем нашага СССР), дзякуючы палітычнаму і эканомічнаму прыгнечаньню, дзякуючы нацыянальнаму ўціску, утварае свае асаблівыя адзнакі, якія конкрэтна выяўляюцца ў фармаваньні палітычных поглядаў беларуса, у клясавым расслаеньні беларускае вёскі, у організацыі асьветы, у побыце і інш. Усе гэтыя зьявы павінны знайсьці сваё месца на старонках „Нашага Краю". Іншы малюнак можна назіраць у жыцьці беларусоў у межах нашага Саюзу, але па-за межамі БССР. Беларус, які апынуўся ў Сібіры, паступова траціць элемэнты свае нацыянальнае культуры: мову, побыт, песьні, гаворкі і інш. Ён паступова набывае асаблівасьці элемэнтаў культуры насельніцтва Сібіры. Праўда, культуры народнасьцяй, якія жывуць на тэрыторыі СССР, маюць тое агульнае, што зьмест іх культур—пролетарскі. Гэта цэмант, які зьвязвае культуры розных нацыянальнасьцяй у адно цэлае. Тым ня менш, процэс страты прадстаўнікамі тае альбо іншае нацыі форм свае нацыянальнае культуры, а таксама іхняе жыцьцё—цікавы. І вось гэтае жыцьцё беларуса па-за межамі БССР павінна мець свой адбітак на старонках „Нашага Краю".

У гэтым напрамку зроблена мала, вельмі мала. Другая чарговая задача ЦБК—зрабіць усе захады да таго, каб зьнішчаць і гэты недахоп.

БССР на сваёй тэрыторыі мае нацменшасьці: яўрэяў, палякаў, латышоў, літоўцаў, татар, рускіх і інш. Культура некаторых з гэтых народнасьцяй бадай не знайшла адбітку на старонках „Нашага Краю". Між тым, матар'ялы аб культуры гэтых народаў на мясцох маюцца, паасобныя прадстаўнікі нацмену ўваходзяць у краязнаўчыя організацыі, а яўрэі пры акруговых т-вах маюць свае ўласныя сэкцыі. Неабходна ў далейшым краязнаўчым організацыям вылучыць некалькі дапісчыкаў у „Наш Край" з прадстаўнікоў нацменшасьцяй, на якіх ускласьці абавязак даваць у „Наш Край" матар'ялы аб жыцьці, культуры, эканоміцы і г. д. паказаных народнасьцяй.

Цікавыя элемэнты краязнаўства захоўваюцца ў помніках архітэктуры, у хатніх вырабах насёльніцтва, у творчасьці нашых маляроў, архітэктараў, скульптараў і інш. Іх цікавасьць абумоўлена тым, что яны адбіваюць формы нацыянальнае культуры ў мастацтве. Апісаць яго, зарысаваць, сфотографаваць, даць аб ім цэлы шэраг артыкулаў—чарговая задача нашых краязнаўчых організацый. Матар'ялы ў форме артыкулаў у гэтай галіне культуры трэба накіроўваць у „Наш Край". Сабраць сілы, даць указаньне месцам у напрамку апісаньня паказаных элемэнтаў культуры—чацьвертая чарговая задача ЦБК. У гэтым напрамку намі нешта зроблена, але яшчэ мала зроблена.

Беларускі тэатр, тэатральныя гурткі пры нардамох, хатах-чытальнях, тэатр і гурткі іншых нацыянальнасьцяй—усё гэта жывая, мастацкая популярызацыя формаў нацыянальнае культуры, а адсюль і элемэнтаў краязнаўства. Апісаньне гэтых элемэнтаў тэатральнага мастацтва—павінна зацікавіць краязнаўцу; ён можа вылавіць у гэтым відзе мастацтва надзвычайна каштоўныя матар'ялы, якія могуць служыць для вывучэньня краю, для гісторыі беларускага тэатру. Гэтай-жа мэце будуць служыць і падрабязныя аналізы краязнаўчых інсцэніровак. Часопіс „Наш Край" павінен даць месца на сваіх старонках для падобнага роду матар'ялаў.

Мы спыніліся вельмі коратка на тых задачах, якія вельмі мала праводзіліся ў жыцьцё, і якія бадай што не знаходзілі месца ў „Нашым Краі". На гэтых пытаньнях неабходна завастрыць увагу. Але адсюль яшчэ ня сьледуе, што тыя галіны краязнаўства, якія намі лічыліся да гэтага часу першачарговымі, павінны адыйсьці на задні плян пры выкананьні пералічаных задач. Наадварот, першачарговасьць гэтых галін ня толькі захоўваецца ва усёй моцы, але яны патрабуюць паглыбленьня, пашырэньня і ўзмацненьня. Краязнаўчыя організацыі павінны асабліва пашыраць лік дапісчыкаў на такія тэмы: экономіка нашага краю (гандаль, прамысловасьць, экономіка сельскае гаспадаркі), прырода ва ўсіх яе зьявах і формах, гісторыя краю і паасобных раёнаў, зьбіраньне докумэнтаў па гісторыі краю, гісторыі рэволюцыі лютаўскае, Кастрычнікаўскае ў краі і раёнах і г. д. Артыкулы па паказаных пытаньнях у значнай меры знаходзілі на старонках „Нашага Краю" пераважнае месца.

У далейшым ЦБК артыкулам на паказаныя тэмы таксама будзе надаваць надзвычайнае значэньне. Пры гэтым неабходна адзначыць, што пытаньням экономікі, земляўпарадкаваньня, расслаеньню сялянства, прыватнага гандлю і прыватнай прамысловасьці, апісаньню паасобных прадпрыемстваў і інш. ЦБК надае пераважнае значэньне. Артыкулы на паказаныя тэмы асабліва пажаданы.

У заключэньне неабходна сказаць, што рэдакцыя час. „Наш Край" вельмі мала атрымлівае матар'ялаў аб краязнаўчым (сводак) зьмесьце мясцовых рукапісных і друкаваных выданьняў, як напрыклад: насьценных газэт, рукапісных часопісаў, акруговых газэт, акруговых выданьняў і г. д. Зводкі краязнаўчага матар'ялу такіх выданьняў, або бібліографічны матар'ял для „Нашага Краю" вельмі неабходны.

Гэтак сама неабходна дасылаць матар'ялы ў форме апісаньня паасобных дасьледчых станцый і іншых дасьледчых устаноў, вынікі іх дасьледчае працы, мэтоды працы і г. д. Пажадана мець матар'ялы аб

такіх дасьледчых установах як: Горацкай, Тураўскай, Віцебскай, Магілеўскай лекавых расьлін, Менскай балотнай станцыі.

Вось тыя пытаньні, якія ў апрацаваным відзе павінны знайсьці сваё месца ў час. „Наш Край“. Тут не закранута шмат якіх яшчэ пытаньняў выключна краязнаўчага характару (фольклёр, музэі, школьнае краязнаўства і інш.). Гэта зроблена ўмысьне і таму, што па гэтых пытаньнях ёсьць указаньні ЦБК. Ад актыўнасьці краязнаўчых арганізацый, іх спачуваньня залежыць у значнай мер тое, каб гэтыя заданьні выканаць.

*М. Бялуга.*

---



Н. Дружчыц.

# Краязнаўства ў гістарычнай галіне.

За нядоўгі час існаваньня на Беларусі краязнаўчага масавага, які фактычна пачаўся з часоў рэволюцыі, руху і даволі значна ўзьняўся ў сучасны момант, паўстае натуральнае пытаньне, як і куды накіраваць свае жаданьні, як узяцца за працу і над чым працаваць.

Калі выражэньне гэтага пытаньня зьяўляецца складаным ва ўсіх галінах краязнаўчае працы, то ў адносінах да гісторыі і асабліва гісторыі паасобных краін і месц Беларусі яно зьяўляецца зусім цяжкім. Цяжкасьць яго выяўляецца як у вывучэньні таго, што ўжо зроблена па прычыне адсутнасьці належнае літаратуры, так і ў далейшым дасьледваньні тых ці іншых бакоў жыцьця пэўнае краіны, места або мястэчка. Труднасьць дасьледваньня ўскладняецца рознымі прычынамі. Аднэй з галоўнейшых зьяўляецца адсутнасьць ведаў аб тым, дзе знайсьці адпаведныя крыніцы і літаратуру. Справачнікі, выдадзеныя да рэволюцыі, трапляюцца рэдка нават у значных бібліотэках, нашы выданьні справачнікаў пасьля рэволюцыі таксама не ўсяды могуць задаволіць запатрабаваньні тых ці іншых краязнаўцаў у іх натуральным імкненьні вывучыць тое ці іншае пытаньне.

У апошнія часы некаторыя краязнаўчыя організацыі, як Віцебскае таварыства і Магілеўскае, па ўсёй вочавіднасьці, шырака разгарнуўшыя краязнаўчую працу, робяць вопыты і спробы свае досьледы і дасягненьні давесьці да натуральнага канца, гэта значыць надрукаваньня і, такім чынам, азнаямленьня з вынікамі сваіх прац шырокіх колаў грамадзянства.

Праца, якая пастаўлена краязнаўцам у гістарычнай галіне інструкцыямі і програмамі і якая ставіць сабе мэтай, галоўным чынам, вынаходкі гістарычных помнікаў і іх апісаньне, перастае задавальняць частку нашых краязнаўцаў. Яны ўжо перарасьлі першы пэрыод краязнаўчае працы, яны жадаюць ня толькі займацца вынаходкамі помнікаў, але ставяць перад сабою заданьні болей высокага парадку—самім займацца досьледамі і вывучэньнем сваёй краіны, або свайго места. Фактычна, ужо вырасьлі паасобныя дасьледчыкі ня толькі ў цэнтры Беларусі, але і на мясцох, сярод акруговых і раённых таварystваў і той факт, што зьяўляюцца друкаваныя працы, сьведчыць аб гэтым документальна.

Выданьне зборнікаў прац паасобных таварystваў трэба вітаць і

такое іх імкненьне падтрымліваць усімі магчымымі сродкамі. Каля такіх выданьняў будуць гуртавацца ўсе актыўныя працаўнікі-краязнаўцы і падобныя выданьні дадуць магчымасьць выявіць свае сілы і здольнасьці мясцовым працаўнікам і дасьледчыкам. Само сабою разумеецца, што такія выданьні могуць стаць значнымі дапаможнікамі і справачнікамі для ўсіх мясцовых установаў і іх працаўнікоў і асабліва школьных настаўнікаў. Настаўнік пры дапамозе такіх выданьняў зможа ажыўляць свой матар'ял пры выкладаньні і ўносіць, такім чынам, краязнаўчы ўхіл у школу, ажыўляць сваё выкладаньне і запраўды будаваць школьную працу на жыцьцёвым матар'яле. Вядома, што краязнаўцамі ў нас большаю часткаю зьяўляюцца настаўнікі. Актыўная праца, асабліва праца дасьледчага характару, найлепшая школа для павышэньня кваліфікацыі школьных работнікаў як ў адносінах мэтоду выкладаньня, так і ў пашырэньні і паглыбленьні сваіх ведаў.

Прынцыповая пастаноўка пытаньня ясна без дакладнага ўзгрунтаваньня, але справа становіцца зусім складанай, калі прыходзіцца зьвяртацца да яе практычнага ажыцьцяўленьня.

Першае пытаньне, якое паўстае перад кожным дасьледчыкам гэта—абраньне сабе тэмы. Большаю часткаю лічаць, што тэмы павінны быць агульнага характару, а менавіта, такія, што могуць цікавіць шырокія колы грамадзянства, напрыклад: даць цэльную гісторыю свайго места, або вёскі, або ўсебаковую характарыстыку пэўнае эпохі і таму падобнае. Узяўшыся за такую тэму, працаўнік бачыць, што няма адпаведнае літаратуры, або яе вельмі многа, што крыніц так многа, што іх нават пералічыць цяжка. Падобнае здарэньне вельмі яскрава адбілася ў зборніку „Магілеўшчына“ ў артыкуле І. М.: „Нарысы з мінулага Магілеўшчыны“.

У сваіх нарысах аўтар хоча даць гісторыю жыцьця чалавека на Магілеўшчыне з часоў яго паяўленьня да канцы XVIII ст. Тут мы знаходзім і проблему матрыархату, і выражэньне пытаньня аб нацыянальнасьці першых насельнікаў Магілеўшчыны, і неоліт, і курганны пэрыод, вераваньні і сьветапогляды насельніцтва, і ўсё гэта на трох старонках. Затым ідзе Магілеўскае сярэднявекоўе, потым цэхі і купецкія таварыствы і, урэшце, войны 1480—1702 г. і сялянства. Увесь артыкул мае 13 старонак, а друкаванага матар'ялу фактычна ня болей 12, бо тут-жа зьмешчана яшчэ 5 малюнкаў. Зусім зразумела, што ўсё выкладаньне носіць схэматычны характар, які часамі даходзіць да простага пералічэньня фактаў, або гістырычных падзей, што аўтар дапусьціў у адносінах цэхаў, далучаўшы да іх кароценькі нарыс іх організацыі. Аўтар ня можа справіцца з усім матар'ялам, які яму прыходзіцца ахапіць, прымушаны дапускаць цэлы рад навуковых памылак, і пры выкладаньні павінен абмяжоўвацца кароткім конспэктам ужо вядомых прац. Чытач, азнаёміўшыся з падобным артыкулам, застаецца з уражаньнем, якое ён атрымлівае ў кінэматографе. Няма над чым застанавіцца, і усё, што прачытана, выпаўзае з памяці зараз-жа пасьля прачытаньня.

Падобная агульная тэма патрабуе доўгае і вялікае апрацоўкі і можа быць об'ектам цэлае, на сотні старонак, монографіі; апрача таго, такая тэма вымагае ад дасьледчыка вялікае эрудыцыі ў галіне гісторыі ня толькі гарадоў, але і агульнае гісторыі Беларусі, і ня толькі гісторыі Беларусі, але і Заходняе Эўропы і гісторыі Расіі, іх экономікі,

гандлю, социяльна-політычных падзей і ўсяе ўвогуле гісторыі тэй эпохі, да якой адносіцца тэма.

Перашкодай для выпаўненьня падобнае працы пры наяўнасьці адпаведнае эрудыцыі ў краязнаўца, які паставіць сабе падобную задачу, будзе адсутнасьць патрэбнае літаратуры і належных крыніц. Звычайна, дасьледчыкі пры вывучэньні шырокіх тэм зьбіраюць матар'ялы і робяць выпіскі ў вялікіх цэнтральных кнігасховах, як Ленінградзкая публічная бібліотэка, Маскоўская Ленінская бібліотэка і ў іншых вялікіх кнігасховах. Наша Беларуская Дзяржаўная бібліотэка, ня гледзячы на значны яе ўзрост за апошнія гады, толькі часткаю можа задаволіць літаратурнымі дапаможнікамі пры распрацоўцы падобных шырокіх тэм.

Увогуле, дасьледчык у значнай меры залежыць пры абраньні сабе тэмы ад таго матар'ялу, які можна знайсьці без вялікіх затрат і дальніх паездак.

Першай задачай зьяўляецца, такім чынам, абіраньне патрэбнай тэмы, якая ў сваю чаргу ў значнай меры залежыць ад тых крыніц і матар'ялаў, якія можна знайсьці ў тым ці іншых месцы—у архівах і бібліотэках.

У сучасны момант нашы дасьледчыкі і краязнаўцы цікавяцца болей усяго бліжэйшымі да нашага часу зьявамі і пытаньнямі. Гэты ўхіл значна аблягчае абраньне тэмы і адшуканьне для яе патрэбных крыніц і матар'ялаў.

Цэлы шэраг пытаньняў і тэм экономічнага характару канца XIX і пачатку XX сталецьця патрабуюць свайго высьвятленьня ў першую чаргу.

Высвятленьне па акругах і раёнах буйное прамысловасьці, дробнае прамысловасьці, яе паступовага разьвіцьця, за тым саматужнае прамысловасьці па аддзельных рамёствах і агульнае значэньне гэтай прамысловасьці—гэта асноўныя пытаньні, якія павінны быць пастаўлены акруговымі і раённымі таварыствамі для належнага вывучэньня.

Падобнаму вывучэньню падлягае затым сельская гаспадарка з усімі яе відамі; паасобным пытаньнем, зьвязаным з агульнай сельскай гаспадаркай, павінна быць пастаўлена вывучэньне буйное сельскае гаспадаркі акругі, або раёну, сярэдняга зямляўладаньня і яго гаспадарчага характару і, урэшце, дробнага зямляўладаньня і яго ўдзельнай вагі ў агульнай сельскай гаспадарцы раёну, акругі, або павету, ці валасьці.

Паасобнага вывучэньня заслугоўваюць рынкі акругі і раёну з высьвятленьнем тых ярмарак і кірмашоў, якія там адбываліся, якія раёны яны абслугоўвалі і прыблізную велічыню таварных кругазваротаў, якую яны мелі. Пажадана было-б высьвятленьне па гадох паступовага разьвіцьця або заняпаду тых ці іншых рынкаў.

Асаблівае ўвагі патрабуюць месты і мястэчкі. Усебаковае іх вывучэньне зьяўляецца чарговым пытаньнем беларускіх дасьледчыкаў, і адносна іх павінна быць пастаўлена краязнаўцамі і краязнаўчымі організацыямі спэцыяльнае заданьне для іх дасьледваньня. Пры гэтым неабходна ўжываньне мэтоду іх вывучэньня ад сучаснасьці да болей старажытных часоў, гэта значыць, што неабходна спачатку вывучэньне мястэчка ў бліжэйшую да нас эпоху, скажам, гісторыі мест і мястэчак з паловы XIX і ў XX ст., а затым болей раньняга часу.



Ужываньне падобнага мэтоду вымагаецца, папершае, тым, што для болей позьняга часу ў нас маецца значны лік крыніц і докумэнтаў, падругое, непасрэднымі патрэбамі ведаў аб палажэньні мястэчка ў нядаўнім мінулым яго для практычных працаўнікоў як школьных, так і гаспадарчых.

Пры вывучэньні мястэчак, а асабліва значных мест, як Менск, Віцебск, Магілеў, Полацак, Гомель, Бабруйск і іншыя, магчымы падзел паміж паасобных дасьледчыкаў аддзельных пытаньняў, напрыклад: а) насельніцтва і яго паступовы рух у клясавых, соцыяльных і нацыянальных адносінах, в) прамысловасьць, с) гандаль, d) саматужная прамысловасьць, е) упраўленьне места, f) культурныя ўстановы места і таму падобныя тэмы.

Другім этапам у дасьледваньні беларускіх мест і мястэчак будзе вывучэньне эпохі канца XVIII і паршай паловы XIX ст. і, урэшце, болей раньнія часы.

Толькі пасьля падобнае прапрацоўкі мы можам спадзявацца на тое, што ў нас зьявіцца запраўдная гісторыя нашых мест і мястэчак, а такса і паасобных раёнаў. Падобнае дасьледваньне можа быць зроблена толькі адпаведнымі акруговымі і раённымі гістарычнымі сэкцыямі краязнаўчых таварystваў; яно зьяўляецца іх галоўным абавязкам і даюць магчымасьць выявіць іх творчыя і дасьледчыя сілы, узмацніць іх налічнымі працаўнікамі і ўтварыць па акругах і раёнах запраўдныя дасьледчыя асяродкі.

Што датычыць крыніц і матар'ялаў для вывучэньня і дасьледваньня падобных тэм, то яны ў значнай меры знаходзяцца ў акруговых архівах, асабліва ў архівах тых гарадоў, якія былі да рэволюцыі губэрскімі, як Віцебск і Магілеў.

Архівы губэрскага праўленьня, гарадзкое ўправы, рамесьленнай управы, статыстычных камітэтаў, дваранскія архівы—усё гэта асноўныя матар'ялы для пастаўленых тэм.

У значнай меры могуць дапамагчы і розныя офіцыяльныя выданьні, памятныя кніжкі, часопісы, газэты.

Літаратура, якая маецца па гэтых пытаньнях, бязумоўна, таксама павінна быць выкарыстана, аднак усе яе выхады трэба пераглядзець і, увогуле, яна можа мець толькі дапаможнае і другараднае значэньне.

Калі краязнаўчыя таварыствы стануць на дасьледчы шлях, а фактычна яны ўжо сталі на яго, што паказваюць выданьні Віцебскага і Магілеўскага таварystваў, і зоймуцца ня толькі простым апісаньнем помнікаў старасьветчыны, гэта праца таксама неабходна і вельмі патрэбна, то наша краязнаўства ў гістарычнай галіне зойме запраўды належнае месца ў тым культурным уздыме, які мы наглядаем у часы рэволюцыі, і набудзе тое паважнае месца ў дасьледваньні краін Беларусі, якое толькі адно дасьць запраўдную мажлівасьць належнага вывучэньня мінулага Беларусі.

---




Д. Васілеўскі.

# Беларускае Вольна-Экономічнае Таварыства.

I.

У сучасны момант, калі Цэнтральнае Бюро Краязнаўства праводзіць падрахунак краязнаўчай працы на Беларусі, вельмі цікава агледзець працу 1-га краязнаўчага таварыства на Беларусі, якое існавала ў пачатку мінулага сталецьця і мела назву „Беларускае Вольна-Экономічнае Таварыства“.

Аб працы гэтага Т-ва сустракаюцца толькі кароткія весткі. У 3-м томе „Живописной России“ Кіркор толькі двума радкамі паведамляе аб існаваньні Беларускага Вольна-Экономічнага Таварыства. Пасьля, Зьмігроцкі ў сваім артыкуле аб „Паўночных крэсах“ у зборніку „Z akolic Dzwiny“ зазначае, што калісьці існавала ў Віцебску „Беларускае Вольна-Экономічнае Таварыства“. Больш падрабязна паведаміў аб дзейнасьці гэтага Т-ва В. Федаровіч у „Трудах 1-го Областного С‘езда Сельских хозяев СЗК в г. Двинске в 1893 г.“. Але Федаровіч падаў толькі павярхоўныя весткі аб утварэньні Вольна-Экономічнага Т-ва, статут Таварыства і кароткае апісаньне выданага Вольна-Экономічным Таварыствам зборника „Летопісь Белорусского Общества сельских хазяев“.

У Віцебскім аддзяленьні Дзяржаўнага Архіва захаваўся архіўны фонд спраў „Беларускага Вольна-Экономічнага Т-ва“ з 1826 па 1843 г. Гэты фонд асьвятляе тую выключную зацікаўленасьць к дасьледваньню Беларусі, якая назіралася ў Віцебску на працягу ўсяго XIX сталецьця. У часы працы ў Віцебскім Дзяржаўным Архіве нам удалася азнаёміцца з гэтым архіўным фондам і выбраць адтуль даныя аб экономічным стане Беларускага генэрал-губэрнатарства за час з 1826 па 1844 г., аб настроях паноў і іншы матар‘ял па гісторыі краязнаўства на Беларусі.

II.

Прычынамі заснаваньня Беларускага Вольна-Экономічнага Т-ва былі: 1) вельмі неспакойныя клясавыя суадносіны на Беларусі пасьля 1812 г.; 2) экономічны заняпад Сельскае гаспадаркі ў зьвязку з голадам 20-х гадоў XIX сталецьця. 3) Значны вываз хлеба за межы. Такім чынам, заняпад дзяржаўнай гаспадаркі выклікаў імкненьне адшукаць новыя вытворчыя сілы прыроды, якія-б маглі ўзьняць прыбытковасьць дзяржавы.

Беларускае генэрал-губэрнатарства ў 30 гадох мінулага сталецьця перажывала надзвычайны заняпад сельскае гаспадаркі. Аб гэтым сьведчаць ня толькі запісы сучасьнікаў, але і афіцыйныя данясеньні беларускага тагачаснага генэрал-губэрнатара князя Хаванскага царскаму ўраду.

У 1825 г. генэрал-губэрнатар Беларусі паведамляў Міністэрства ўнутраных спраў, што „Беларусь з галодных гадоў прышла ў вялікі заняпад. Беларускі селянін зусім ня ведае чыстага хлеба. Агульны недахоп харчоў ставіць у вельмі цяжкае становішча памешчыкаў Беларускай губ. Яны ня могуць пракарміць сваіх сялян. Сяляне ня ведаюць ніякіх рамёстваў і, займаючыся толькі земляробствам, цалкам залежаць ад самавольства прыроды. У выніку гэтага—палі асталіся незасеянымі, і толькі заросшыя травой барозны паказваюць, што тут калісьці была пахаць. Сяляне звыклі есьці хлеб з мякінай, ленавацца і бадзяцца па сьвету*). („Всеподданейший доклад Белорусского генерал-губернатора за 1825 год". У архіўным фондзе).

З гэтага дакладу далей відаць, што царскі ўрад бачыў галоўную бяду ня ў пустках беларускае вёскі, а ў тым, што абяднеўшы беларускі селянін бунтаваў, жаліўся на паноў царскаму ўраду, а калі скаргі не памагалі, то прымаў свае меры—паліў маёнткі і забіваў паноў. Сялянскія бунты бытавое зьявішча жыцьця Беларусі першае паловы XIX сталецьця. З другога боку, памешчыкі ўзмацнілі продаж свайго хлеба за межы праз Рыгу, а гэта ў сваю чаргу выклікала большую эксплёатацыю прыгоннага беларуса. Перапрабаваўшы ўсе звычайныя сродкі для ўціхаміраньня бунтуючага селяніна-беларуса, царскі ўрад давёў яго да такога стану, што сялянства кідала наседжаныя месцы і цэлымі вёскамі разьбягалася ў розныя бакі. Кары не памагалі. Патрэбны былі іншыя меры.

Пры такіх цяжкіх экономічных умовах на Беларусі беларускае генэрал-губэрнатарства задумала заснаваць Т-ва, якое-б мела на мэце дасьледваньне стану сельскае гаспадаркі і прамысловасьці ў Віцебскай, Магілеўскай і Смаленскай губэрні, высьвятліла-б прычыну заняпаду, знайшло-б пэўныя спосабы да паляпшэньня сельскай гаспадаркі і інш. Такім чынам, узрасло 1-ае на Беларусі Краязнаўчае Т-ва.

Спачатку, па прапанове генэрал-губэрнатарства, Віцебскае і Магілеўскае дваранскія „собрания" апрацавалі статуты Беларуска-Віцебскага і Беларуска-Магілеўскага вольна-экономічных таварыстваў. Гэтыя т-вы дамагаліся знайсьці цьвёрдыя навуковыя падставы для сельскай гаспадаркі ў Беларусі. У далейшым, статуты абодвух вольна-экономічных т-ваў былі аб'яднаны ў адзін статут „Беларускага Вольна-Экономічнага Таварыства", і 12-га студзеня 1826 году камітэт міністраў прадставіў гэты статут на зацьверджаньне цара Мікалая І-га.

III.

З гэтага часу Вольна-Экономічнае Т-ва распачала сваю дзейнасьць у г. Віцебску і ставіла сабе такія задачы ў працы: 1) Палепшыць земляробства і прамысловасьць Беларусі, 2) Зьвярнуць асаблівую ўвагу на вывучэньне глебы і стану яе ўраджайнасьці, 3) Будаваць запасныя вясковыя магазыны хлеба, 4) Ахоўваць і разводзіць лес, 5) Клапа-

*) Вс. даклад.

ціцца аб палажэньні селянства праз паляпшэньне іх сяліб, разьвядзеньне лепшых парод рагатай жывёлы і авец, 6) Клапаціцца аб лепшай ахове здароўя селяніна. (Дело об организации Белорусского Вольно-Экономического Об-ва в Витебске", стар. 38).

Для досьледаў па апрацоўцы лепшае сыстэмы сельскае гаспадаркі царскі ўрад аддаў Т-ву Караваінскае староства каля Віцебску. Староства налічвала 156 душ сялян, 727 дзесяцін пахаці, 42 дзесяціны сенажаці, 977 дзесяцін лесу, 2 карчмы. Экономічных фальварковых будынкаў ня было. Апрача гэтага, урад выдаў 10.000 рублёў на досьледы Т-ва. Атрымаўшы значную дапамогу, Т-ва думала рабіць сельскагаспадарчыя досьледы на тэрыторыі ўсяго староства, але заняпад сельскае гаспадаркі ў сялян гэтага староства, значная нядоімка ў 19.624 руб., якая лічылася за сялянамі староства, тармазіла ўсю працу. Праўленьне Т-ва выдавала грашовыя ўзнагароды за лепшае вядзеньне сельскае гаспадаркі, знаёміла членаў свайго таварыства з новымі сыстэмамі вядзеньня сельскае гаспадаркі, а для паверкі розных спосабаў вядзеньня гаспадаркі пастаноўлена было організаваць дасьледча-паказальны хутар. На гэтым хутары, ва ўмовах Беларусі, правяраліся запазычаньня з практыкі Заходняй Эўропы сыстэмы земляробства і лесаводзтва.

Шырокая тэрыторыя Караваінскага староства патрабавала значных грашовых сродкаў, каб шырака паставіць дасьледчую гаспадарку, а загэтым Праўленьне Т-ва пачало клапаціцца перад урадам, каб ён даў грашовую пазыку на набыцьцё асобнага фальварку. Урад даў адначасовую дапамогу Таварыству ў суме 10.000 рублёў. Гэтых грошай не хапіла на закупку хутара. Праўленьне Таварыства зьвярнулася за дапамогай да памешчыкаў Беларускіх губэрань, абвясьціла дабрахвотную падпіску сярод заможнага насельніцтва на акцыі паказальнага хутара. Кожны трымацель акцыі дасьледчага хутара меў права на прыбытак з хутарской гаспадаркі раўналежна ліку набытых палёў.

К гэтаму часу дзейнасьць Таварыства прыцягнула да сябе значную ўвагу беларускіх памешчыкаў. Абавязковае членства губэрскіх і павятовых маршалкаў дваранства, відаць, паспрыяла пашырэньню запісаў у члены Т-ва. Сярод памешчыкаў Віцебскай і Магілеўскай губ. падпіска на хутарскія паі дала 16.000 рублёў.

IV.

У 1828 годзе Т-ва купіла хутар Залучасьсе з 2-мя суседнімі вёскамі—Паншчына і Куковічы за 26.000 руб. Хутар меў 480 дзесяцін пяшчаністай зямлі і 39 мужчын і 44 жанчыны прыгонных сялян.

На хутары была заведзена чатырохпольная плодапераменная сыстэма земляробства з пасевам гародніны. Для досьледаў было адведзена асобнае поле. Таварыства ў кароткі час дасягнула посьпехаў у земляробстве. Упяршыню тут былі заведзены пасевы бульбы, дзятліны і кармовых гарошкаў. Насеньне Таварыства выпісвала ня толькі ад Маскоўскага таварыства сельскіх гаспадароў, але і з-за межаў. Пасьля таго, як той ці іншы сорт насеньня прарастаў на палёх хутара і паказваў, што ён можа расьці на пяшчаністай глебе, Таварыства шырака рэкомэндавала яго сваім членам-памешчыкам і пасылала насеньне ў маёнткі. Такім чынам, Таварыствам было пашырана насеньне ангельскага

хмелю, голяндзкага шчаўя-эстрагона, салодкага гарошку і брасьсіка гарна—brassika harna, з якога выбіваюць рапейнае масла.

Апрача паляпшэньня насеньня, таварыства паставіла сабе мэтай пашырэньне сельска-гаспадарчых машын і прылад. На хутары быў організаваны пракатны пункт сельска-гаспадарчых машын і паказальная майстэрня. У майстэрні рабіліся прылады ня толькі для ўласнай патрэбы, але і на продаж—сьпярша сваім членам, а пасьля і іншым памешчыкам. Памешчыкі маглі атрымліваць з пракатнага пункту патрэбныя машыны і прылады для працы на сваіх палёх.

На дасьледчым хутары быў таксама організаваны габінэт глеб Беларусі, была заснавана бібліотэка, у якой меліся ўсе неабходныя кнігі і часопісы на розных мовах па агрономіі. Кнігі выдаваліся для чытаньня як членам Таварыства, так і ня членам.

Ужываньне машын у сельскай гаспадарцы выклікала неабходнасьць мець такіх прыгонных сялян, якія-б былі знаёмы з іх пабудовай і ўмелі-б пачыніць у час паломкі. Выпісаць машыністаў з Нямеччыны дорага каштавала, дзеля чаго Т-ва задумала адчыніць пры хутары сельскага-гаспадарчую школу.

У 1830 годзе школа была адчынена. Заняткі ў ёй вяліся ўвосені і зімой з дзяцьмі хутарскіх сялян і сялян суседніх вёсак. Навучаньне было дармовае, але пан, які пасылаў свайго прыгоннага хлопчыка, павінен быў даць яму вопратку, ці заплаціць Праўленьню Т-ва за ўтрыманьне вучня з прыгонных—40 р. 70 к. на год. У школе праходзілі расійскую мову, пачаткі арытмэтыкі, практычна знаёміліся з вядзеньнем палепшанай сыстэмы земляробства і вучылі, як абыходзіцца з сельска-гаспадарчымі машынамі. Лік вучняў даходзіў да 40 чалавек.

У кароткі час паказальны хутар Вольна-Экономічнага Т-ва зрабіўся рассаднікам правільнага земляробства і культурнага лесаводзтва на Беларусі, падрыхтаваў некалькі знаёмых з правільным вядзеньнем сельскае гаспадаркі „управляющих“ для панскіх маёнткаў з прыгоннага сялянства, бо выпісаныя з-за межаў дорага каштавалі і, апрача таго, былі няпэўнымі людзьмі. Напрыклад, прыказчык паказальнага хутара Т-ва немец Фрэйберг у 1830 годзе, па сканчэньні жніва і малацьбы, захапіў з сабой грошы ад продажы хлеба на хутары і прабаваў уцячы ў Прусію, але быў злоўлены. З гэтага часу Т-ва ставіла на чале свайго паказальнага хутара тутэйшых людзей.

## V.

Слава аб посьпехах дасьледчага хутара разьнеслася далёка. З усіх канцоў Беларусі і Расіі ў Т-ва пасыпаліся запытаньні аб паляпшэньні сельскае гаспадаркі. Міністэрства ўнутраных спраў таксама дасылае Вольна-Экономічнаму Таварыству на водзыў розныя проекты паляпшэньня сельскае гаспадаркі.

У 1829 годзе па царскім загаду Т-ву быў прысланы для ацэнкі проект генэрала *Базена* аб спосабе захоўваньня хлеба. Базен проектаваў пабудаваць асобныя хлебныя магазыны ў сельскай мясцовасьці, куды памешчыкі павінны былі ссыпаць хлеб. Пазьней гэтая сыстэма запасных хлебных магазынаў была пашырана па Беларусі. (Дело архивного фонда БВДО, № 13).

З далёкага Суздаля „оператор докторской управы“ Д. Маранкоў даслаў Т-ву насеньне цыкорыя і проект яго разьвядзеньня і ўжывань‑

ня. У проекце паведамляляся, што цыкорыя выкарыстоўваецца супроць многіх хвароб.

З Пецярбургу нейкі С. Кавецкі даслаў станок для выпатаў глебы і вырэзку з № 54 газэты „С.-Петербургские Ведомости“ за 1827 г., дзе рэкамэндуецца самы просты спосаб пабудовы Артэзыянскіх калодзежаў“.

Нейкі Шэлехаў прыслаў проект аб пладазьменнай сыстэме пальводзтва.

Палкоўнік (корпуса інжынэрных шляхоў зносін) *Багданаў* даслаў проект аб павялічэньні народнага багацьця і дабрабыту. У часы сваіх вандровак па Беларусі і Літве палкоўнік Багданаў быў вельмі зьдзіўлены беднатою беларускага сялянства і, каб дапамагчы яму, заняўся адшуканьнем лепшых спосабаў вядзеньня сельскае гаспадаркі. Галоўным сродкам для ўздыму дабрабыту насельніцтва Багданаў лічыў пасадку бульбы, пладазьменную сыстэму земляробства і засеў дзятлінай. Каб шырэй азнаёміць акаляючае сялянства з гэтай справай, Багданаў прапанаваў Т-ву завесьці на хутары пастаялы двор для сялян, якія выклікаюцца ў губэрскі горад з сваімі фурманкамі для нясеньня земскае службы. Пакуль сяляне чакаюць сваёй чаргі нясьці земскую павіннасьць у горадзе, іх неабходна, па думцы Багданава, пасылаць на працу на паказальны хутар, дзе яны знаёмяцца з каштоўнасьцю новых культур і новых мэтодаў гаспадаркі.

У 1831 годзе з Ліфляндыі пан Карл Вітгенштэйн прыслаў Таварыству складзены ім сельска-гаспадарчы каляндар, усе работы па хаце і гаспадарцы разьнесены ў каляндары па м-цах і днях. Каляндар быў надрукаваны парасійску.

Гэтыя прыклады сьведчаць аб тым, што пачынаньні Беларускага Вольна-Эканомічнага Т-ва былі шырака вядомы па Расіі і знайшлі сабе спачуваньне сярод памешчыкаў розных губэрань. Праўда, лік членаў Т-ва ў гэты час быў малы: даходзіў да 80. Тут былі пераважна памешчыкі беларускіх губэрань і толькі 4 з вялікарускіх, але, відаць, яны мелі маёнткі ў межах Беларусі.

VI.

Зусім інакш адбілася праца дасьледчага хутара Т-ва ў жыцьці прыгонных сялян.

Ужо ў 1829 годзе сяляне паказальнага хутара падалі генэралгубэрнатару скаргу на кіраўніка хутара Вальца.

У сваёй скарзе сяляне пішуць, што Вальц моцна абцяжарвае іх непасільнымі работамі. Кожны тыдзень прыходзіцца чатыры дні з душы служыць прыгону і нічога нельга зрабіць для сваёй гаспадаркі, што нават у сьвята ня бываюць у царкве, бо Вальц ганяе іх на прыгон з сахой. Апрача таго, Вальц так іх б'ець, што нельга вытрываць. У часы прыгоннай работы не дае ім аддухі і не дазваляе жанчынам карміць грудных дзяцей. (Дело 1829 г. № 9). У сваім апраўданьні Вальц тлумачыць, што ў сьвяты ён склікае сялян для азнаямленьня з карыснымі ў гаспадарцы расьлінамі, і што ён звычайна прысуджае 25 розаг мужчынам і 15 розаг жанчынам.

Савет Т-ва расьсьледваў сялянскую скаргу. Факты пацьвердзіліся. Вальц быў зьняты з пасады. Новаму кіраўніку савет раіў карыстацца моральным уплывам на сялян, а ня біцьцём.

## VII.

Для пашырэньня вестак аб карысных способах вядзеньня сельскае гаспадаркі Вольна-Эканомічнае Таварыства проектавала выдаваць свой часопіс. Але гэта ня спраўдзілася.

Пасьля паўстаньня 1831 году справы Таварыства пагоршыліся. Школа зачынілася і самы хутар прышлося здаць у арэнду на 5 год інспэктару доктарскай управы ў Віцебску Фон-Губендалю з тым, каб ён выконваў задачы Таварыства і пашыраў карысныя веды па сельскай гаспадарцы сярод членаў таварыства.

Дзякуючы дзікім адносінам да прыгонных сялян хутара, паказальная гаспадарка прыносіла ўсё менш і менш прыбытку. Але спроба адчыненьня сельска-гаспадарчае школы надта спадабалася памешчыкам і яны пачалі клапаціцца перад царскім урадам аб організацыі спэцыяльнага земляробскага вучылішча на Беларусі. Такая школа была адчынена ў 1840 годзе ў казённым маёнтку Горкі, Магілеўскай губ.

Пасьля заканчэньня клопатаў з адчыненьнем школы таварыства пачало падрыхтоўку к выданьню земляробскага часопісу. У 1843 годзе ў Пецярбурзе была надрукавана кніга „Летопись Белорусского Общества Сельских Хозяев“. Гэта быў першы нумар даўно задуманага Вольна-Эканомічным Таварыствам земляробскага часопісу.

„Летопісь“ вельмі характэрная да таго часу кніга. У ёй зьмешчаны артыкулы аб флёры Беларусі, аб разьвядзеньні маку, крапівы з прамысловымі мэтамі, аб шкодніках сельскае гаспадаркі, аб заліўных сенажацях, аб новым плузе, які быў зроблены адным з членаў Таварыства і аб шкодзе пасяленьняў сялян малымі вёскамі. Апошні артыкул зьяўляецца пэўным паказчыкам свайго часу.

Аграрны крызіс праходзіў. Продукцыя сельскае гаспадаркі значна павялічалася. Памешчыкі ўсё больш і больш пашыралі свае засевы і адбіралі ў сялян зямлю, зганяючы іх у вялікія вёскі на кепскай зямлі. Гэты-ж уздым прамысловасьці ў сельскай гаспадарцы памешчыкаў быў прычынай і спыненьня дзейнасьці таварыства.

У 1843 г. Беларускае Вольна-Эканомічнае Таварыства было ліквідавана. Самы хутар Залучасьсе быў прададзены віцебскаму архірэю і да 1917 г. быў падгароднай архірэйскай дачай.

Нават памяць аб Вольна-Эканомічным Таварыстве зьнікла, але ўплыў яго сказаўся ў працы іншых таварystваў і гурткоў. Так пасьля 1831 году ад удзелу ў працы Вольна-Эканомічнага Таварыства адышлі памешчыкі інфлянскіх паветаў Віцебскае губ. Яны згрупаваліся каля „Рубон“, які выдаваўся ў Вільні. Гэты часопіс зьмяшчаў артыкулы краязнаўчага характару і гэтым яго супрацоўнікі як-бы працягвалі працу Вольна-Эканомічнага Таварыства.

## VIII.

Вольна-Эканомічнае Таварыства пакінула свой уплыў і на памешчыкаў Магілеўскай губ. Там таксама нарадзілася цікавасьць да вывучэньня быту селяніна і мінулага Беларусі. Губэрскія ведамасьці і губэрскія статыстычныя камітэты на працягу дзесяткаў гадоў гуртавалі каля сябе краязнаўчыя сілы поўначы Беларусі. Дзякуючы гэтаму, Віцебская губэрня самая дасьледваная частка Беларусі.

Навуковая праца Беларускага Вольна-Эканомічнага Таварыства

зрабіла ўплыў і на вывучэньне Магілеўскай губэрні. Тут асяродзьдзем краязнаўчае справы зрабілася Горацкая земляробская школа, а пазьней Земляробскі інстытут, які быў адчынены царскім урадам у выніку цэлага шэрагу хадайніцтваў беларускага дваранства.

Апошні разгарнуў шырака краязнаўчую працу. Дасьледваньне сельгасп. вялося інстытутам ня толькі ў межах этнографічнае Беларусі, але захоплівала значную частку Украіны і Вялікарусі. З 1852 па 1858 г. інстытутам выдаваліся „Записки Горыгорецкого Земледельческого Института“. „Запісак“ вышла ўсяго 6 кніг і нарэшце яны былі зачынены царскім урадам.

„Запіскі“ сьведчаць аб надта вялікім уплыве Земляробскага інстыту на панскую гаспадарку; штогодна організоўваліся пры інстытуце с.-г. выстаўкі, склікаліся зьезды паноў, на якіх абгаварваліся розныя гаспадарчыя пытаньні. З другога боку інстытут вёў шырокае вывучэньне сельскае гаспадаркі і прамысловасьці ня толькі ў межах Беларусі, а і па суседніх губэрнях. З досьледаў профэсароў і студэнтаў Горы-горацкага Земляробскага інстытуту ў межах сучаснае Беларусі найбольш цікавы: „О растении бобовник“ (Calla palustris) К. Шмідта.

У галодны 1851 год сялянства Віцебшчыны вырабляла муку з падземнага карэньня бабоўніка. Сьпечаны хлеб з гэтае мукі выклікаў ванітаваньне і пухліну па целе; і вось профэсар *Шмідт* зрабіў хэмічны аналіз кораня бабоўніка і знайшоў прычыны яго шкоднасьці. Ён дае парады памешчыкам прымешваць у муку ў галодныя гады карэньні іншых расьлін. Прафэсар раіць скарыстоўваць карэньні паўзучага пырніка, маладыя парасткі мучаньніка, забалань хвойных дрэў, барду з бровараў і асабліва ісляндзкі мох. (Запіскі Земляробскага інстытута, кніга 2-я, 1853).

З іншых прац вельмі цікавы мэтэролёгічныя назіраньні Весялоўскага (запіскі, кніга 3-я), „Мачальны промысел сялян Магілеўскай губ.“, „Аршанскія вапеньнікі“ і іншыя; хаця гэтыя працы носяць на сябе ярка панскі адбітак і навука служыць клясавым мэтам, але ўсе-ж такі вывучэньне прамысловасьці і сельскае гаспадаркі Беларусі было вельмі карысна, артыкулы ня страцілі сваёй навуковай вартасьці і цяпер.





В. Ластоўскі.

# Аб патрэбе рэформы краязнаўчых музэяў.

Аграмадны ў апошнія стагодзьдзі поступ навук адбываецца ў значнай меры з прычыны таго, што новачасныя навуковыя мэтоды апіраюць свае вывады на вывучэньнях паасобных дробных праяў;— зьбіраньне і пазнаваньне фактаў вузкае спэцыяльнасьці,—вось галоўная падваліна, на якой узрастае і расквітае патужны змах сучаснае веды.

У закрэсе краязнаўства, так званы лёкальны мэтод,—вывучаньне аддзельных часьцін краю, чым далей, набірае штораз большага значэньня. Дзеля гэтага, я думаю, аб патрэбнасьці будаваньня мясцовых музэяў ня прыходзіцца ўжо нікога ў нашы часы пераконваць;—патрэбнасьць мясцовых музэяў кожнаму краязнаўцу ясна і ачавіста. Разыходжаньне маецца толькі ў разуменьні закрэсу мясцовых музэяў.

Лёкальны краязнаўчы музэй выяўляе, зьбірае, ахоўвае і вывучае мясцовы быт і вытворчасьць у лепшых экзэмплярах лёкальнага паходжаньня. Побач з гэтым у ім павінна знайсьці месца сельская гаспадарка,—гэта галоўная апора выжыўленьня жыхарства Беларусі: гатункі глебы, іх ураджайнасьць, спосабы вырабу і навожаньня ральлі; лясы і воды, гадоўля дамовай жывёлы, сельскія і фабрычныя промыслы, мінэральныя багацьці данае ваколіцы,—мусяць займаць цэнтральнае месца ў мясцовых краязнаўчых музэях.

Лёкальныя краязнаўчыя музэі найбольш увагі павінны аддаваць не мастацтву і гісторыі, а рэальнаму, бягучаму жыцьцю, з ухілам шуканьня практычных спосабаў, якія-б маглі паслужыць да падняцьця дабрабыту мясцовага насельніцтва.

Музэй па сваім характары ёсьць ня толькі навукова-дасьледчае, але і масава навучальная ўстанова, дзеля гэтага ў мясцовых краязнаўчых музэях, побач усякіх экспонатаў, павінна быць зафіксавана мясцовае жыцьцё ў статыстычных даных і картограмах.

Прыкладам, павінна быць ілюстравана картографічна (сярэдняя спаміж абсьледваных у ваколіцы) мала інтэнсыўная гаспадарка і, побач, такая-ж ілюстрацыя да інтэнсыўнай гаспадаркі; далей—малая ўраджайнасьць пасеву благім, вырадзіўшымся насеньнем і, побач, ураджайнасьць лепшага гатунковага насеньня і г. п.

Калі ў ваколіцы маюцца хатнія промыслы (ганчарства, ткацтва, бондарства і г. д), яны павінны быць таксама прадстаўлены ў музэі, як сваімі лепшымі вырабамі, так і, картографічна, з боку вытворчасьці і даходнасьці даных промыслаў, прычым трэба зьвяртаць увагу

на дадатныя і адмоўныя бакі мясцовых вырабаў, а таксама на спосабы ўдасканаленьня іх.

Мясцовая флёра і фаўна ў краязнаўчых музэях павінны быць прадстаўлены з практычнай стараны. Прыкладам, насеньне лугавых траў і іх ураджайнасьць, лекарскія расьліны ў засушаных экзэмплярах з апісаньнем іх зьбіраньня і даходнасьці;—мясцовыя зьвяры і птушкі—шкоднікі і спосабы іх нішчаньня;—цэнныя пушныя пароды зьвяроў—час і спосабы паляваньня на іх;—рыбы рэк і вазёр—варункі і спосабы іх расплоду і г. д.

У гарадох і местэчках пачэснае месца ў краязнаўчых музэях мусіць заняць статыстыка гарадзкога і местачковага насельніцтва, яго бытавое і экономічнае палажэньне і вывучаньне гандлёвых, рамесьніцкіх і прамысловых прадпрыемстваў з боку іх організацыі і даходнасьці.

Этнографія ваколічнага народу—вось другі падставовы об'ект комплектаваньня краязнаўчых музэяў. У гэтым аддзеле повінны быць сабраны мясцовая мужчынская і жаночая вопраткі, народнае мастацтва—аздобныя тканіны, вырабы з дрэва, на якіх маецца сьлед мастацкай творчасьці, музычныя інструмэнты, дзіцячыя забаўкі і інш. Дзякуючы значнаму распашырэньню ў нас ткацкага ўмецтва, ткацкія экспонаты, як то: паяскі, анталяжы, набожнікі, фартухі, капы, посьцілкі,—могуць значна ажыўляць музэй.

Каб глядач мог адпачыць воком, павінна быць у краязнаўчым музэі таксама крыху мастацтва, архэолёгіі і нумізматыкі.

Я сказаў „крыху". Сказаў-жа я гэта таму, што комплектаваньне апошняга тыпу рэчаў ня ёсьць заданьнем краязнаўчых музэяў. Нездаровы ўхіл некаторых мясцовых краязнаўчых музэяў да зьбіраньня рэчаў зруйнаванага памешчыцкага быту—абразоў, бронзы, рукапісаў, разьбы, мэбляў—адцягае краязнаўчыя музэі ад іх жывых заданьняў і практычных мэт; а ў дадатку, сабраныя каштоўнасьці, без адпаведна кваліфікаваных навукова-дасьледчых сіл, зьяўляюцца мёртвым капіталам, які—без належна дапасаванага памяшканьня, аховы помнікаў і бясьпечнасьці ад агню—нярэдка марнуецца.

У мясцовых краязнаўчых музэях могуць заставацца гістарычныя і мастацкія рэчы толькі другараднага значэньня—копіі, зьлепкі, фотографіі. Рэчы, названай катэгорыі, першароднага значэньня (орыгіналы мастацкіх твораў, рукапісныя кнігі, унікумы)—у інтэрэсах мясцовай-жа гісторыі, згодна існуючаму ў нас у БССР праву, павінны цэнтралізавацца ў Беларускім Дзяржаўным Музэі.

Дзеля ўпарадкаваньня мясцовых краязнаўчых музэяў і накіраваньня іх у бок практычнага і жывога вывучэньня сваёй ваколіцы, павінна быць праведзена ў іх рэформа:

1. З краязнаўчых музэяў трэба выдзеліць рэчы агульна-рэспубліканскага значэньня;

2. Рэчы памешчыцкага быту;

3. Павінны быць папоўнены краязнаўчыя музэі экспонатамі с.-гаспадарскага, этнографічнага, прамысловага і прыродна-гаспадарчага характару.

Краязнаўчыя мясцовыя музэі могуць адыграць сваю гістарычную ролю толькі тады, калі яны будуць пастаўлены на рэальны і жывы

грунт сваёй ваколіцы і перастануць быць недарэчнай пародыяй на музэі гуманітарнага тыпу вялікіх культурных цэнтраў.

Паміж БДМузэем і МКМузэямі трэба ўстанавіць узаемную коопэрацыю на практычным і навуковым грунце, якая павінна выразіцца ў наступным:

1. БДМузэй, шляхам утварэньня інстытуту практыкантаў пры БДМ у Менску, можа ўзяць на себе ініцыятыву падрыхтоўкі комплекту адпаведна падгатаваных кіраўнікоў для краязнаўчых музэяў.

2. БДМузэй можа даваць адпаведзі на запытаньні краязнаўчых музэяў у справе вывучэньня і аховы музэйных экспонатаў.

3. БДМузэй, з ліку сваіх дублікатаў, можа папаўняць колекцыі мясцовых краязнаўчых музэяў.

Мясцовыя краязнаўчыя музэі ўзаемна павінны выяўляць на мясцох цэнныя помнікі гісторыі і мастацтва для папаўненьня імі БДМузэю.

Без вышэйазначанага ўпарадкаваньня краязнаўчых музэяў, апошнія ня здолеюць выканаць ускладаных на іх ЦБКраязнаўства надзей. Перапаўненьне мясцовых музэяў рэчамі памешчыцкага быту, якое наглядаецца цяпер, адцягае іх ад простых, практычных заданьняў краязнаўства ў бок бескрытычнага фэтышызаваньня фальшывых падстаў мясцовага псэўдо-патрыотызму. У бягучы момант нашы краязнаўчыя музэі, у сваёй большасьці, гэта склады рэчаў, у якіх—на раўне роўнацэннае і малавартае, навуковае і ненавуковае.

Толькі наданьне практычнага характару краязнаўчым музэям можа апошнія паставіць на належны шлях вывучэньня сваёй ваколіцы ў яе жывых прыкладах.





Зьм. Ів. Даўгяла.

# Сьвіслацкая воласьць у 1560 г.

## Склад воласьці.

У 1560 г. у склад Сьвіслацкай воласьці ўваходзілі вёскі: Арліны, Астроў, Багушэвічы, Бацэвічы, Брыцалавічы, Вязьзе, Вярэйцы, Гарадзец, Гарожа, Грава, Задобрычы, Зборск, Каменічы, Колбеча, Лапічы, Окча, Цэль, Цяплухі і Шэйпічы [1]). Гэтыя 19 вёсак сваім адміністрацыйным асяродкам мелі „замак Сьвіслацкі“ [2]).

**Сьвіслацкая замкавая воласьць у 1560 г.**




---

1) Прыведзеныя назвы, здаецца, славянскага пахаджэньня, як лёгка кожны можа зразумець. Хіба толькі назвы—Колбеча, Окча, Шэйпічы,—нібыта, патрабуюць тлумачэньня з літоўскае мовы (калбеці—гаварыць, казаць, акечас—барана, шэйп альбо шэйпо—так і гэтак). Падтрыманьне і падставу да такое думкі даюць прозьвішчы „Ліцьвін“, „Ліцьвінавіч“—якія мы сустракаем паміж насельніцтвам, напрыклад, у Цяплухах (§ 35). Відаць, што літоўцы тут мелі нейкае дачыненьне.

2) Гл. наш артыкул „Сьвіслацкі замак у 1560 г.“ „Наш Край“ 1927 г. № 6-7, стар. 60—64.

### Адміністрацыйнае падпарадкаваньне.

Як звычайна для фэўдальнага часу, у замку павінен быць „дварэц“, або „двор гаспадарскі“ ў замковых сьценах. Чамусьці дварца ў вастрозе Сьвіслацкага замку ня было. Ён быў пабудаваны за ракой Бярозай, на левым яе беразе, амаль што насупроць утоку ў яе р. Сьвіслачы і, гэтакім чынам, насупроць замку.

З „замкам“ гаспадарскім гэтыя вёскі мелі сувязь, галоўным чынам, па судовых справах і ў час аддачы падаткаў.

На чале воласьці стаяў „старац“ з тых-жа сялян, які жыў у в. Грава. „Старцам“ быў у 1560 г. „Сопон Опанасовіч“.

Апроч старца, валаснымі, блізкімі да насельніцтва прадстаўнікамі адміністрацыі былі „заказьнікі“. Іх было ў воласьці сямёра. Жылі яны ў вёсках: Брыцалавічы, Гарожа, Цяплухі, Каменічы, Задобрычы, Бацэвічы і Зборск.

### Разьлегласьць воласьці.

Вёскі Сьвіслацкай воласьці раскіданы па абодвых берагох рр. Бярозы і Сьвіслачы. Агульная плошча гэтае воласьці ў XVI ст. займала каля аднэй тысячы кв. вёрст на сучасны памер, як гэта можна вылічыць на далучанай карце (3 вярст. ў цалі) і як будзе паказана ніжэй.

### Межы воласьці.

Правесьці дакладна і сьцісла межы Сьвіслацкай воласьці 1560 г. зараз цяжка, бо няма такой карты, на якой былі-б нанесены ўсе рэчкі, ручаі і ўрочышчы. Гэта справа мясцовага краязнаўчага таварыства.

Мы можам зараз толькі вызначыць, што з Сьвіслацкай воласьцю сумежнічалі: 1) на з.-поўд.-зах. і поўд.—Глуская воласьць (вёскі Гарожа, Цэль, Цяплухі); 2) на паўн.-з.—Ігуменская воласьць біскупства віленскага (в. Грава) і 3) на паўн.-усх., усх., паўд.-усх. — Бабруйская (в. Колбеча, Окча, Гарадзец, Бацэвічы і Арліны).

Але некаторыя вёскі мелі ў сумежжы маёнткі і вёскі прыватнаўласьнікаў-паноў: так в. Цэль мела мяжу з маёнткам паноў Служкаў (в. Арэшкавічы), в. Грава з княз. Крошынскімі (в. Ляшчына) і панам Лядзкім (Ачызы, Балотча), Вязьзе, Зборск і Каменічы—з панамі Осыкамі (Жорнава і Жыціна) в. Багушэвічы—з Нарушэвічамі (Божына) і Рагозамі (Якшына) і інш.

Калі і якім чынам зьявіліся тутака гэтыя паны і ці не замацаваліся за імі названыя маёнткі яшчэ ня вельмі даўно,—гэтага мы ня ведаем. Гэтыя сумежныя маёнткі былі часткай Сьвіслацкай воласьці, і, такім чынам, у XV стал., у часы Вітаўта і Казіміра (1392—1430, 1444—1494) плошча апошняе была больш значнай, чым у 1560 г.

Гэтая думка зьяўляецца ня толькі верагоднай, але і слушнай, калі прыняць пад увагу, што ўсе названыя ўласьнікі-паны павінны былі, паводле рэвізіі 1560 г., прымаць актыўны ўдзел у будове і рэпарацыі Сьвіслацкага замку. Відаць, у іх руках былі маёнткі і вёскі, якія ўваходзілі ў склад Сьвіслацкай воласьці, але за іх продкаў калісьці перайшлі да іх „на вечнасьць“. Вось, напрыклад, рэвізія зазначыла такі факт: паны Нарушэвічы павінны былі рабіць дзьве гарадні ў Сьвіслацкім замку таму, што іх продкі, за часы яшчэ в. кн. Вітаўта, „выслужылі“ два сялы Сьвіслацкай воласьці—Божын і Нягонічы. Альбо

адносна сяла Прудашэўскага ў рэвізіі сказана, што яно толькі ў часы Віленскага ваяводы Гаштольда адышло да воласьці Глускай.

Мы будзем мець на ўвазе Сьвіслацкую воласьць выключна ў тых межах, якія занесены ў рэвізію 1560 г.

**Рэчкі, вазёры, балоты.**

Прыродныя багацьці воласьці былі досыць значныя.

Сьвіслацкая воласьць была зрэзана рэчкамі і ручаямі, вазёрамі і балотамі.

У інвэнтары 1560 г., апроч галоўных рэк—Бярозы і Сьвіслачы, сустракаецца больш 50 назваў рэчак у раёне гэтай воласьці:

Болоча, Бычала, Бярозаўка, Валодзежка, Веленка, Вярховінка, Гарадзежка, Гарожка, Ганута, Гресьцінец, Добасна, Добрыча, Жэжляніца, Жыцінка, Ігуменка, Кабыль, Каменка, Кострыч, Люціна, Люпша, Межніца, Местына, Нясета, Окча, Ола, Ольса, Орана, Подбалотна, Пертніца, Поня, Прыцерпа, Рэчыца, Ражышча, Сіня, Студзенка, Суша, Таля, Трасьцянка, Трубінка, Уса, Хочэня, Цьвеціна, Цемень, Церабоўля, Цезята, Цэля, Чартоўка, Чорная, Чудча, Ясенец і інш.

Апрача гэтага пералічваецца пяць вазёр: Вялікае, Бычына, Дубовец, Ушчыж, Харынка і балоты: Белае, Варэцкае, Велена, Вялікі Лог, Галае, Дронае, Дубовае, Жывец, Копань, Кобыльле, Лукомскае, Мілева, Морхатава, Міркава, Насівель, Пярэспа, Рожынскае, Рудое, Случань, Сычова, Сьвіное, Таковіцкае, Хмельнае, Чышына, Жыравы і інш.

К гэтаму прыроднаму багацьцю трэба дадаць лясы, з якіх называюцца: лес Межынеяў, бор Пеля, бор Дылеўскі і інш.

Рэкі і вазёры насельніцтва скарыстоўвала для рыбацтва і бабровых гонаў. У балотах і лясох знаходзілі прытулак усялякія зьвяры і птушкі, што падтрымлівала заняткі паляўніцтвам.

**Глеба.**

Але ў 1560 г. насельніцтва воласьці жыло ўжо галоўным чынам земляробствам.

З 19 вёсак, якія ўваходзілі ў склад воласьці, трынаццаць (68%) паказаны ў 1560 г. маючымі грунт добры (Арліны, Астроў, Багушэвічы, Бацэвічы, Вязьзе, Вярэйцы, Грава, Задобрычы, Колбеча, Лапічы, Окча і Цяплухі). Рэштка,—шэсьць вёсак (32%),—вызначаны з сярэднім грунтам (Брыцалавічы, Гарадзец, Гарожа, Каменічы, Цэль і Шэйпічы).

Да гэтага трэба дадаць, што ўся воласьць была досыць багата лугамі. Паводле рэвізіі 1560 г., па воласьці азначана сенажацяй на 2374 $^{1}/_{4}$ вазы, дадаткова да плошчы тэрыторыі, якая ўваходзіла ў склад 146 „служб“ воласьці.

**Вясковы зямельны фонд.**

Колькасьць зямельнага фонду па кожнай вёсцы ў рэвізіі 1560 г. ня была дакладна вызначана. Валочнае памеры зямель (па уставе 1557 г.) ня было праведзена ў усходняй Беларусі. Як існавалі спрадвеку межы, з часоў асваеньня кожнай вёскай пажаданага для яе прастору, так яны і былі занесены ў рэвізію 1560 г., з вызначэньнем для кожнага „абруба“ акруглае мяжы і працягу плошчы ўдоўж і ўшырыню на мілі і вёрсты. Гэта ўбачым з наступнае табліцы № 1, прычым адзначым, што „літоўская міля“ трымала пяць „літоўскіх“ вёрст, а „літоўская“ вярста раўняецца 1,46 рас. вярст. або 798 літоўск. саж.

| №№ | Табліца № 1<br>Вёскі | Азначэньне даўжыні абрубу | Памер | Азначэньне шырыні абрубу | Памер | Квадр. плошча ў вёрстах |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Арліны | Ад гарадзішча Гарожка да р. Бярозы | 4 в. | Ад мосту па р. Гарожцы да Лянідава | 2 в. | 8 вёрст |
| 2 | Багушэвічы | Ад р. Межніцы да р. Бярозы | 2 м. | Ад р. Гануты да р. Пертніцы | 2 в. | 20 „ |
| 3 | Бацэвічы | Ад Васюкова селішча да р. Бярозы | 4 м. | Ад Тапілава логу да Язнага логу | 4 в. | 80 „ |
| 4 | Брыцалавічы | Ад м. Сьвіслачы дя р. Сіні | 3 м. | Ад р. Сьвіслачы да р. Чудчы | 1 в. | 15 „ |
| 5 | Вязьзе-Верайцы-Зборск. (1 абруб.) | Ад р. Сьвіслачы да р. Жыцінкі | 1 м. | Ад уtокі р. Жыцінкі ў Сьвіслач да р. Ораны | 1 м. | 25 „ |
| 6 | Гарадзец. | Ад р. Сушы да. р. Бычалы | 2 м. | Ад Мацьвеевай буды да балота Велены | 2 м. | 100 „ |
| 7 | Гарожа | Ад уtокі р. Ясенец у Гарожку да бал. Галага | 4 в. | Ад бал. Галага да р. Ясенец | 3 в. | 12 „ |
| 8 | Грава і Лапічы (1 абруб.) | Ад р. Жыцінкі да р. Ігуменкі | $2^1/_2$ м. | Ад р. Ораны да р. Цэлі | 4 в. | 50 „ |
| 9 | Задобрычы | Ад уtокі р. Добрычы ў Усу да бал. Вялікі Лог. | $1^1/_2$ м. | Ад р. Добрычы да р. Люпшы | 1 м. | 37,5 „ |
| 10 | Каменічы | Ад уtокі р. Каменная Ніўка ў р. Прыцерпу да луга за Мхом | 1 м. | Ад р. Прыцерпы да ўtокі воз. Бычына ў Бярозу | 3 в. | 15 „ |
| 11 | Колбеча | Ад дубровы Корма да р. Цемень | 2 м. | Ад р. Гарадзечні да р. Ражыцы | 1 м. | 50 „ |
| 12 | Окча | Ад мяжы Бабруйск вол. Бертскай да мяжы сяла Долаў | $1^1/_2$ м. | Ад мяжы Сускае да мяжы Гарадзецкае | 1 м. | 37,5 „ |
| 13 | Астроў (два ўстава) | 1) Ад прыстані на Бярозе да кургана | | Ад вяза да ўtокі р. Хотыні ў Бярозу | | |
| | | 2) Ад р. Прыцерпы да ўtокі Цезяты ў Бярозу | 6 в. | Ад прыстані на Бярозе да Каралева мосту | $4^1/_2$ в. | 27 „ |
| 14 | Цэль | Ад р. Жэжленіцы да р. Трысьценца | $3^1/_2$ м. | Ад р. Сьвісьлачы да р. Уточкі | 8 в. | 140 „ |
| 15 | Цяплухі | Ад уtокі р. Валадзежкі да ўtокі р. Сіні | 1 м. | Ад р. Сіні да мяжы с. Пруды | $1^1/_2$ в. | 7,5 „ |
| 16 | Шэйпічы | Ад уtокі р. Каменкі ў Бярозу да Перэбоднага | 4 в. | Ад мяжы в. Брыцалавічы да р. Бярозы | 2 в. | 8 „ |
| | | | | Разам. . | — | 642,5 кв. вёрст |

Адсюль мы бачым, што абрубы паасобных вёсак былі вельмі розныя: самы малы—7,5 кв. вёрст, і далей: 8 (2 вёскі)—12-15 (2вёскі)—20-25-27-37,5 (2 вёскі),—50 (2 вёскі)—80-100-140 кв. вёрст.

Агульная плошча воласьці складала 642,5 кв. літоўскіх вёрст, што ў рускіх сучасных мерах дае 938 кв. вёрст.

### Колькасьць насельніцтва.

Колькасьць насельніцтва воласьці на падставе рэвізіі 1560 г. вызначыць нельга. Тут мы маем толькі пералічэньне гаспадароў па кожным „дыму“—(двару) і па кожнай „службе“.

Такіх „дымаў“ паказана ўва ўсіх 19 вёсках 510. Колькасьць насельнікаў кожнае хаты не паказана. Але, лічачы, што ў кожнай хаце было 5 асоб сям'і, можна з пэўнасьцю зацьвердзіць, што агульная сума насельніцтва Сьвіслацкае воласьці ў гэты час была мінімальна 2.500—3.000 асоб.

Каб дакладна ўявіць сабе лік служб і колькасьць двароў (або дымаў), якая карысталася гэтымі службамі,—трэба зьвярнуцца да наступнае табліцы № 2.

| Табліца № 2. НАЗВА ВЁСАК | На аднэй службе сядзела | | | | | | Разам служб | Пад кожн. служб. сенажаці на вазоў | Азначэньне якасьці грунту |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 дым. | 2 дым. | 3 дым. | 4 дым. | 5 дым. | 6 дым. | | | |
| Арліны . . . | — | — | — | — | 14 | — | 14 | 10 | добры |
| Багушэвічы . . | — | — | 6 | 6 | — | — | 12 | 10 | добры |
| Бацэвічы . . . | — | 2 | 14 | — | — | — | 16 | 16 | добры |
| Брыцалавічы . . | — | — | 6 | 1 | — | — | 7 | 12 | сярэдні |
| Вязьзе. . . . | — | — | 1 | 3 | 1 | — | 5 | 6 | добры |
| Верайцы . . . | — | — | 3 | 3 | — | — | 6 | 7 | добры |
| Гарадзец . . . | — | — | — | 3 | 3 | - | 6 | 12½ | сярэдні |
| Гарожа . . . | — | 2 | 2 | — | — | — | 4 | 22 | сярэдні |
| Грава . . . | 1*) | — | 5 | 3 | — | — | 9 | 6 | добры |
| Задобрычы . . | — | — | — | 4(5) | 1 | 1 | 6½ | 14 | добры |
| Зборск . . . | — | 1 | 1 | — | 1 | — | 3 | 4 | добры |
| Каменічы . . . | — | — | 2 | 2 | — | — | 4 | 6 | сярэдні |
| Колбеча . . . | — | — | — | 4 | 3 | 1 | 8 | 28½ | добры |
| Лапічы . . . | 1 | — | 7 | 4 | — | — | 12 | 5 | добры |
| Окча . . . | — | — | 3 | — | — | 1 | 4 | 21 | добры |
| Астроў . . . | — | 3 | 9 | — | — | — | 12 | 26½ | добры |
| Цэль . . . | — | 2 | 5 | — | 1 | — | 8 | 50 | сярэдні |
| Цяплухі . . . | 1 | 6 | — | — | — | — | 7 | 26 | добры |
| Шэйпічы . . . | — | — | 2 | 2 | — | — | 4 | 17½ | сярэдні |
| | 3<br>2% | 16<br>11% | 66<br>45% | 34<br>23% | 24<br>17% | 3<br>2% | 146<br>100% | | |

Разгляд гэтае табліцы сьведчыць, што галоўная маса насельніцтва (45%) складалася з трох хатніх служб.

Затым 23% па чатыры двары на службу,
17% па пяць двароў на службу,
11% па два двары на службу,
2% па шэсьць двароў на службу.

Нарэшце, 2% мелі па адным двары на службу.

*) „Старэц“. „Настарчэнская служба“.

## Службы і дымы.

Усяго ў 19 вёсках Сьвіслацкай воласьці, як мы бачым з табліцы № 2, лічылася 146 „служб“, г. зн. такіх фактычных адзінак зямлі і ўсялякіх угодзьдзяў, якімі карысталася насельніцтва і якія былі адзінкамі пры абкладаньні падаткамі і павіннасьцямі. Пахаджэньне „служб“ дагэтуль ня высьветлена ў гістарычнай літаратуры. Больш верагодна меркаваньне, што гэта наогул нешта блізкае да аднае валокі (19 дзес.) зямлі, або троху больш.

На гэтых „службах“ сядзела насельніцтва, якое складала 510 дымаў, або гаспадарак. Прымаючы пад увагу, што на 146 служб прыходзілася 510 дымаў, відаць, што, у сярэднім, на адну службу прыходзілася 3,4 дымы *).

| | | | |
|---|---|---|---|
| Фактычна на „службе“ сядзела па | 1 | дыму— | 2 выпадкі |
| „ | 2 | „ | —16 „ |
| „ | 3 | „ | —67 „ |
| „ | 4 | „ | —34 „ |
| „ | 5 | „ | —24 „ |
| „ | 6 | „ | — 3 „ |

Адносна таго, як была заселена Сьвіслацкая воласьць у 1560 г. могуць падсказаць даныя, унесеныя ў рэвізію 1560 г. аб вольных для сялібы мяйсцох.

Там чытаем:

1. У абрубе в. Цэлі тры „пустовские земли на имя Ботвиновщина, здавна залеглые. Может быць их, проробивши, на трыдцать бочок. А з‘особна в том обрубе земли, на прыпаш годное, на 30 бочок. Воли нет де саживати, иж грунты зарослые, некчемные боры и балота, лесупотросе островы есть и то для дерева бортного зоставуют“.

2. У абрубе в. в. Грава і Лапічы—„Кгрунту на прыпаш годного есть почасти, низили дерева бортного и дани медовое пад старые проробки больш не разробляют“.

3. У абрубе в. Задобрыч—„Воли негде осаживати, бо што лепшое розроблено, адно-ж может еще быти кгрунту на припаш годного на сто бочок“.

4. У в. Колбечы—„Воли осаживати негде, иж болото и мест ничемных много, а на проробок годного велми мало“.

5. У в. Бацэвічы—„Воли негде осаживати, иж кгрунт узкий. К тому, што лепшое порозпахивано, а адно для пщол, и теж лесы, на проробок негодные, зоставлены“.

З прыведзеных вытрымак досыць зразумела, што ў Сьвіслацкай воласьці ў 1560 г. ня было прывабных месц, каб на іх асадзіць вольнае прышлае насельніцтва. Што датычыць „пустовских зямель“, на якіх жыхары былі, ды разышліся,—то толькі ў абрубе аднае вёскі Цэль зазначаны такі кавалак грунту па 30 бочак.

У некаторых вёсках яшчэ былі грунты, годныя „на прыпаш“, або

*) У гэта падагульненьне ня ўведзены ні ў рэвізіі, ні ў нашай табліцы грунт, якім карысталіся духоўнікі Зборскай царквы. Адносна гэтае, адзінае ў воласьці царквы і забясьпекі яе грунтам ў рэвізіі запісана наступнае:

„Пры тых трох сёлах (Вязьзе, Верайцы і Зборск)—поп села Изборского держит здавна на церковь землі пашное па розных местцах бочок сарок две и пол, а сеножатей всих и з зарослями на 38 возов. То всё по давному на церковь заставлено“.

„на проробок“, на павялічэньне ральлі гэтых вёсак: у Цэлі—на 30 бочак, у Граве і Лапічах—„по части“, у Задобрычах—на 100 бочак.

Відаць, што грунты лепшыя і годныя для земляробскае гаспадаркі ўжо былі паразвораны. З погляду рэвізораў воласьць была заселена добра.

### Забясьпека рабочай жывёлай.

Цяпер спынімся на забясьпецы насельніцтва Сьвіслацкай воласьці ў 1560 г. рабочай жывёлай, паколькі дынаміка вясковае гаспадаркі знаходзіцца ў непасрэднай сувязі ня толькі з грунтам і насельніцтвам, але таксама і з рабочай жывёлай.

Рабочая жывёла воласьці вызначана ў табліцы № 3.

| Табліца № 3 | Жывёла на дымы | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Па 1. | | 2. | | 3. | | 4. | | 5. | | Па 6. | |
| ВЁСКІ | Вал. | Кон. | Вал. | Кон. | Вал. | Кон. | Вал. | Кон. | Вал. | Кон. | Вал. | Кон. |
| Арліны. | | | | | | | | | 10 | 6 | | |
| Сл. 14, дым. 70 на кожнай | | | | | | | | | 9 | 9 | | |
| службе па 5 дымаў. | | | | | | | | | 8 | 6 | | |
| | | | | | | | | | 8 | 8 | | |
| | | | | | | | | | 9 | 7 | | |
| | | | | | | | | | 9 | 6 | | |
| | | | | | | | | | 7 | 7 | | |
| | | | | | | | | | 6 | 3 | | |
| | | | | | | | | | 9 | 6 | | |
| | | | | | | | | | 7 | 6 | | |
| | | | | | | | | | 8 | 5 | | |
| | | | | | | | | | 6 | 5 | | |
| | | | | | | | | | 9 | 6 | | |
| | | | | | | | | | 6 | 5 | | |
| Багушэвічы. | | | | | 9 | 7 | 7 | 6 | | | | |
| | | | | | 6 | 7 | 6 | 5 | | | | |
| Сл. 12, дым. 42. | | | | | 5 | 4 | 6 | 7 | | | | |
| 6 сл. па 3 дым. | | | | | 6 | 6 | 7 | 4 | | | | |
| 6 сл. па 4 дым. | | | | | 10 | 8 | 7 | 7 | | | | |
| і г. д. | | | | | 9 | 6 | 7 | 7 | | | | |

Лік рабочае жывёлы (валоў і коняй) па воласьці паказвае наступнае:

1. Галоўнай рабочай жывёлай былі валы. Гэта відаць з таго, што ў значнай большасьці лік валоў пераважвае па кожнай службе. Выпадкі, калі і валоў і коняй было пароўну, параўнальна нязначныя. На 146 служб (80 проц.) такіх выпадкаў усяго 21 (15 проц.), Большасьць коняй у 7 выпадках (5 проц.).

Але гэта статыстыка не дае мажлівасьці сказаць, якую колькасьць валоў і коняй і ў якіх суадносінах трэба лічыць здавальняючай для сярэдняй гаспадаркі, бо мы маем агульны лік жывёлы на 1—6 дымаў, а не на кожны дым паасобку.

Здавалася-б, што для параўнаньня трэба было-б узяць адзін дым на службу. Мы маем такія прыклады: на ½ служб. сядзеў 1 дым з 4 вал. і 4 кан. (у Задобрычах) і 4 валамі і 3 конямі (у Лапічах) і

ў гэты-ж час на поўнай службе 1 дым меў 2 валы і 1 каня (у Цяплухах) і 6 валоў і 5 коняй (у Граве). Такім чынам, ніякай нормы фактычна ўстанавіць нельга. Мала гэтага. Былі выпадкі, што коняй зусім ня было на ўсю „службу". Напр., у Окчы, дзе на службе было 6 дымоў, якія мелі 4 валы і ніводнага каня, або ў Гарадцы, дзе на службе 5 двароў мелі 6 валоў і ніводнага каня.

Відаць, работа на зямлі з валом пачынала зьнікаць, і пачаўся буйны пераход на конскую сілу. Тады, як у „саху" трэба пару валоў, такую-ж працу пачыналі рабіць на 1 кані.

### Сенажаці.

Даныя аб рабочай жывёле па воласьці (879+536=1.515 галоў), у параўнаньні з колькасьцю вазоў сена (2.374¼ вазоў), якое прыходзілася на гэтую жывёлу, выяўляе, што забясьпека рабочае жывёлы сенам нібыта, нездавальняючая: 2.374¼ вазоў на 1.515 галоў жывёлы дае троху больш за 1½ вазы на кожную галаву.

Гэтую норму трэба лічыць галоднай, бо кожная буйная жывёла ў сялянскай гаспадарцы спажывае ня менш за 5 вазоў (да 150 пудоў, або 2.400 кілёграмаў) сена.

Відаць, фактычны ўкос сена па воласьці быў значна большы, у рэвізіі-ж паказана мінімальная лічба вазоў сена на кожную вёску, з якой вызначаны быў грашовы падатак на карысьць двара, чаму гэтае адзначэньне не дае права лічыць здабычу сена ў паказанай лічбе вазоў вычарпанай. І ў гэтым адмоўны бок інвэнтара 1560 г. Па нашай думцы, гэта толькі перажытак нейкае натуральнае павіннасьці сенам, якое дастаўлялася ў якасьці даніны ў гаспадарскі двор.

### Падаткі грашовыя.

Падатковы і павіннасны цяжар, якому падлягала насельніцтва воласьці ў 1560 г., мажліва падзяліць на дзьве часткі: а) грашовыя і б) натуральныя.

*а) чынш* 1. Сьцісла грашовым падаткам быў чынш, які плацілі з кожнае „службы". Ён быў устаноўлены ў лічбе капы грошай з аднае службы ў тых 13 вёсках, дзе грунт паказаны „добры". Шэсьць вёсак, якія мелі грунт „сярэдні", плацілі па 50 грошаў з службы.

Гэты падатак зьбіраўся і аддаваўся каля сьвята Міхала (па „рымскаму календару", г. зн. 29 верасьня) і даваў агулам суму 150 коп. грош.) на даваенныя грошы (3 руб. 75 кап.×150) 562 р. 50 к.

*б) за сена* 2. Другім падаткам грашовым была плата за карыстаньне лугамі, за сенажаці. Ад кожнага возу была ўстаноўлена плата ў 4 пенязі. Паколькі пад кожнай службай колькасьць вазоў з сенажаці была розная ад 5—да 50 вазоў, то і плата некалькі хісталася ад 2 грошаў да 50 грашоў, як можна бачыць з наступнае табліцы № 4.

Агулам, у гаспадарскі скарб за сенажаці прыходзіла прыбытку ад воласьці 15 коп. і 50 грошаў на даваенныя грошы (3 р. 75 к.×15,50) 59 руб. 40 кап.

*в) За мёд* 3. Самы вялікі падатак грашовы быў устаноўлены за „дань медовую і за отвоз". Гэта перажытак вельмі старое даніны, якая яшчэ ў 1560 г. вызначалася нярэдка колькасьцю „уставаў" на кожную вёску. Пры гэтым у рэвізіі 1560 г. высьветлена, што „устав"—гэта будзе 48 пудоў, (цэль плаціла за два ўставы, г. зн. за 96 пудоў; Шэй-

| | Табліца № 4. ВЁСКІ. | Пад 1 служ-бай вазоў | Лічачы па 4 пенязі за воз. | |
|---|---|---|---|---|
| | | | Грош. | Пен. |
| 1 | Арліны | 10 | 4 | — |
| | Багушэвічы | 10 | 4 | — |
| | Бацэвічы | 16¹/₄ | 6 | 5 |
| | Брыцалавічы | 12 | 4 | 8 |
| 5 | Вязьзе | 6 | 2 | 4 |
| | Верайцы | 7 | 2 | 8 |
| | Гарадзец | 12¹/₂ | 5 | — |
| | Гарожа | 22 | 8 | 8 |
| | Грава | 6 | 2 | 4 |
| 10 | Задобрычы | 28 | 11 | 2 |
| | Зборск | 12 | 14 | 8 |
| | Каменічы | 24 | 9 | 6 |
| | Колбеча | 28¹/₂ | 1 | 4 |
| | Лапічы | 5 | 2 | — |
| 15 | Окча | 21 | 8 | 4 |
| | Астроў | 26¹/₂ | 10 | 6 |
| | Цэль | 50 | 20 | — |
| | Цяплухі | 26 | 10 | 4 |
| 19 | Шэйпічы | 5 | 2 | — |

пічы, Вязьзе, Каменічы плацілі за 1¹/₂ ўстава мёду, „в каждом уставе по сороку осми пудов, т. е. за пудов 72"; таксама—Грава і Лапічы. Далей „За тры уставы, г. зн. за 144 пуды плацілі Бацэвічы". „За один устав и за 12 пудов, г. зн. за 60 пудов" плацілі Задобрычы). Але гэта лічба пудоў мёду не аднолькава для кожнае вёскі, яна значна хісталася. За кожны пуд мёду плата ўстаноўлена ў 20 грошаў. Толькі адна вёска, Арліны, зусім была вызвалена ад гэтага падатку. Велічыня аблажэньня за мёд і за адвоз відаць з наступнае табліцы № 5.

| Табліца № 5 ВЁСКІ | Пудоў мёду | Копы грошы даніны | На 1 службу | |
|---|---|---|---|---|
| | | | Копы | Грошы |
| Арліны | — | — | — | — |
| Багушэвічы | 68 | 20 | 1 | 40 |
| Бацэвічы | 144 | 48 | 3 | — |
| Брыцалавічы | 32 | 10—40 | 1 | 30 |
| Вязьзе, Верайцы, Зборск | 48 | 16 | 1 | 10 |
| Гарадзец | 48 | 16 | 2 | 40 |
| Гарожа | 6 | 2 | — | 30 |
| Грава і Лапічы | 72 | 24 | 1 | 20 |
| Задобрычы | 60 | 20 | 3 | 40 |
| Каменічы | 48 | 16 | 4 | — |
| Колбеча | 48 | 16 | 2 | — |
| Окча | 48 | 16 | 4 | — |
| Астроў | 96 | 32 | — | 40 |
| Цэль | 96 | 32 | 4 | — |
| Цяплухі | 16 | 5—20 | — | 50 |
| Шэйпічы | 48 | 16 | 4 | — |
| | 878 | 290 | — | — |

Разам гэты падатак даваў у гаспадарскі скарб 290 коп. грошаў, г. зн. на нашы даваенныя грошы (3,75 кап.×290) 1.087 руб. 50 кап. Кожны дым (хата) даваў 1,7 пуда мёду. Гэта сьведчыць аб асаблівай інтэнсыўнасьці пчалярства ў воласьці ў 1560 г., чым і тлумачыцца вялізарнасьць асвоенай кожнай вёскай тэрыторыі.

*г) за ловы і гоны* 4. Рыбацтва і паляўніцтва на ўсялякага зьвера і спэцыяльна „гоны бобровые“ былі таксама абкладзены сьцíслым падаткам у гаспадарскі скарб.

Паводле нашае рэвізіі гэты падсобны промысел знаходзіўся ў 1560 г. ў такім стане:

Наколькі былі багаты і што маглі даваць валасному насельніцтву ловы „уставічные“ зьвярыныя, „як великого, так и малого зверу и тэж куничные, белочные и иные, всякие: пташые и рыбные“, можна бачыць з наступных даных.

### Зьвер і рыба.

1. Ловы зьвярыныя к 1560 г. не адбываліся. Пры кожнай вёсцы Сьвіслацкай воласьці зазначана ў рэвізіі выразна: „ловов звериных *акром переходом* никоторых нет“. Адсюль відаць, што „уставічных“ ловаў, калі лавілі зьвера ў тых мясцох, дзе былі яго ставішча, логавы, ужо ня было. Зьвералоўля зрабілася толькі выпадковай. Надзвычайна яскрава зазначана ў інвэнтары адносна вёскі Арлін: „ловов звериных никоторых нет, одно околичные села, гонячи, звер до них з пригоды запудят и стояти не может, бо негде“... Відаць, лясы, пушчы і бары, настолькі ўжо былі спустошаны, што зьвер ня меў тут належных умоў для свайго існаваньня. Трапляў ён сюды толькі пераходам, тады і рабіўся здабычай насельніцтва.

Некалькі лепш стаяла справа з рыбацтвам. Так інвэнтар зазначае рыбную лоўлю, як існуючую ў насельніцтва наступных вёсак: 1) в. Шэйнічы—на возеры ўступным з р. Бярозы і ў р. Бярозе; 2) Брыцалавічы—у воз. ўступным ад р. Сьвіслачы—Ушчыж; 3) Вязьзе, Верайцы і Зборск—у р. Сьвіслачы; 4) Астроў—на воз. ўступным з р. Бярозы; 5) Колбеча, Окча, Бацэвічы—на р. Олсе; 6) Арліны—на вялікім уступным возеры каля р. Бярозы. Такім чынам, усяго дзесяць вёсак мелі рыбны промысел, але ўжо ў дзевяці рыбацтва ня было.

### Бабры.

У поўнай меры заставаліся толькі гоны бабровыя. Паводле інвэнтару 1) в. Шэйпічы мелі іх на р. Бярозе на мілю 1 на абодвых берагох; 2) Брыцалавічы—на р. Бярозе на 1 вярсту і на р. Сьвіслачы, ад р. Сіні, на 3 мілі, разам на 16 вёрст; 3) Цяплухі—на р. Сьвіслачы на 1 мілю ад р. Валодзежкі да р. Сіні і на 1 з пал. вярсту па р. Сіні; 4) Цэль—на р. Талі да ўтокі ў р. Сьвіслач на 1 з пал. вярсту адным берагам і, затым, у Сьвіслачы да ўтокі р. Укочкі на 2 вярсты і ад р. Цэлі да р. Жэжляніцы на 3 вярсты—разам на 6 з пал. вёрст; 5) Грава і Лапічы—на р. Сьвіслачы ад р. Араны да р. Цэлі адным берагам на 4 вярсты; 6) Вязьзе, Верайцы і Зборск—на р. Сьвіслачы ад р. Араны да р. Жыцінкі на мілю; 7) Задобрычы—на р. Бярозе, ад воз. Харынкі да ўтокі Цезяты на 1 з пал. вярсту; 8) Багушэвічы—на р. Бярозе, адным берагам, ад утокі Студзенкі да ўтокі Усы на 1 вярсту, і на р. Усе Чэзрошы да Медніцы на 1 вярсту; 9) Астроў—на р. Бя-

розе ад утокі Прыцерпы да ўтокі Цезяшы адным берагам на 4 вярсты, а другім на 2 вярсты; 10) Колбеча—на р. Олсе ад р. Режышча да вострава Глушэц, абодвума берагамі на 1 в. і далей адным берагам на паўвярсты; 11) Окча—на р. Олсе ад р. Рэчыцы да р. Окчы адным берагам на 1 вярсту; 12) Бацэвічы—на р. Олсе ад Доўгай да р. Нясеты адным берагам; 13) Арліны—на р. Бярозе ад утокі Вялікага возера да вострава Вежкі адным берагам на 2 вярсты.

Такім чынам, 16 вёсак Сьвіслацкай воласьці мелі бабровыя гоны і толькі тры вёскі (Гарадзец, Гарожа і Каменічы) гонаў бабровых ня мелі. Прычына зазначана ў рэвізіі так: „бо рэчкі вельмі малыя“. Відаць, у сувязі з тым, як памяншаліся рэчкі і зьнішчаліся лясы, адходзіў і промысел на гэтага каштоўнага зьвера, які насяляў рэчкі.

Падаткі за а) ловы зьвярыныя і рыбныя і б) гоны бабровыя падзяляліся і па кожнай вёсцы паказаны ў наступнай суме. (гл. табліцу № 6.)

| Табліца № 6 / ВЁСКІ | Ловы зьвярыныя і рыбныя | | Гоны бабровыя | | Разам | | На 1 службу | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Коп. | Грош. | Коп. | Грош. | Коп. | Грош. | Коп. | Грош. |
| Арліны | 1 | — | 1 | — | 2 | — | — | 9 |
| Багушэвічы | 2 | — | 2 | — | 4 | — | — | 20 |
| Бацэвічы | 3 | — | 4 | 30 | 7 | 30 | — | 28 |
| Брыцалавічы | 1 | 30 | 1 | 30 | 3 | — | — | 26 |
| Вязьзе, Верайцы і Зборск | 1 | 30 | 2 | — | 3 | 30 | — | 15 |
| Гарадзец | 1 | — | — | — | 1 | — | — | 10 |
| Гарожа | 1 | — | — | — | 1 | — | — | 15 |
| Грава, Лапічы | 2 | 30 | 3 | — | 5 | 30 | — | 18 |
| Задобрычы | 2 | 30 | 2 | 15 | 4 | 15 | — | 40 |
| Каменічы | — | — | — | — | — | 30 | — | 8 |
| Колбеча | 2 | 30 | 2 | 30 | 4 | 30 | — | 35 |
| Окча | 1 | — | 2 | — | 3 | 30 | — | 52 |
| Астроў | 1 | 30 | 3 | — | 4 | 30 | — | 23 |
| Цэль | 2 | — | 3 | — | 5 | — | — | 38 |
| Цяплухі | 1 | — | 1 | 30 | 2 | 30 | — | 22 |
| Шэйпічы | — | 40 | 1 | 30 | 2 | 10 | — | 32 |
| Разам | 24 | 40 | 28 | 45 | 53 | 25 | — | |

Відаць, параўнаўча, бабровыя гоны цаніліся вышэй, чым усе іншыя ловы як зьвяроў, так рыбы і птушак. Але розьніца была няістотная. За гоны бабровыя падатак быў 105 руб. на дав. грошы, а за іншыя ловы каля 93 руб.

*д) на дзяржаўцу* 5. Асобны грашовы падатак паводле ўставы зьбіраўся на „дзяржаўцу“ воласьці, у колькасьці 6 грошаў з кожнае службы.

### Натуральны падатак.

Натуральны падатак, які быў устаноўлены па інвэнтары 1560 г. з кожнае службы для ўсіх вёсак воласьці быў роўны для кожнае службы. Складаўся ён з наступных даней:

*Хлебная дань*: 1) у гаспадарскі скарб: а) жыта 1 бочка і б) аўсу

1 бочка, 2) на дзяржаўцу скарб: а) жыта паўбочкі і б) аўсу паўбочкі.

*Дань сенам і дрыўмі.* 3) на дзяржаўцу з кожнае службы павінны былі даваць два вазы сена і два вазы дроў. Аднак у інвэнтары зроблена заўвага, што насельніцтва, па сваім жаданьні, можа замяніць дань сенам грашыма—па разьліку тры грашы за воз. Дрывяная дань пакідалася як абавязковая без замены.

Каб падлічыць наогул падатковы цяжар па кожнай службе, трэба пераклaсьці гэтыя натуральныя падаткі на грошы.

Мы маем под рукамі офіцыйную расцэнку для Віленскага рынку на 1541 г. За паўбочкі аўсу—10 грошаў (салянка 5 грошаў).

Сена воз 3 грашы, саломы воз 1 грош.—Воз дроў рубаных, бярозавых і альховых, як кляча павязе,—у восень, калі гразь—1 з пал. грош, а зімой і летам 1 гр. (Акты Ю. Зап. и Зап. Рос. т. I, № 107).

За 1 бочку жыта (у два разы болш, чым авёс) (20×2) 40 грош.
на даваен. курс=2 руб. 50 кап.
За паўбочкі жыта 20 грошаў (10×2) 20 грош.=1 р. 25 кап.
За 1 бочку аўсу 20 грош. 1 руб. 25 кап.
За паўбочкі аўсу 10 грош. = 68 кап.
За 1 воз сена 3 грошы 18-20 капеек, за 2 вазы 30-40 кап.
За 1 воз дроў 1 грош 6-7 капеек, а за 2 вазы 12-14 кап.

Такім чынам, на кожную службу трэба даваць 98 грошаў, што складае 1 капу і 38 грошаў (або на даваенны курс 6 руб. 10 кап.), якую суму патрэбна далічыць да кожнага грашовага ітога, каб мець агульную суму падатку па кожнай вёсцы за адну службу.

**Сярэдні падатак на 1 службу.**

Такім чынам, усе падаткі па 19 вёсках Сьвіслацкай воласьці, якія былі ўстаўлены ў 1560 годзе, складалі на 1 службу наступную суму: (гл. табліцу № 7).

Адсюль мы бачым, што грашовы падатак на службу ў кожнай паасобнай вёсцы быў іншы і складаў цэлую градацыю, пачынаючы з мінімальнай сумы 4 руб. 85 кап. на даваенныя рускія грошы.

Цяпер мажліва вылічыць агульную суму падаткаў па кожнай вёсцы і па кожнай службе. (Гл. табліцу № 8, стар. 34).

Такім чынам, прымаючы ў падставу для 1 капы грошаў эквівалент 3 р. 75 к. на нашы грошы даваеннага часу, атрымаем агульную суму 2.907 рублёў і 70 капеек, з якой на кожную хату (дым, албо двор) прыдзецца (2.907—70 : 510) 5 руб. 70 кап. падатку *).

**Заключэньне.**

У заключэньне нашага нарысу лічым неабходным застанавіцца на пытаньні аб значэньні рэвізіі 1560 г. для воласьці.

Рэвізія 1560 году вызначыла цьвёрдыя межы воласьці і паміж вёскамі, а таксама нормы жыцьця і падаткаў для вёсак Сьвіслацкай воласьці. Гэта было важна тым, што ў працягу першай паловы XVI стал. насельніцтва нясло розныя ўцясьненьні з боку дзяржаўцаў, пад якіх воласьць трапіла ў першыя гады Жыгімонта I (1506—1544).

*) Каб прыблізіць гэтую цыфру 5 р. 70 к. да сучаснай валюты, трэба, па нашай думцы, павялічыць яе разоў у 10.

| Табліца № 7. Вёскі | Чынш. | | За сенажаці | | За мёд | | | На дзяржаўцу | Разам | | | На сучасныя грош.*) | | Натуральны падатак на кожн. служб. | | | | Разам з I службы | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Копы | Грош. | Грош. | Пен. | Коп. | Грош. | Грош. | Грош. | Коп. | Грош. | Пен. | Руб. | Кап. | Копы | Грош. | Руб. | Кап. | Руб. | Кап. |
| Арліны | 1 | — | 4 | — | — | — | 9 | 6 | 1 | 19 | — | 4 | 85 | 1 | 38 | 6 | 10 | 10 | 95 |
| Багушэвічы | 1 | — | 4 | — | 1 | 40 | 20 | 6 | 3 | 10 | — | 11 | 97 | 1 | 38 | 6 | 10 | 17 | 7 |
| Бацэвічы | 1 | — | 6 | 5 | 3 | — | 28 | 6 | 4 | 40 | 5 | 17 | 55 | 1 | 38 | 6 | 10 | 23 | 65 |
| Брыцалавічы | — | 50 | 4 | 8 | 1 | 30 | 26 | 6 | 2 | 56 | 8 | 11 | 08 | 1 | 38 | 6 | 10 | 17 | 18 |
| Вязьзе, Верайцы і Зборск | 1 | — | 2 | 4 | 1 | 10 | 15 | 6 | 2 | 33 | 4 | 9 | 37 | 1 | 38 | 6 | 10 | 15 | 47 |
| Гарадзец | — | 50 | 5 | — | 2 | 40 | 10 | 6 | 3 | 51 | — | 14 | 46 | 1 | 38 | 6 | 10 | 20 | 56 |
| Гарожа | — | 50 | 8 | 8 | — | 30 | 15 | 6 | 1 | 49 | 8 | 6 | 88 | 1 | 38 | 6 | 10 | 12 | 98 |
| Грава і Лапічы | 1 | — | 2 | 4 | 1 | 20 | 11 | 6 | 2 | 46 | 4 | 10 | 30 | 1 | 38 | 6 | 10 | 16 | 40 |
| Задобрычы | 1 | — | 11 | 2 | 3 | 40 | 40 | 6 | 5 | 37 | 2 | 21 | 8 | 1 | 38 | 6 | 10 | 27 | 18 |
| Каменічы | — | 50 | 9 | 6 | 4 | — | 8 | 6 | 5 | 13 | 6 | 19 | 62 | 1 | 38 | 6 | 10 | 25 | 72 |
| Колбеча | 1 | — | 11 | 4 | 2 | — | 35 | 6 | 3 | 52 | 4 | 14 | 55 | 1 | 38 | 6 | 10 | 20 | 65 |
| Окча | 1 | — | 8 | 4 | 4 | — | 52 | 6 | 6 | 6 | 4 | 22 | 90 | 1 | 38 | 6 | 10 | 29 | — |
| Астроў | 1 | — | 10 | 6 | 2 | 40 | 23 | 6 | 4 | 9 | 6 | 15 | 58 | 1 | 38 | 6 | 10 | 21 | 68 |
| Цэль | — | 50 | 20 | — | 4 | — | 38 | 6 | 5 | 54 | — | 22 | 15 | 1 | 38 | 6 | 10 | 28 | 25 |
| Цяплухі | 1 | — | 10 | 4 | — | 50 | 22 | 6 | 2 | 18 | 4 | 8 | 65 | 1 | 38 | 6 | 10 | 14 | 75 |
| Шэйпічы | 1 | 50 | 2 | — | 4 | — | 22 | 6 | 5 | 30 | — | 20 | 10 | 1 | 38 | 6 | 10 | 26 | 20 |

*) Капа (60) грошаў літоўскіх у 1560 г., на нашы грошы—3 рублі 75 кап. (Гарбачэўскі, Слоўнік), чаму 1 грош (3,75 руб : 60) 6,25 капеек, 1 пенязь (6,25 кап. : 10) 0,63 капейкі. Таварная цана пададзена вышэй.

Да нас захаваўся шэраг актаў у Літоўскай мэтрыцы, з якіх яскрава відаць, што ў больш старыя часы, менавіта ў XV ст., за Вітаўтам (1392—1430), за Казімірам (1444—1494) і Аляксандрам (1494—1506) падатны цяжар джярджаўся на якімсь адным узроўні.

Кожная вёска жыла ў поўнай меры самастойна. Была абложана з свайго абруба данінай у гаспадарскі скарб, але ўсе „разметы" рабіла сама і намесьнік меў права ўезду ў воласьць толькі за „полюдьем" і для судовых спраў.

У XVI стагодзьдзі пайшлі навіны. Воласьць трапіла пад дзяржаўцу, які пачаў спаганяць з яе новыя падаткі. Ужо ў 1513 г. Сьвіслацкая воласьць мела доўгую цяжбу з Грыгорам Іванавічам Грамыкай, які паўводзіў розныя навіны. Воласьць выйграла гэтую справу, хаця пан Грамыка ўсё-ж ашукаў і абабраў воласьць*).

| Табліца № 8. ВЁСКІ | Лік службаў | Падатак на 1 службу | | | Разам на ўсю вёску | | | На нашы даваен. грошы | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Копы | Грош. | Пен. | Копы | Грош. | Пен. | Руб. | Кап. |
| Арліны. . . . . | 14 | 2 | 57 | — | 41 | 18 | — | 154 | 80 |
| Багушэвічы . . . | 12 | 4 | 48 | — | 57 | 36 | — | 213 | — |
| Бацэвічы . . . . | 16 | 6 | 18 | 5 | 100 | 56 | — | 378 | 50 |
| Брыцалавічы . . . | 7 | 4 | 34 | 8 | 32 | 3 | 6 | 120 | 20 |
| Вязьзе, Верайцы і Зборск . . . | 14 | 4 | 11 | 4 | 58 | 34 | 6 | 219 | 70 |
| Гарадзец . . . . | 6 | 5 | 29 | — | 34 | 14 | — | 128 | 40 |
| Гарожа . . . | 4 | 3 | 27 | 8 | 13 | 51 | 2 | 52 | — |
| Грава і Лапічы . . | 21 | 4 | 24 | 4 | 92 | 25 | 8 | 346 | 60 |
| Задобрычы . . . | $6^1/_2$ | 7 | 15 | 2 | 61 | 6 | 3 | 229 | 10 |
| Каменічы . . . . | 4 | 6 | 51 | 6 | 29 | 9 | 6 | 110 | 40 |
| Колбеча . . . . | 8 | 5 | 30 | 4 | 44 | 3 | 2 | 165 | 20 |
| Окча . . . . | 4 | 7 | 44 | 4 | 30 | 57 | 6 | 116 | — |
| Астроў. . . . | 12 | 5 | 47 | 6 | 69 | 31 | 2 | 261 | 80 |
| Цэль . . . . | 8 | 7 | 32 | — | 60 | 16 | — | 226 | — |
| Цяплухі . . . . | 7 | 3 | 56 | 4 | 27 | 34 | 8 | 103 | 40 |
| Шэйпічы. . . . | 4 | 7 | 8 | — | 21 | 28 | — | 82 | 60 |
| | | | | Разам: | 775 | 5 | 9 | 2907 | 70 |

У памяці насельніцтва захаваўся жывы ўспамін аб тым, што з часоў в. князя Вітаўта, і пасьля яго—пры Казіміры і Аляксандры,—у працягу XV сталецьця, воласьць уносіла толькі наступныя падаткі:

а] у гаспадарскі скарб: 1] мёду па 4 бязьмены ў пуд у лубкох, а ня „голага"; 2] палюднае па $1^1/_2$ грошы; 3] езоўнічае двараніну па палціне [50] грашоў.

б] Гараднічы атрымліваў сена, і ніякіх падачак яму ня йшло.

в] Намесьнік атрымліваў: 1] *З воласьці* 10 каменяў мёду, 8 ялавіц, 8 вепраў, 8 бараноў і 2 бочкі солі; з *3 сох*—збажыны: па салянцы жыта і аўсу, і па карцы круп. 2] *З кожнага дыму* па сыру, па курыцы і 10 яец, па куску масла і па возу сена. 3] На намесьніка-ж ішоў у колькасьці 10 грашоў ад рубля „перасуд", а па справах вышэй 10 рублёў—1 рубель.

*) Довнар-Запольский М. В.—Очерк по истории зап.-русск. крестьянства, стар. 22.

Усе падаткі на намесьніка сяляне прывозілі ў Сьвіслач і аддавалі, нікуды-ж не павінны былі вазіць.

г) Пісары, якія прыяжджалі выбіраць „серебшчыну", атрымлівалі толькі ад сялян „піці і есьці дастатак" *].

Але ў час Жыгімонта I наступіў новы пэрыод у абкладаньні насельніцтва падаткамі. Пад уплывам, экономічнае політыкі, бо з канца XV ст. пачаўся вываз беларускае сельск.-гаспад. продукцыі за межы, нормы абкладаньня пачалі вельмі нарастаць, і падаткі ў Сьвіслацкай воласьці павялічыліся.

Вось які захаваўся па гэтым пытаньні процэс, выкліканы цяжарам падаткаў.

У 1534 г. Сьвіслацкая воласьць была ў дзяржаньні Кіеўскага ваяводы. Упраўляў яго намесьнік п. Андрэй Якубавіч Няміра. Розныя навіны, усякія крыўды і цяжары мелі вынікам, што людзі з воласьці і места пачалі расходзіцца розна. Места і воласьць зубожылі і дань зьменшылася. А ў канцы валашчане і мяшчане Сьвіслацкія занесьлі скаргу да в. кн. Жыгімонта I Аўгуста на радыкальныя зьмены ў падатковым спагнаньні, як та:

1) *З двух сох*—бочку і 2 каўшы мукі, бочку і 2 каўшы аўсу, і з кожнага возу па тры пенязі за запіс.

2) Асобна з кожнага сяла па 6 бочак аўсу.

3) Мука дастаўлялася ўжо ў Кіеў, і дзяржаўцаў намесьнік браў з сялян „пішчага" 2 грашы і 2 пенязі.

Але самая вялікая навіна была ў тым, што пачаў практыкавацца новы падатак у „размёту" подацяй, які належаў да самае воласьці і ў старыя часы праводзіўся пад наглядам валаснога „старца".

Намесьнік дзяржаўца пачаў сам выяжджаць на воласьць з купай услужаючых. Прыяжджалі з імі нават жонкі, на 20-30 канях. Вязьлі таксама з сабой „важчага". Прыехаўшы, даніны ня бралі, але „держалі" да таго часу, пакуль не „дадуць поклон". Апошні вызначаны ў сялянскай скарзе так: З кожнага ўставу мёду па 3 бабры, па 2 мядніцы мёду і грашоў 12—15. А важчы браў сабе за кожны пуд па 5 бязьменаў.

Калі-ж сяляне не жадалі „даць паклону", то з воласьці бралі „ябеднікаў", і яны спаганялі з кожнае вёскі па 2-3 грашы і пачэревья ад тых бброў, якія даваліся на дзяржаўцавага намесьніка. Далей, мёд бралі „голы", у чыстым відзе, без пасуды, і, затым, яшчэ з кожнага пуду па 3 лапаткі мёду „как можець заняці", з тых лапатак кожнае восені выходзіць ім 60 пудоў мёду, апроч „важчых" і „пішчых", а важчыя кожнае восені бралі ў іх па 30 пудоў мёду.

Зьверх гэтага з воласьці пачалі браць *полюдное:* у вясну 2 грашы і ў восень 5 грашоў і за полюдованьнем 100 бочак жыта, 150 бочак аўсу, 100 каменяў мёду, і з кожнага сяла па вепру, а калі сяло вялікае—то па вепру і ялавіцы.

Мала гэтага, пачало ўваходзіць у практыку нейкае „цягло", нейкі прымусовы абавязак, бо з кожнае вёскі „выганялі на службу" па 2-3-6 чалавек на кожны тыдзень, і калі прыдуць на службу, бяруць у іх па паўгрошу, а адпускаючы—па другім паўгрошу.

Пачалі браць па 5 коп. грошаў—„язоўнічага".

*) Доўнар-Запольскі М. В. Очерки по истории зап.-русск. крестьянства. Дадатак, стар. 19.

Калі сяляне прыходзяць сьцерагчы гаспадарскіх паслоў і гасьцёў—(відаць гэта агульна даўняя дзяржаўная павіннасьць)—замак браў у іх па 70—80 грашоў, а звальняючы ў дом па куніцы, а куніца па 12 грошаў.

Гараднічы за кожны воз сена спаганяў 12-15 грошаў, па 2 хлебы, па 2 сыры, па 2 плечкі мяса, па 2 бязьмены мёду, „парахоўшчыны“ па 2 грошы, па бочцы аўсу і забіраў гвалтам сена.

Апроч ўсяго гэтага сяляне былі абавязаны прадаваць ялавіц і вяпроў і ўсякага ўбітага зьвера ў двор дзяржаўцы за паўцаны, альбо зусім за бясцэнак.

Вельмі цяжкім для сялян быў, таксама, усялякі наезд пісароў. Яны бралі ўзьезду па 15 рублёў грашоў, апроч стравы.

Намесьнік Кіеўскага дзяржаўцы і далейшых дзяржаўцаў бралі пры разьмёце даніны па 12 бараноў кожную восень і з дыму па гусю, курыцы і па плячу мяса.

Пры разборы спраў аб пчолах, намесьнік браў сабе ўвесь мёд з тых пчол у якасьці перасуду.

Замак адабраў ад сялян некаторыя вазёры, дзе яны здаўна лавілі баброў.

24 сакавіка 1534 г. вялікі князь, разгледзеўшы гэтую справу, зацьвердзіў „старыню“, прызнаўшы, што гэтыя намесьнікі дзяржаўцаў вельмі крыўдзяць насельніцтва.

1. Намесьніку срога было наказана, каб ня меў дачыненьня да разьмёту даніны.

2. Палюдное ўстаўлена ў $1^1/_2$ грашы з службы.

3. Намесьніку ад воласьці і места вызначана, як і за першых дзяржаўцаў: 10 каменяў мёду, па 8 ялавіц, 8 вепраў і 8 бараноў, 2 бочкі солі, з 3-х сох па салянцы жыта і аўсу, па каўшы круп, з кожнага дыму па сыры, курыцы, па 10 яец, куску масла і па возе сена.

Усе гэтыя падаткі павінны здаць у Сьвіслачы.

Далей, таксама ў 1534 г., было в. князем высьветлена і абвешчана Сьвіслачанам, што ні гараднічыя, ні пісары ня маюць браць аніякіх падачак. Толькі пры спагнаньні „серебшчыны“ пісаром павінна воласьць „покуль серебшчыну выберуть“—„дати пити и ести достатак“.

Прымаючы пад увагу толькі што сказанае, зразумела, што рэвізія 1560 году была актам, які ўнёс поўную яснасьць у пытаньне аб падатках і абавязках вясковага насельніцва Сьвіслацкай воласьці і да зьдзяйсьненьня валочнай памеры ўсталяваў норму дзяржаўных абавязкаў грамадзянства.—Ня дарма гэты акт называецца „уставам“ бо ні даваць, ні браць з воласьці больш вызначанага ў рэвізіі ня было волі.

Нельга, аднак, прамінуць адну рыску дзейнасьці Грыгора Валовіча і Мікалая Нарушэвіча, якія ў 1560 г. наладзілі гэтую рэвізію Сьвіслацкае воласьці.

Рэвізія дае адказ на пытаньні: 1) адзначэньне гаспадароў на дымах і службах у кожнай вёсцы; 2) забясьпека рабочай жывёлай; 3) падаткі і павіннасьці насельніцтва на гаспадара і на дзяржаўцу; 4) межы кожнае вёскі і шырокасьць усяго грунту яе.

Але апрача гэтага па кожнай вёсцы рэвізоры імкнуліся, каб зазначыць тыя старадаўнія прыбыткі, якія выбіраліся на земскіх ураднікаў,—як: земскі падскарбі, ключнікі і падключыя.

Гэтыя падаткі былі ня вызначаны ў „старых рэестрах“. Насельніцтва таксама не захавала ў памяці, якi менавіта падатак і на каго з гэтых асоб спаганяўся, бо „замок зо всими доходы лет от колкодесят завжды на державцы держан был“.

Ня гледзячы на гэта, рэвізоры па кожнай вёсцы занесьлі ў рэвізію аднолькавую заўвагу: „тыи вси доходы по старому заставлены на воласци, нижли меновите в том реестре не описаны“.

Гэта сьведчыць аб сьцісла формальным падыходзе рэвізораў да сваёй справы, бо побач з гэтай заўвагай рэвізія кожнай вёскі бяз выключэньня мае рашучы запіс: „окром того, што па той уставе описано, никоторых иншых платов ани падачок жадных, ани на гаспадара его милость, ани на державцу своего давати не повинни“.

Даючы насельніцтву такую „уставу“ на зямлякарыстаньне, каралеўскія рэвізоры, нібыта, баяліся, што мала вызначана падаткаў і якбы падрыхтоўвалі грунт на яго павялічэньне ў будучыню.

Але ўсё-ж мы ня маем у воласьці ў 1560 г. прыгоннага насельніцтва, цяглых, і цягла няма... Ёсьць толькі вольныя людзі-даньнікі.



М. Зьбіткоўскі.

# Аб морве і шаўкоўніцтве ў Гомельскай акрузе.

Морвы (Morus alba) можна часта сустрэць у садох і парках як на поўначы, так і на поўдні Беларусі *), але часьцей сустракаецца яна ў Гомельскай акрузе.

Гэтай акрузе Беларусі сярод іншых належыць, бясспрэчна, першае месца і па ліку вядомых пунктаў, у якіх морва ёсьць і па колькасьці дарослых растучых дрэў. Сустракаючыся больш часьцей, чым у іншых акругах Беларусі, у паўночнай і заходняй частках Гомель-

*) Георгиевский, Дендрологический очерк—Записки Бел. Гос. Ин-та Сельск. Хоз. и Лесоводства. Минск. 1925 вып. 6. Зьбіткоўскі—Аб морве і гадоўлі шаўкоўнага вусеня ў Слуцкай акрузе „Наш Край“. 1926 г. № 1—(4). Зьбіткоўскі—Аб Морве ў Полаччыне. „Наш Край“. 1926 г. № 10-11 (13-14).

шчыны, морва, асабліва ў вялікай колькасьці, распаўсюджана ў паўднёва-ўсходняй, шчыльна заселенай частцы Гомельскай акругі, прыкладна, на поўдзень ад чыгункі Гомель-Злынка. Тут морва расьце ў шмат якіх вёсках і хутарох. Калі да гэтага дадаць яшчэ такія пункты, як Цераxоўка, дзе ёсьць 19 дарослых дрэў, і саўгаспадаркі: Шарсьцін—23 дрэвы, Ачоса-Рудня 8—12 дрэў, Борхаў—32 дрэвы, а таксама і тое, што каля сяленьня Івакі ёсьць лесамэліоратыўны гадавальнік (питомник) Наркамзему, у якім з 1926 году пачалі разводзіць морву, праўда яшчэ ня ў значнай колькасьці (там ёсьць пакуль што ўсяго каля сотні двугодак морвы)—дык нельга ня прызнаць, што Гомельская акруга зьяўляецца найбольш падрыхтаванай да таго, каб у ёй занятак шаўкоўніцтвам змог-бы *мець пашырэньне ў бліжэйшы час*, бо колькасьць дарослых дрэў морвы, якія ёсьць у некаторых вышэйпаказаных пунктах, у поўнай меры забясьпечвае неабходную колькасьць лісьця, патрэбнага для харчаваньня шаўкоўнага вусеня, а пашыранасьць дрэў морвы ў вёсках азначанай часткі Гомельшчыны аблягчае задачу давядзеньня гэтых пасадак да колькасьці, неабходнай для займаньня шаўкоўніцтвам. Зацікаўленасьць да шаўкоўніцтва павінна выклікаць ініцыятыву як на мясцох, так і ў вышэйшых установах, сельска-гаспадарчых і дасьледчых.

Распаўсюджваньне морвы ў Гомельшчыне ішло наступнымі шляхамі. Папершае: яна папала з сумежнай Чарнігаўскай губэрні, у якой у даваенны час земства прымала захады да распаўсюджваньня шаўкоўніцтва ў школах і сярод насельніцтва*). Другі шлях пападаньня морвы ў Гомельшчыну—гэта пры дапамозе адходных заробкаў насельніцтва. Сяляне, варочаючыся з заробкаў і пазнаёміўшыся на поўдні з морвай і яе пладамі, прывозілі з сабой насеньне з мэтаю разьвядзеньня гэтага дрэва, як пладовага. Нарэшце больш значныя пасадкі ўзьніклі па ініцыятыве прыхільнікаў (настаўнікаў, быўш. уласьнікаў панскіх гаспадарак і інш.) ужо ня толькі з мэтай скарыстаньня морвавых „ягад“, але з мэтаю шаўкоўніцтва.

Шаўкоўныя дрэвы ў Гомельшчыне адносяцца да віду белай морвы (Morus alba) і сустракаюцца ў двох формах: белаплоднай і чорнаплоднай. Растуць і прыносяць плады вельмі добра. Глебавыя і кліматычныя ўмовы ў Гомельшчыне для яе рязьвядзеньня добрыя. Старыя дрэвы дасягаюць значнай таўшчыні і вышыні. Каб даць малюнак велічыні, якой дасягае морва ў Гомельшчыне, прыводжу некалькі даных аб некаторых абгледжаных мною найбольш вялікіх дрэвах. У вёсцы Грабоўка на сядзібе сельска-гаспадарчай арцелі „Маяк“ ёсьць адно старое дрэва морвы да 16 вяршкоў дыямэтрам каля зямлі, а ніжнія галіны 7-8 вяршкоў у дыямэтры, вышыня да 7 саж.; ня гледзячы на дупло, дрэва дае вельмі багата „ягад“. У тэй-жа вёсцы ў грамадзянкі т. Ціценкавай ёсьць дрэва да 13 вяршкоў у дыямэтры (на вышыні грудзей), і ў 5 саж. вышынёю, зусім здаровае. У вёсцы Зябраўка былі два дрэвы таўшчынёю да 12 вяршк. У 1920 годзе яны згарэлі ў часе пажару. У вёсцы Дзям'янкі ёсьць дрэва да 8 вяршкоў у дыямэтры і да 4 саж. вышыні. Звычайныя разьмеры большасьці абгледжаных мною дрэў на

*) Па вельмі няпоўных справаздачах Чарнігаускай Земскай Управы ў Чарнігаўскай губэрні было здабыта ў 1890 г. 8 пуд.; у 1891 г.—16 пуд.; у 1892 г.—12 пуд. шаўковых „коканаў“, але гэтыя цыфры трэба лічыць зьменшанымі.

другім дзесятку гадоў жыцьця роўны ці перавышаюць 4 вяршкі ў дыямэтры.

Калі рост дрэў морвы ў Гомельшчыне добры, калі гаспадары адносяцца да іх уважліва ці нават з замілаваньнем, дык гэтага нельга сказаць пра адносіны да іх вясковых хлапцоў. Там, дзе дрэвы ня добра агароджаны, хлопцы наносяць ім вялікую шкоду, і калі дрэвы




не прападаюць ад паломак, дык гэта сведчыць аб жывучасьці морвы. Часам гэтыя дрэвы зусім высякаюцца. Але гэта ўжо робяць не вясковыя хлопцы, а дарослыя і ў горадзе. Так, напрыклад, у Гомелі, у садзе на Паштовай вуліцы, № 19, два дрэвы морвы былі сьсечаны ў 1923 годзе. Па пнёх можна думаць, што гэтыя дрэвы мелі да 40 год пры дыямэтры пнёў у 8-10 вяршкоў. У парку Луначарскага (б. Паскевіча) шаўкоўных дрэў, аб якіх успамінае проф. Высоцкі*), ужо няма і сьледу. Яны былі зьнішчаны ў 1923 годзе пры пабудове спортыўнай пляцоўкі. Апроч гэтых зьнішчаных дрэў у Гомелі ёсьць па адным

*) Высоцкий, Савич и др. По южной Белоруссии. Зап. Белорусск. Гос. Ин-та сельск. хоз. и лесоводства, 1925 г.

дрэве ў садох грамадзян па Палескай і Скобелеўскай вуліцах і на краю гораду па дарозе да вёскі Любкі[1]). З такога становішча выплывае неабходнасьць абароны шаўкоўных дрэў у парадку аховы помнікаў прыроды. Распаўсюджваньню ў Гомельшчыне шаўкоўніцтва павінна дапамагаць не адна толькі прысутнасьць дрэў, а яшчэ і тое, што насельніцтву некаторых частак Гомельскае акругі (Красна-Будзкі раён, а таксама і інш.) гэта дае досыць пэўны заробак. У гэтых мясцох адчуваецца аграрная перанасялёнасьць; у выніку апошняй ёсьць шмат свабодных ці мала занятых рабочых рук, а галоўны занятак насельніцтва—сельская гаспадарка ня можа інтэнсыўна паляпшацца.

Дапаможны пры сельскай гаспадарцы заробак—шаўкоўніцтва, якое не вымагае выдаткаў на сваё абсталяваньне, ніколькі не перашкаджае сельскай гаспадарцы (выхарчоўка працягваецца ў пачатку лета 30—37 дзён), не патрабуе вялікай фізычнай працы (праца зводзіцца к дагляду і кармленьню), а таму шаўкоўніцтва вельмі прыгодна для жанчын, старых людзей, калек і іншых. Пры належнай пастаноўцы і распаўсюджваньні яно можа даць кожнай гаспадарцы значны прыбытак без перашкод для сельскай гаспадаркі і яшчэ дапаможа палепшыць гаспадарку.

Першым крокам на гэтым шляху зьяўляецца распаўсюджваньне пасадак морвы.

Расьсяленьне сялян на пасёлках, у сувязі з зямляўпарадкаваньнем, у значнай меры павялічыла запатрабаваньне насельніцтва на пасадачны матар'ял (пладовыя і дэкарацыйныя дрэвы для садоў і супроцьпажарныя пасадкі). Для гэтай мэты морва вельмі прыгодна, бо ў ёй злучаюцца якасьці пладовага і дэкарацыйнага дрэва. З гэтае прычыны вельмі мэтазгодна было-б зьвярнуць увагу лесагадавальнікаў на пажаданасьць распаўсюджаньня гэтага карыснага дрэва.

Аўторытэтныя шаўкаводы ўпэўняюць, што там, дзе расьце морва, магчыма і шаўкоўніцтва. Морва ў Гомельшчыне, а таксама і ў іншых мясцох Беларусі[2]) зьяўляецца бясспрэчным фактам. Магчыма лічыць, што і прамысловае шаўкоўніцтва таксама стане фактам, асабліва ў Гомельшчыне.

Аб гэтым сьведчаць наступныя абставіны: у Гомельшчыне ў працягу трох год рабілася выхарчоўка шаўкоўных вусеняў і ёсьць асобы, знаёмыя з гэтай справай.

У вёсцы Церахоўцы і цяпер пражывае інвалід працы М. Ф. Шымковіч, якая была некалі настаўніцай у школе гэтай вёскі. Зацікавіўшыся шаўкоўніцтвам, яна вырасьціла на дадзенай ёй царкоўнай зямлі шаўкоўныя дрэвы і, калі яны вырасьлі, з 1908 па 1912 гг. зрабіла тры выхарчоўкі шаўкоўных вусеняў. Атрыманыя пры гэтым шаўковыя капшучкі яна вазіла ў Кіеў на продаж. Спыніць гэтую працу ёй прышлося па незалежных ад яе абставінах. Зямля, на якой расьлі дрэвы морвы, патрабавалася прычту.

У вёсцы Баршчоўка настаўніца Г. П. Галадкоўская таксама знаёма з шаўкоўніцтвам. У вёсцы Міхалькі грамадзянін Т. Т. Тарасаў

---

[1]) Паводле паведам. Зьм. Зьм. Струніна.

[2]) Пакуль што ў мяне няма вестак аб морве ў Калінінскай і Барысаўскай акругах. Вельмі пажадана атрымліваць адказы аб морве і шаўкоуніцтве па анкеце надрукаванай у „Нашым Краі“ за 1926 г. № 1—(4) з дадаткам галінак з лісьцямі і пладамі. *М. З.*

знаёмы з разьвядзеньнем морвы. Ёсьць і шмат іншых асоб, якія знаёмы з гэтай справай.

Такім чынам, у Гомельскай акрузе ёсьць досыць спрыяючыя ўмовы для культуры морвы і распаўсюджваньня шаўкоўніцтва. У такіх мясцох, як Церахоўка, Шарсьцін і Борхаў магчыма ўжо з наступнага лета рабіць выхарчоўкі шаўкоўных вусеняў, ня толькі паказальна, а і ў мэтах прамысловых.

Выклікаць ініцыятыву на мясцох, падтрымаць і накіраваць першыя крокі да організацыі і разьвіцьця прамысловага шаўкоўніцтва ў Гомельшчыне—гэта задача, на якую патрэбна зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу.



# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

**М. Тамковіч.**

## Да пытаньня аб санітарна-бытавым стане вёсак: Глядкі, Шабунькі, Куляшы, Бранчыцы і Чапялі, Старобінскага раёну Бабруйскае акругі *).

### Ад Мэдычна-Санітарнага Консультацыйнага Бюро ЦБК.

Выпуск у сьвет пэўнай програмы для мэдыка-краязнаўчых досьледаў ужо апраўдаў сябе: пачынаюць паступаць санітарна-бытавыя апісаньні беларускае вёскі, уложаныя паводле надрукаванай програмы. Зьяўленьне такой програмы-схэмы асабліва карысна ў тым сэнсе, што яна дае магчымасьць кожнаму мэдпрацаўніку, а таксама настаўніку і наогул краязнаўцу без спэцыяльнай падрыхтоўкі напісаць болей ці меней падрабязную санітарную характарыстыку якой-колечы вёскі.

Раз цэнтр вагі мэдыка-краязнаўчае працы перанесены на пэрыфэрычныя, мясцовыя досьледы, і да таго масавыя досьледы, то нам важна як-мага болей палепшыць краязнаўчыя досьледы і самы спосаб укладаньня вынікаў ад гэтых досьледаў. Факт, што па схэме напісана некалькі мэдыка-краязнаўчых прац студэнтамі мэдыкамі нашага БДУ, паказвае, як падобныя схэмы карысны для пачынаючых краязнаўчыя досьледы.

Падаючы да друку працу студэнта-мэдыка Тамковіча, Мэдычнае Консультацыйнае Бюро зазначае, што гэта праца мае пэўныя хібы, але яна надта каштоўна, як першае санітарна-бытавое апісаньне беларускае вёскі па пэўным пляне і як першы крок Мэдычнага Бюро па вывучэньні мэдыка-санітарнага стану насялёных пунктаў нашае рэспублікі.

*Старшыня, доктар Ів. Цьвікевіч.*

---

### I. Гісторыка-экономічнае мінулае.

Гістарычных вестак аб узьнікненьні гэтых вёсак няма. Сярод насельніцтва захаваліся некаторыя ўспаміны аб уцёках Карла XII-га пасьля Палтаўскае бойкі ў Швэцыю. Са слоў сялян войскі Карла XII-га былі канчаткова разьбіты на Тамілавай гары, прычым, у час бойкі была

*) Напісана паводле „Схэмы санітарна-бытавога дасьледваньня і апісаньня вёскі“ д-ра З. Магілеўчыка і Ів. Цьвікевіча. Менск, 1927 г.

ў караля зьбіта шапка. Уцякаючы, кароль апавясьціў усіх людзей, што ён па сваю шапку яшчэ зьвернецца. Вера ў паўторны прыход швэдаў захавалася ў сялян ажно і да гэтага часу і вельмі часта можна пачуць ад сялян такое прыслоўе: „Пачакайце, на гэтым яшчэ не канец! Скора швэд прыдзе па шапку, тады будзе яшчэ горш!“

Некалькі слоў аб Тамілавай гары. Яна знаходзіцца на поўдні Старобінскага раёну, паміж вёскамі Бранчыцы, Півашы і Чапялі і зьяўляецца самай высокай верхавінай ва ўсёй былой Слуцкай акрузе. Старыя людзі расказваюць аб ёй з нейкім трапятаньнем: бачыце, на гэтай гары закопаны швэдам тры бочкі золата на залатых калясьніцах. Шмат якія сяляне самі многа раз „бачылі“, як гэта „золата перасушваецца, і тады Тамілава гара гарыць блiскучымі агнямі“.

На беразе рэчкі Сэвяльгі, каля засьценку Глядкоў, а таксама на мяжы Бранчыц і Чапялёў ёсьць курганы, аб якіх гавораць сяляне, што




Плян распалажэньня вёсак: Глядкі, Шабунькі, Куляшы, Бранчыцы і Чапялі.

яны зьявіліся вынікам боек у часы Напалеонаўскага паходу на Маскву. Пры выпадковых раскопках у іх знаходзілі францускія грошы і іншыя рэчы (стрэльбы, пасуду). Паншчына і польскае паўстаньне 1863 году яшчэ і да гэтага часу маюць сваіх жывых сьведкаў (старых сялян).

У выніку рэформы Аляксандра II-га, сяляне атрымалі мала і кепскай якасьці зямлі, і таму ня дзіва, што в. в. Чапялі і Бранчыцы заўсёды лічыліся самымі беднымі вёскамі ў Случчыне. Перанасельніцтва і малазямельле штурхалі сялян на эміграцыю, на шуканьне лепшага

жыцьця і заробкаў. Так з вёскі Бранчыцы, да імпэрыялістычнай вайны, эміґравала ў Амэрыку каля 50 асоб і было на заробках у Донбасе каля 30 асоб. Амаль такія лічбы мы маем і на вёсцы Чапялі.

Нідзе ня можна было наняць так танна батрака, як у гэтых вёсках. Менавіта адсюль наймалі батракоў і падзённых рабочых для навакольных панскіх маёнткаў і заможных сялянскіх гаспадарак. І калі Кастрычнікавая рэволюцыя зьмяніла становішча беднаты ў в. Чапялёх, якая атрымала панскі маёнтак, на якім пабудаваны бядняцкі пасёлак, то Бранчыцы і цяпер зьяўляюцца крыніцай таннай рабочай сілы, бо бранчыцкая беднота прырэзкаў амаль што не атрымала і-малазямельле адчуваецца вельмі востра.

Зусім інакш абстаіць справа ў засьц. Глядках, Шабуньках і Куляшох. Мясцовасьць, занятая імі год 120 таму назад, была цалкам пакрыта лесам. Пажар частку лесу зьніштожыў, і памешчык Шпілеўскі пабудаваў на гэтым месцы тры памянёных засьценкі. Куляшы і Шабунькі ён аддаў у арэнду дробнай шляхце па 15 дзесяцін кожнаму, з правам сэрвітуту на ўцалеўшы лес, а ў засьц. Глядках пасадзіў прыгонных сялян. Арэнду спачатку плацілі натурай: за 15 дзесяцін—20 асьмін жыта (асьміна=3 пуд.), і толькі ў 70-х гадох XIX ст. была ўведзена грашовая аплата арэнды. У 50-х гадох XIX ст. прыгонныя з Глядкоў былі перакінуты на горшыя вучасткі зямлі ў Бранчыцы, а на іх месца пасаджаны арандатары. За 10 дзес. усіх відаў зямлі з пяцьцю дзес. сэрвітутнага лесу, плацілася пану арэнда ў разьмеры 42 руб. у год (пачынаючы з 90-х гадоў XIX ст.).

Такая арэнда зьяўлялася цяжкім ярмом для арандатарскіх гаспадарак і няма дзіва, што арандатары амаль да самай Кастрычнікавай рэволюцыі жылі ў вельмі цяжкіх антысанітарных умовах.

Жадаючы пашырыць свой маёнтак, у 1903 годзе памешчык Булгак задумаў сагнаць арандатараў з іх вучасткаў. Суд вырашыў справу скора, і ў траўні м-цы 1903 году, прышоў загад аб высяленьні з родных гнёздаў. К гэтаму-ж часу пан, падрыхтаваўшы будаўнічыя матар‘ялы, стаў прывозіць іх на арандатарскую зямлю. Арандатары ўздумалі сілаю перашкодзіць будаваньню панскага маёнтку на сваёй зямлі і праявілі адважную ўпартасьць у барацьбе. Адно толькі вялікі ўзброены націск паліцыі і арышты актыўных правадыроў арандатараў, дазволілі пану выпаўніць яго плян, у выніку якога на зямлі арандатараў былі збудованы вялікае гумно і панскі палац. Далейшае-ж будаваньне,—было спынена з прычыны таго, што за арандатарамі ў 1904 г. судом быў прызнаны чынш—вечная арэнда. К гэтаму часу арандатары былі зусім абяднеўшымі, бо ім патрэбна было прадаць усю сваю жывёлу для таго, каб мець магчымасьць судзіцца з панам. І толькі пачынаючы з 1906 году, гаспадарка арандатараў пачынае ўзмацняцца. Ужо аднэй упэўненасьці, што з зямлі ня згоняць, было досыць, каб пачаць прыводзіць у парадак разбураныя будынкі, абзаводзіцца садамі, паляпшаць сельска-гаспадарчыя прылады. Вялікая арэнда прымусіла сялян рана ўвясьці тэхнічныя культуры ў сваёй гаспадарцы. Канюшыну пачалі сеяць яшчэ ў 80-х гадох, а к 1906 году пад ёй ужо было палавіна папару. Вялікі прыбытак гаспадарцы давала бульба, пад якую пакідалася палавіна яравога палетку. Бульбу прадавалі на суседнія бровары. Асабліва вялікая ўвага была зьвернута на палепшаньне пароды коняй. У даваенны час арандатары замест 40—50 руб.

сярэдняй рыначнай цаны сялянскага каня, прадавалі свае па 120—150 руб. Племяных жарабцоў і добрых быкоў можна было знайсьці толькі ў засьценках.

Уся мясцовасьць указаных 5 населеных пунктаў, раней была пакрыта лесам, а цяпер засталося адно голае, лысае поле. Апошні сэрвітутны лес на арандатарскай зямлі, каля 200 дз., быў праданы панам купцу. І цяпер па радыюсу ў 20 вёр. няма лесу. Яшчэ 30 год таму назад, па рэч. Сэвяльзі, каля в. Куляшоў, вадзілася многа сямей баброў, а ў іншых частках лесу паляўнічыя забівалі кожны год шмат куніц, лісіц, белак і інш. Зьнік лес, а разам з ім і каштоўнае зьвяр'ё.

## II. Топографія мясцовасьці і расплянаваньне вёсак.

Глядкі, Шабунькі і Куляшы знаходзяцца на поўначы гэтай мясцовасьці, Бранчыцы на паўднёвай частцы ўсходу, а Чапялі на паўднёвай частцы захаду. Прычым, на поўначы знаходзіцца і балота, з якога цячэ рэчка Сэвяльга, праходзячы паміж Куляшамі, якія знаходзяцца з левага боку ракі, і Глядкамі і Шабунькамі, якія знаходзяцца з правага боку ракі. Далей яна цячэ недалёка ад Бранчыц і ўліваецца ў раку Случ на адлегласьці аднае вярсты ад м. Пагосту. На паўднёва-заходняй частцы знаходзяцца ўзвышшы з гарамі Тамілавай і Ганчарыцай. Глеба ў гэтай мясцовасьці па сваёй якасьці—сярэдняя. На ёй добра расьце нават пшаніца. Пласты глебы—1) Чарназем—20 сант. таўшч. 2) Суглінак—80 сант. таўшч. 3) Гліна—50 сан. таўшч. 4) Ваданосны пласт—2 мэтры. Клімат мерна-вільготны. Расьліны—звычайныя для Беларусі. Пашыраны сады, у якіх самым частым дрэвам зьяўляецца так званая „Слуцкая Бэра".

Сельсавет знаходзіцца ў вёсцы Чапялі, да якога ад засьценку адлегласьць—5 кілёмэтраў, а ад Бранчыц—4 клм. Адлегласьць да раёну (м. Старобін) ад засьц.—25 клм., а ад Бранчыц—22 клм. і ад Чапялёў—20 клм. Да акругі—(г. Бабруйск) 140 клм.

Эканомічным цэнтрам зьяўляецца галоўным чынам Слуцак. Усе пяць вёсак стаяць у нізкаватым месцы са схілам на ўсход і поўнач. У кожнай вёсцы ўсяго па аднэй вуліцы, якія ў Куляшох, Бранчыцах і Чапялёх ідуць з поўначы на поўдзень, а ў Глядкох і Шабуньках з усходу на захад. Вёскі нічым ад ветру не абаронены. Грамадзкімі плошчамі ўсюды зьяўляюцца толькі выганы для жывёлы, а ў Бранчыцах яшчэ ёсьць плошча каля царквы. Вуліцы брудныя з лужынамі і ямінамі. У Чапялёх і Бранчыцах па бакох вуліц—канавы, але гэта гразі не зьмяншае, будуюцца сяляне па абодвых бакох вуліцы.

| | Лік двароў | | Усяго | Разрывы паміж дварамі ў мэтрах | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | З адн. боку | З друг. б. | | максім. | мінім. | сярэдн. |
| Глядкі . . . . | 10 | 12 | 22 | 15 | 5 | 10 |
| Шабунькі . . | 9 | 11 | 20 | 15 | 5 | 10 |
| Куляшы . . . | 9 | 15 | 24 | 15 | 5 | 10 |
| Бранчыцы. . . | 89 | 90 | 179 | 10 | 0 | 5 |
| Чапялі . . . . | 97 | 120 | 217 | 10 | 0 | 5 |

Амаль што ў кожнага гаспадара ёсьць сады і палісаднікі, якія ня маюць ніякага экономічнага значэньня з-за далёкасьці цэнтраў збыту садавіны.

| | Лік садоў | Лік палісаднікаў | Лік ігруш і яблынь | |
|---|---|---|---|---|
| | | | ігрушы | яблыні |
| Глядкі . . . . | 22 | 22 | 146 | 132 |
| Шабунькі . . | 18 | 18 | 124 | 112 |
| Куляшы . . . | 24 | 24 | 145 | 150 |
| Бранчыцы. . . | 150 | 160 | 464 | 420 |
| Чапялі . . . . | 154 | 185 | 350 | 325 |

Уся садавіна ідзе для ўласнага ўжытку. Палісаднікі знаходзяцца каля хаты ад вуліцы.

### III. Вадазабясьпека і вадакарыстаньне.

Насельніцтва карыстаецца вадой з капаных студняў з драўляным зрубам, і толькі быдла ў летні час карыстаецца вадой з лужкоў і з рэчкі Сэвяльгі. Вада ў рацэ плыве надта павольна (асабліва ў старым рэчышчы) і таму лёгка забруджваецца; так, напрыклад жыхары кідаюць у рэчку пляцэнту ад новароджаных цялят і жарабят, гаворачы, што толькі дзякуючы гэтаму можна ўсьцерагчы жывёлу ад розных хвароб. Гэтыя пляцэнты і іншыя розныя адкіды, гніючы, распаўсюджваюць смурод і зьяўляюцца крыніцай розных пошасьцяй на быдла ўсіх пяці памянёных вёсак.

Студні пабудованы большасьцю на вуліцах, зруб вышынёй каля мэтру. Большая частка іх згніла. Стоку ад студняў няма, усе зрубы адчынены і без страхі. Дастаюць ваду вочапам. Жывёлу пояць з вядра, рэдка з карыта або з цэбра. Каля студні заўсёды мыюць бялізну.

| | Лік студняў | | Месца знаходж. | | Адлегл. калодз. ад кал. ў мэтрах | Глыбіня ў мэтрах |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | грамадзян | прыватн. | вуліца | двор | | |
| Глядкі . . . . | 5 | 1 | 5 | 1 | 40 | 2 1/2 |
| Шабунькі . . | 5 | 0 | 5 | 0 | 30 | 2 1/3 |
| Куляшы . . . | 6 | 2 | 6 | 2 | 45 | 2 1/6 |
| Бранчыцы. . . | 65 | 8 | 65 | 8 | 40 | 3 |
| Чапялі . . . . | 54 | 4 | 54 | 4 | 70 | 5 |

Капаюць студню так: робяць глыбокую яму да ваданоснага пласту, у якую ўстаўляюць алешынавую чатырохсьценную скрыню і з яе вы-

чэрпваюць пясок з вадою. Потым на кожны кут скрыні ставяць дубовыя слупы, а з надворнага боку кладуць дубовы тын і прысыпаюць зямлёю. Вада ў студні ў большасьці забруджана[1]). На тыне растуць грыбы і іншыя расьліны. Якасьць вады ўсюды добрая. У хаце вада трымаецца ў драўляных вёдрах і праз ноч яна робіцца прагорклай. Вады ў сярэднім траціцца ў працягу сутак каля 30 вядз. на хату 25—на гаспадарчыя патрэбы (паранка, варка бульбы і інш.). Улетку вада траціцца толькі на сям'ю.

### IV. Дэмографічная характарыстака насельніцтва.

Па колькасьці насельніцтва падзяляецца[2]):

| | Лік насельніцтва | | Усяго | Лік сямей | Сяляне | Шляхта |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | мужч. | жан. | | | | |
| Глядкі . . . . | 62 | 65 | 127 | 22 | — | 127 душ |
| Шабунькі . . | 53 | 62 | 115 | 20 | — | 115 „ |
| Куляшы . . . | 61 | 63 | 124 | 24 | — | 124 „ |
| Бранчыцы . . . | 453 | 486 | 939 | 179 | 877 | 62 „ |
| Чапялі . . . . | 528 | 555 | 1083 | 217 | 1083 | — |

Насельніцтва па нацынальнасьці—беларусы. У засьценках амаль што 50 проц. беларусоў-каталікоў, якія лічаць сябе палякамі. Паміж каталікамі і праваслаўнымі наглядаюцца некаторыя спрэчкі з-за сьвят, але гэтыя спрэчкі пасьля Кастрычніка значна зьменшыліся. Побач з атэістамі (дэмобілізаваныя чырвонаармейцы, комсамольцы) пачала пашырацца сэкта эвангелістаў.

| | Лік праваслаўн. | Лік катал. | Лік эвангелістаў | Лік атэістаў |
|---|---|---|---|---|
| Глядкі . . . . | 79 | 48 | — | 2 |
| Шабунькі . . | 114 | 4 | — | 1 |
| Куляшы . . . | 91 | 33 | — | 4 |
| Бранчыцы . . . | 857 | 40 | 12 | 30 |
| Чапялі . . . . | 1038 | — | 5 | 40 |

Нараджэньне, сьмяротнасьць, шлюбы і разводы адбыліся з 1/І-27 па 1/VII-27 г. ў наступнай колькасьці:

[1]) Паводле даных сельсавету.

[2]) Аўтару тут трэба было паказаць, чым іменна выклікаецца гэтая забруджанасьць. Таксама апісаць фізычны стан вады ў студнях— празрыстасьць, пах, смак, тэмпэратура. *Рэд.*

| | Нараджэньне | | Сьмяротнасьць | | Шлюбы | Разводы |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | мужч. | жан. | мужч. | жан. | | |
| Глядкі . . . . | 2 | — | — | 1 | — | — |
| Шабунькі . . | 1 | 1 | — | 1 | — | — |
| Куляшы . . . | — | — | 1 | 1 | — | — |
| Бранчыцы. . . | 14 | 8 | 11 | 3 | 5 | — |
| Чапялі . . . . | 20 | 15 | 7 | 1 | 2 | 2 |

Высокая сьмяротнасьць у Бранч. і Чапял. падае на нованароджаных [1]).

## V. Экономічная характарыстака насельніцтва.

Асноўным заняткам насельніцтва зьяўляецца хлебаробства. Саматужнікаў (краўцы, рымары, сталяры)—вельма мала: у Бранчыцах—11, у Чапялёх—10, у Шабуньках—1, у Куляшох—1 чалавак. Да Кастрычніка саматужнікі зямлі ня мелі, а цяпер яны атрымалі нарэзкі. Адыходнымі промысламі насельніцтва не займаецца з прычыны далёкасьці прамысловых цэнтраў і адсутнасьці спэцыяльнасьці. Затое Чапялі і асабліва Бранчыцы даюць танную рабочую сілу сав. гаспад. і заможным сялянам. Па сводцы Белсельтрэсту за 1926 год па сав. гас. Бранчыцы падзённая плата падзёньнікаў самая нізкая ўва ўсёй Беларусі, у сярэднім—50 кап. у дзень. Бранчыцы, апрача гэтага, зьяўляюцца пастаўшчыкамі батракоў-адзіночак. Прыблізна 100 двароў в. Бранчыц ходзіць на сэзонныя работы і каля 20—30 батракоў з вёскі служыць у розных мясцох. Сэзонныя работы на 80 проц. выконваюць жанчыны. Батракі-адзіночкі за 9 мес. службы атрымліваюць: ад 10-12 год—10 р.; ад 13-15—20 р.; ад 15-17 г.—30 р.; ад 17-18 г.—50 руб. Усе гэтыя пабочныя заробкі ідуць на пакупку самых неабходных гаспадарчых патрэб (соль, газа, жалеза і інш.).

Забясьпечанасьць насельніцтва зямлёй [2]).

| | Лік двароў | Ворнае зямлі на адзін двор | Сенажаці | Лесу | Выгану агульнага на вёску |
|---|---|---|---|---|---|
| | | у дзесяцінах | | | |
| Глядкі . . . . | 22 | 3,6 | 2. 2 | — | 42 дзес. |
| Шабунькі . . | 20 | 3,9 | 3, 4 | — | 45 „ |
| Куляшы . . . | 24 | 4,2 | 1, 7 | — | 40 „ |
| Бранчыцы. . . | 179 | 3,6 | 0, 8 | — | 120 „ |
| Чапялі . . . . | 217 | 3,8 | 0,67 | — | 100 „ |

[1]) Паўгадовы тэрмін зусім не паказальны, бо надта кароткі. „Высокая“ дзіцячая сьмяротнасьць не ілюстравана лічбамі або нават процантамі. *Рэд.*

[2]) Паводле даных сельсавету.

Лепшае экономічнае становішча гаспадарак у засьценках у параўнаньні з гаспадаркамі вёсак тлумачыцца малой колькасьцю сенажаці і выгану ў апошніх.

Ураджайнасьць сярэдняя; усюды існуе трохпалёўка.

Забясьпека насельніцтва жывёлай *).

| | Коняй | | Кароў | | Усяго на адну гаспадарку | | Сьвіней | | Авечак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | ад 2 год. | на адну гасп. | ад 1-2 | ад 2 і старэй | | | Усяго | На адну гасп. | Усяго | На адну гасп. |
| Глядкі . . . . | 47 | 2,1 | 5 | 57 | 62 | 2.8 | 65 | 3 | 108 | 5 |
| Шабунькі . . | 44 | 2,2 | 8 | 69 | 77 | 3,8 | 67 | 3,3 | 106 | 5,3 |
| Куляшы . . . | 51 | 2,1 | 8 | 73 | 81 | 3,4 | 71 | 3,0 | 91 | 3,8 |
| Бранчыцы. . . | 281 | 1,6 | 59 | 263 | 322 | 1,8 | 256 | 1,4 | 351 | 2,0 |
| Чапялі . . . . | 315 | 1,4 | 104 | 390 | 494 | 2,3 | 242 | 1.1 | 535 | 2,5 |

Забясьпечанасьць сельска-гаспад. прыладамі і гаспадарчымі прадпрыемствамі *).

| | Ветракоў | Малатарань | Веялак | Сячкарань | Воўначос. | Кузьняў |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Глядкі . . . . | — | — | 5 | 14 | — | — |
| Шабунькі . . | — | 1 | 4 | 12 | — | — |
| Куляшы . . . | — | 5 | 8 | 16 | — | — |
| Бранчыцы. . . | 2 | 2 | 4 | 45 | 4 | 1 |
| Чапялі . . . . | 2 | 2 | 4 | 20 | 1 | 1 |

Па заможнасьці насельніцтва разьмяркоўваецца так *).

| | Беднаты | Серадьнякоў | Заможных |
|---|---|---|---|
| Глядкі . . . . | 1 | 20 | 1 |
| Шабунькі . . | — | 19 | 1 |
| Куляшы . . . | — | 21 | 3 |
| Бранчыцы. . . | 79 | 98 | 2 |
| Чапялі . . . . | 75 | 142 | — |

*) Паводле даных сельсавету.

Прыватнага гандлю няма. Існуюць у Бранчыцах і Чапялёх па адным спажывецкім таварыстве і адно сел.-гасп. таварыства. Сялянства на 50 проц. зьяўляецца сябрамі коопэрацыі.

## VI. Характарыстыка сялібы, двара і хаты.

Сялянскія сялібы—малыя, у засьценках трохі большыя[1]).

| | Агульная плошча сялібы ў кв. мэтр. | | | Вольная плошча двароў у кв. мэтр. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | макс. | мін. | сярэд. | макс. | мін. | сярэд. |
| Глядкі . . . . | 4.000 | 2.000 | 2.000 | 400 | 200 | 300 |
| Шабунькі . . | 3.000 | 1.000 | 1.500 | 300 | 200 | 250 |
| Куляшы . . . | 4.000 | 1.500 | 2.000 | 400 | 200 | 300 |
| Бранчыцы . . . | 2 500 | 200 | 500 | 300 | 40 | 100 |
| Чапялі . . . . | 2.500 | 300 | 500 | 300 | 40 | 100 |

Двары пабудованы па аднашаранговым тыпе, рэдка па двухшаранговым; падзелу двароў на чыстыя і брудныя нідзе няма, а таму і пануе ўсюды бруд (на дварэ гніе салома і інш.). Клёзэтаў няма. Самы бедны гаспадар мае: хату, сенцы, хлеў і гумно, за выключэньнем саматужнікаў і батракоў, якія атрымалі зямлю, але яшчэ не забудаваліся. Будынкі ставяць з хвоі, елкі, асіны. Пабудованы ўсе хаты ў просты кут. У нямецкі кут збудована некалькі хат: у Глядках—7; у Шабуньках—3; у Куляшох—3; у Бранчыцах—10; у Чапялёх—6. Драўляных падлог у хатах вельмі мала: у Глядках—2; у Шабунках—2; у Куляшох—2; у Бранчыцах—12; у Чапялёх—20. Рэшта хат маюць падлогу зямляную. Усе хаты пакрыты саломаю; па ўсіх пяці вёсках ёсьць усяго 5 хат пакрытых гонтам. Хаты вокнамі глядзяць на вуліцу і на двор. Тып хат—пераважна чатырохсьценкі.

| | Чатырохсьценка | Пяцісьценка | З дзьвюх палавін | Дамок |
|---|---|---|---|---|
| Глядкі . . | 16 | 2 | 2 | 2 |
| Шабунькі . . | 17 | 2 | — | 1 |
| Куляшы . . | 21 | 1 | — | 2 |
| Бранчыцы . . | 161 | 12 | 2 | 2 |
| Чапялі . . | 210 | 4 | 3 | — |

Пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі стала зьяўляцца пяцісьценка і іншыя тыпы хат. Падмуркі—усюды драўляныя штандары. Ніжняе бервяно кладзецца на зямлю[2]). Разьмеры хат гэткія:

[1]) Паводле даных сельсавету.
[2]) Трэба было паказаць, чым дасягаецца ізоляванасьць хаты ад вільгаці глебы. *Рэд.*

| | Даўжыня | | Шырыня | | Вышыня ў сярэд. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Хат. | Сенц. | Хат. | Сенц. | У хаце | У сенцах |
| | | | у мэтрах | | | |
| Максімум . . | 7,0 | 5,0 | 8,0 | 8,0 | 3,0 | 3,0 |
| Мінімум . . | 3,0 | 2.75 | 4,0 | 4,0 | 1,85 | 1,85 |
| Сярэдн. . . | 4,5 | 3,0 | 5,0 | 5,0 | 2,50 | 2,50 |

Усе хаты ў сярэдзіне пабелены. Тынкаваных і габлёваных хат вельмі мала: у Глядках—2; у Шабунях—1; у Кул.—2; у Бранч.—5; у Чапялёх—4. Вакон у чатырохсьцен.—4 шт. (95 проц.); у пяцісьценках —5 вокан (70 проц.), шэсьць вокан—20 проц. і чатыры вакны—5 проц. Адносіны плошчы вокан да плошчы падлогі 1,12. Падвойныя рамы і то ня цэлыя ёсьць не ва ўсіх вокнах, а фортак дык і зусім няма. Ваконіц, няма і ўзімку абараняюць вокны ад холаду матамі з саломы. Асьвятляецца хата газоўкамі[1]), а ў сьвята—газавымі лямпамі. Печы робяцца з гліны і толькі на комін прырыхтоўваюць самадзелкавую цэглу. Разьмер печы 2×2 м. Вышыня печы—1½ мэтра. Усе печы выключна расійскага тыпу. Паляць у печы адзін раз у суткі, як улетку, так і ўзімку дзеля недахопу дроў. У год траціцца 2 куб. м. дроў[2]). Усе хаты халодныя і вільготныя, што тлумачыцца нізкім падмуркам, зямлянаю падлогаю, дзіравымі дзьвярыма, нейкімі падвойнымі, рамамі, залюднёнасьцю хаты, прырыхтоўкай корму для жывёлы і частым кармленьнем у хаце сьвіней і інш.

## VII. Санітарны быт і фізычны стан насельніцтва.

У хаце заўсёды можна знайсьці такія рэчы: вёдры, цэбры, гаршкі ночвы, карыты, кашалі, стол, лавы ля сьцен, палаці для спаньня, рэдка дзе—ложкі і шафы, паліцы, заложнікі. На куце каля стала—абразы пакрытыя рушнікамі, на стале хлеб, накрыты абрусом. Дарослыя мужчыны ўзімку з вёсак: Чапялі, Бранчыцы, Глядкі мала бываюць дома, а заўсёды езьдзяць па сена і дровы аж за 40—50 в. ад дому. Дзеці·ж з-за адсутнасьці вопраткі і абутку, сядзяць усю зіму ў хаце. Жанчыны даглядаюць жывёлу, прадуць, ткуць на кроснах і клапоцяцца аб дзецях. Узімку, як і ўлетку яны, таксама як і іх гаспадары, сьпяць ня больш, як 6 гадз. у суткі. Сяляне харчуюцца вельмі кепска: мяса амаль і ня бачаць, а больш ядуць буракі, капусту, бульбу, у многіх нават не хапае хлеба, а сала хапае адно толькі на затаўку. Вараць бульбу, капусту, буракі і розныя крупнікі, заціркі, кісялі, робяць саладуху.

Каб захаваць сала, сяляне посьцяць „вялікі пост“, піліпаўку, спасаўку і нават пятроўку. У пост часам купляюць алей.

Продукты захоўваюць у шафах, у заложніках, а то проста кладуць на лавах[3]). Гарачую страву ўзімку і ўлетку вараць толькі адзін

[1]) Газоўка—маленькі рэзэрвуарчык з газай, з якога выходзіць цененькі кноцік. Гарыць кнот бяз шкла, дае мала сьвятла *Рэд.*

[2]) Мабыць. на апал усяе хаты. *Рэд.*

[3]) Не паказана, якія іменна продукты; не паказана таксама, дзе захоўваюцца запасы продуктаў жыўленьня. *Рэд.*

раз, а ядуць яе два разы ў дзень. Пасуда гліняная а часам і драўляная. Сям'я есьць страву з аднае місκі. Пасуду ставяць у заложніку, пад прыпечкам і на лаўцы. Сьпяць сяляне на палкох, на палацях і на ложках, пры вялікай колькасьці сям'і—і на лаўках. Спэцыяльных пасьцельных рэчаў: коўдраў, падушак, сяньнікоў, посьцілак у большасьці не хапае; замяняе іх вопратка. Пасьцельная бялізна (наўлечкі і посьцілкі) зьмяняецца ўзімку два-тры разы. Сьпяць на палкох усе разам. На ложках сьпяць бацькі разам з дзяцьмі. Умываюцца штодзённа раніцою. Рукі перад ежай мыюць толькі выпадкова. Умывальнікаў нідзе няма. Рушнікі заўсёды брудныя, карыстаецца імі ўся сям'я супольна. Усё цела дарослыя мыюць адно толькі ўлетку ў рэчцы. Кажуць, што ў Чапялёх і ў Бранчыцах—шмат людзей, якія за ўсё сваё жыцьцё мыюцца два разы: як родзяцца і як паміраюць. Лазьняў па ўсім раёне няма. Дзяцей мыюць у начоўках. Нацельная бялізна робіцца з палатна і зьмяняецца раз у тыдзень (50%) і раз у два тыдні (50%). Мыла разыходзіцца на сям'ю і на ўсе патрэбы 1½-2 клгр.*). Хаты брудныя, з прычыны зямлянай падлогі і вялікай колькасьці людзей у хаце. Штодзень хату падмятаюць, беляць два разы ў год. Па ўсіх хатах ёсьць шкодныя кузуркі—блохі, клапы, прусы, тараканы і вошы. Спосабаў змаганьня з імі амаль што ніхто ня ведае. Натуральныя патрэбы дзяцьмі адбываюцца ў хаце ў цабры, або ў саганы. Узімку бяруць ягнят і парасят у хату, хаваючы іх ад холаду. Плоцьнае жыцьцё пачыняецца з 16 г. для дзяўчат і з 18 для хлопцаў. Узрост уступаючых у шлюб на вёсках: дзяўчаты—17-18 год.; хлопцы 18-19 г. У засьценках хлопцы жэняцца ў 28-30 г.; а дзяўч. 18-20 г. Галавой сям'і зьяўляецца старэйшы мужчына; у апошнія гады пашырылася сварка дзяцей з бацькамі з прычыны сямейных умоў. Аборты не распаўсюджаны. Робяць аборты бабкі так: на жывот цяжарнай ставяць гаршчок з нагрэтым у ім паветрам, усё нутро разам з маткай уцягваецца ў гэты гаршчок, цераз гадзіну гаршчок гэты разьбіваюць і цяжарная пасьля гэтага скідае. Ёсьць такія „спэцыялісткі", што поруць у матку верацяном, але гэта канчаецца вельмі кепска. Каб не зацяжарыць, усюды ўжываецца галоўным чынам Coitus interruptus. Пры родах прысутнічаюць толькі вясковыя бабкі, новароджаным дзецям даюць грудзь да паўтара году і даецца ў дзень столькі разоў, колькі дзіця хоча. Дзецям даюць суслу і часта ад першых дзён жыцьця дзіцяці.

Самай шкоднай працай для жанчын трэба лічыць апрацоўку ільну. Часта лён сушаць на пэчы, абдзіраюць і абчэсваюць яго ў хаце, што дае шмат пылу. Процэс прадзіва таксама шкодны, бо яны ўсю сваю сьліну аддаюць на кручэньне нітак. Цяжкая праца і ў час жніва. Мужчынам, самыя цяжкія дні,—сенакос на балоце за 40-50 вёрст ад дому, дзе яны працуюць у працягу двух-трох тыдняў і зусім не ядуць гарачай стравы. Многа шкодзяць здароўю селяніна паездкі па сена і дровы на цэлыя суткі. Улетку часта ўзьнікае сярод насельніцтва крываўка. Як вынік брудных хатніх умоў жыцьця селяніна,—зьяўляецца кароста, якая вельмі пашырана сярод сялянства.

Мэдыцынскі вучастак знаходзіцца ад гэтых вёсах за 20-25 кілёмэтраў. Насельніцтва большай часткай зварочваецца да шаптух і знахароў.

*) Невядома на колькі часу. *Рэд.*

## VIII. Культурны ўзровень і грамадзка-палітычны быт насельніцтва.

Да вайны было дзьве школы: адна ў Чапялёх, а другая ў Бранчыцах, якія існуюць і цяпер. Няпісьменных сярод мужчын—25%, а сярод жанчын—75%. Школы ахопліваюць 80% дзіцячага ўзросту.

Бранчыцкая школа з санітарна-гігіенічнага боку знаходзіцца ў лепшых умовах, як Чапялёўская. Яна стаіць на ўзгорку, будынак новы, добры і вялікі, з вокнамі і прасторнымі клясамі. Навуковых прылад у школе хапае.

Чапялёўская школа стаіць пасярэдзіне сяла, паміж сялянскіх будынкаў, вокны меншыя, таксама як і клясы. Столі нізкія, маленькі двор і г. д.

У сьвяты насельніцтва ходзіць на вечарынкі, сядзіць кучамі на вуліцы. Моладзь ладзіць спэктаклі, наведваюць хату-чытальню, зьбіраюцца разам і сьпяваюць песьні. П'янства і самагон не распаўсюджаны. Царкву наведваюць жанчаны і старыя мужчыны. Хуліганства няма. Зарэгістравана некалькі грамадзянскіх шлюбаў. Грамадзкія організацыі як, напрыклад, пажарная дружына, санітарная камісія, існуюць толькі на паперы. Санітарныя камісіі існуюць, але ня ведаюць, што ім трэба рабіць. Сельсавет знаходзіцца ў Чапялёх і ахоплівае вялікі раён, які складаецца з 9 вёсак. Грамадзяне гэтых вёсах слаба разьбіраюцца ў значэньні і агульнай працы сельсавету. Большасьць—палітычна маласьвядомыя, вядома, за выключэньнем моладзі, якая з кожным годам ідзе ўпярод у сэнсе набываньня ведаў праз хаты-чытальні і культурнаасьветныя гурткі.

## IX. Агульныя вывады.

Зьмешчаныя вышэй даныя паказваюць, што санітарны стан вёсак Глядкі, Шабунькі, Куляшы, Бранчыцы і Чапялі нездавальняючы. Гэта залежыць часткаю ад об'ектыўных умоў (нізкаватая мясцовасьць, балоцістая заросшая рэчка з павольнай плыньню вады, вялікая адлегласьць ад культурных цэнтраў і ад мэдычнага вучастку—20-25 вёрст(!), а часткаю ад малакультурнасьці самых насельнікаў гэтых вёсак (адсутнасьць гігіенічных ведаў і звычак, вера ў знахарскае лячэньне і г. д.).

Для палепшаньня санітарнага стану гэтых вёсак пажадана: 1. Паўгадовыя прыезды доктара для публічных гутарак на сялянскіх сходах на санітарныя тэмы мясцовага значэньня (кіданьне пляцэнт і трупаў жывёл у рэчку, адсутнасьць схілаў каля студняў і карыт для вадапою жывёлы, забруджанасьць студняў і г. пад.). 2. У часе сваіх прыездаў доктар мусіць сабраць спэцыяльны сход санітарных камісій, праверыць іх працу, даць парады, даць літаратуры, лістоўкі, дабіцца ўключэньня у склад камісій настаўніка, комсамольца, даць заданьні на пэўны пэрыод часу і г. д. 3. Узьняць перад сельсаветам і усёй грамадой пытаньне аб пабудове лазьняў.

---

Я. Сяргеенка.

# Ганчарства ў паселішчы Бабынавічы.

## 1. Пачатак ганчарства.

Паводле апавяданьняў самых старых мясцовых ганчароў, ганчарства існуе ў Бабынавічах ужо 50-60 год. Гэта адносіцца толькі да часу пачатку вырабу палівы. Выраб-жа чорнай пасуды: гаршкоў, місак, гарлачоў існуе вельмі даўно. Аб гэтым сьведчыць выраз 85-гадова-



Мал. 1.

Круг на жалезным хаду.

га селяніна з вёскі Сітна Лязьнянскага раёну, Масакова Ляксея: „У гэтым казіным горадзе толькі ганчары ды яўрэі жылі".

Гэтыя даныя не дакладныя, але яны хоць трошкі адсоўваюць заслону, якая закрывае пачатак існаваньня ганчарства ў гэтым глухім кутку Беларусі. Адносна палівы ёсьць весткі больш пэўныя. Як было вышэй зазначана, паліву пачалі выробляць 50-60 год назад. Спосаб

вырабу яе занесены з-пад Віцебску самым старым ганчаром у паселішчы Арэхам. Ужо гэтыя кароткія весткі даюць магчымасьць сказаць, што выраб палівы ў Бабынавічах запазычаны.

Разьвіцьцю ганчарства ў Бабынавічах спрыяў і спрыяе склад мясцовай глебы: навокала паселішча залягаюць у вялікай колькасьці гліна і чысты пясок, прыгодныя для вырабу пасуды ці „пбсуду“, як кажуць мясцовыя ганчары.

## 2. Тэхніка ганчарства.

Тэхніку ганчарства трэба разглядаць па двух кірунках: 1. Выраб чорнае пасуды і 2. Выраб палівы. Для вырабу тэй і другой пасуды ўжываюцца адны і тыя прылады, але самы процэс вырабу мае свае асаблівасьці ў кожным кірунку.

Прылады складаюцца з круга, шнура, ножкі медзі ці падразанкі і карыта (гл. мал. 1, 2). Круг за час свайго існаваньня дужа мала




Мал. 2.

зьмяніўся. Раней ужываўся круг на драўляным ходу, які складаўся з наступных частак: двух кругоў—ніжніка і вершняка, верацяна і сьпіц. Драўлянае верацяно забівалася ў зямлю і заставалася нярухомым, упіраючыся верхнім канцом у вяршняк, у якім зьнізу зроблена ямка, каб круг у час працы ня хістаўся. Гэты круг мясцовымі ганчарамі ня ўжываецца.

Круг на жалезным ходу мае тыя самыя часткі, што і першы, апрача сьпіц, якія тут не патрэбны, і драўлянага верацяна, якое заменена жалезным. Круціцца верацяно разам з кругам, упіраючыся ўнізе ў жалезную пласьціну—„парпліцу“, а ўверсе над вершняком ушчэмлена ў т. зв. клешчы. Круцяць круг абедзьвюма нагамі, седзячы на лаве. (Гл. мал. 3). Шнар ці шнара ўжываецца для

абгладжваньня бокоў строй пасуды і вырысоўкі на іх орнамэнту. Ён драўляны і мае ці чатырох ці трохкутную форму з абавязковай дзіркай пасярэдзіне.

Ножка зусім просты інструмэнт. Гэта палачка, якая мае з аднаго канца выемку. Ужываецца для абгладжваньня ніжняга канта пасудзіны. Падразанка ці медзь прадстаўляе сабой дрот. Медзьдзю яна называецца затым, што калісьці дзеля гэтага ўжываўся вы-



Мал. 3.

Ганчар за працай.

ключна медзяны дрот. Служыць для падрэзкі зьнізу пасудзіны, калі яе зьнімаюць з вершняка. Карыта служыць пасудзінай для перамешкі гліны.

## а) Выраб чорнай пасуды.

Процэс вырабу чорнай пасуды падзяляецца на наступныя моманты: 1. падрыхтоўка гліны, пяску і жарствы; 2. перамешка і ачыстка гліны; 3. выраб пасуды; 4. сушка і апраўка; 5. падрыхтоўка печы для апальваньня і апальваньне; 6. падрыхтоўка абары і абарываньне.

Выбіраюць для чорных гаршкоў гліну сінюю ці чырвоную, чыстую, без мергеля і буйнога пяску. Да гліны дабіраюць дробны рачны пясок і рыхтуюць жарству—дробна патоўчаны перагарэлы камень з лазьні. Пясок і жарству прасейваюць і прымешваюць да гліны. Зьмяшаўшы гліну з пяском і жарствой, падзяляюць яе на камы-сувалкі, якія зноў месяць ужо рукамі, выбіраючы буйныя каменьні, карэньні, мергель і іншыя дамешкі. Затым сувалкі падзяляюць на больш дроб-

ныя камкі-сыскі, якія ўжо ідуць на круг для вырабу пасудзіны. З кожнай сыскі выходзіць адна пасудзіна.

З гэтае гліны вырабляюць толькі чорную пасуду: гаршкі, латушкі (род міскі без палівы). Выробленую пасуду ставяць сушыць на паліцы над стольлю ў хаце. Як толькі пасуда зачарсьцьвее, яе пачынаюць апраўляць, г. зн. згладжваць тыя хібы, што атрымаліся ў часе вырабу: упадзіны, ямкі, крывізны і г. д. Цераз тры-чатыры дні гаршкі




Мал. 4.

1. Слой, 2. Чашка. 3. Кухлік, 4. Жбанок, Гарлач, 5. Цёрла, 6. Куўшын, 7. Слой 8. Стаўбан, 9. Парнікі. 10. Глёк, 11. Ваза. 12. Абручная міска, 13. Цьвятнік. 14. Урыльнік.

гатовы для апальваньня. Пачынаюць рыхтаваць для гэтай справы печ, якая падобна да звычайнай, толькі больш памерамі і „под“ ляжыць ніжэй, амаль роўна з падлогай. Папершае, на под кладуць удоўж дзьве тоўстыя альховыя сырыя палкі-прыгалкі, на якія ўпоперак кладуць роўна расколатыя плашкі.

На гэты памост ставяць гаршкі, прычым задні рад гаршкоў зьмяшчаюць у запальнікі—старыя напалавіну разьбітыя гаршкі—каб захаваць іх ад перагару. Наступныя рады гаршкоў ставяць уверх дном. У печ уваходзіць каля 150 штук пасуды. Паставіўшы гаршкі, кладуць пад памост некалькі трэсак, якія запаліўшы прапіхваюць на самы зад печы. Печ закрываюць дрывамі, але ня шчытна. Памост гарыць ззаду і паступова зьніжаецца. У часе апальваньня падкідваюць лучыну. Калі абпальваюць пэйсачную (на яўрэйскае сьвята „Пэйсах“) пасуду, дык у той час як згарыць памост, кідаюць у печ бяросту, дзёгаць, конскі кал*), закрываюць печ засланкай і пакідаюць астываць.

Пры вырабе звычайнай пасуды процэс мае яшчэ далейшыя моманты. Як дровы дагараць, пачынаюць рыхтаваць абару, у склад якой уваходзіць жытняя мука і таўчоны вугаль. Усё гэта абліваюць варам у спэцыяльным карыце і перамешваюць.

Распаленыя гаршкі цягаюць вожагам з печы, кладуць у абару і, пакруціўшы іх там, ставяць у сені прасохнуць. Гэты момант работы патрабуе хуткасьці і пагэтаму тут працуюць звычайна два чалавекі.

### б) Выраб палівы.

Для палівы выбіраюць гліну чыстую без пяску, чырвонага або сіняга колеру. Да яе ня прымешваюць ні пяску, ні жарствы. Уся далейшая апрацоўка гэтае гліны нічым ня розьніцца ад вышэйпаказанай. Выробляюць з яе чашкі, куўшыны, глякі, слоі, жбанкі, гарлачы, цьвятнікі, парнікі або двайнюшы, ва́зы, чайнікі, ку́хлікі, су́чачкі, міскі і інш. (гл. мал. 4). Украсы на гэтай пасудзе робяць рэдка. Выраб на кругу, сушка і апраўка палівы ня маюць асаблівасьцяй у параўнаньні з вырабам чорнай пасуды. Толькі пасьля сушкі пасуду накрываюць волавам, якое складаецца з сьцёртага ў парашок перапаленага волава (сьвінцу) і „прысады“. Апошняя прадстаўляе дробны белы пясок, які знаходзяць у некаторых месцах навокал паселішча і лічаць яго шкляным пяском. Ён мае ўласьцівасьць плавіцца ад агню. Волава з прысадай мяшаюць у наступнай пропорцыі: 2 меркі прысады і 1 мерку волава ці пуд волава на паўпуда прысаду.

Для наданьня паліве розных колераў прымешваюць да волава „зундру́“ (патоўчаны перагар жалеза з кузьні, які надае чырвоны колер) і перапаленую медзь (дае зялёны колер). Каб волава прыстала да пасуды, апошнюю абліваюць у сярэдзіне і паверху „шліфтай“ (так наз. клей з жытняй мукі) і тады абсейваюць паверху волавам праз сітца ці пі́тлік (гл. мал. 2). Абсееную пасуду ставяць у горн.

Горн розьніцца ад ганчарнай печы формай: ён прадстаўляе, якбы вялікую скрыню бяз крышкі, але з дном, якая складзена з цэглы. Пад дном ці подам зроблена нізкая печ, з якой агонь праходзіць угары праз дзіркі ў подзе—шлюхты.

*) Конскі кал кладуць пад сэкратам, бо заказчык, пазнаўшы гэта, не бярэ гэтую пасуду.

Кладуць у горн 200—300 штук пасуды рознай велічыні і формы. Спачатку кладуць пасуду-кругляк: гарлачы, жбанкі і г. д., потым—чашкі, глякі і г. д. Паверх кладуць абручныя міскі і горн зачарэпліваецца, г. зн. пасуду пакрываюць чаранкамі (гл. мал. 5). Агонь раскладаюць у печы спачатку маленькі і „ўкурваюць“, г. зн. награваюць паступова пасуду, бо ад вялікага агню „посуд можа пачыкацца“. Цяпер увесь час пільна сачаць ці ідзе пара з усіх шлюхтаў. Як толькі выхад пары спыніцца, агню дабаўляюць. Дровы папіхваюць далей у зад печы. Вялікую гарачыню ня робяць, каб не абгарэла волава, адзнакай чаго служаць т. зв. „зайцы“ вогненныя языкі, якія скачуць паверх горна. Калі згарыць сажа на чаранкох і чаранкі стануць чырвонымі, агонь зьмяншаюць, потым тушаць, а пасуду пакідаюць стыць у горне. На гэта патрэбна каля пяці гадзін.



Мал. 5.
Зачарэплены горан.

### 3. Продаж і заработак.

Прадаваць пасуду возяць самі ганчары ці перакупцы. Рынкам збыту служаць ваколічныя вёскі, а таксама бліжэйшыя месты і мястэчкі: Ворша, Дуброўна, Багушэва, Смальляны, Ляды, Лёзна, Любавічы, Высачыны, Рудня, Дабрамысьлі.

Спосабы збыту бываюць дваякія: 1. пасуда, асабліва гаршкі, мяняецца на жыта; 2. прадаюць у розьніцу ці цэлым возам за грошы. Паліваную пасуду прадаюць сотнямі, калі продаж ідзе агулам, а горную пасуду—печамі. Памена на жыта гаршкоў робіцца наступным чынам: за два гаршкі ганчар атрымоўвае столькі жыта, колькі яго ўвойдзе ў адзін з іх. Больш дробныя гаршкі мяняюцць па тры за адзін гаршок жыта.

Рабочага часу на выраб печы чорнай пасуды (150 гаршкоў) траціцца 5 дзён, лічачы 10—12-гадзінны рабочы дзень, а на выраб гарна палівы (300 штук) 10-11 дзён. Выдаткі па вырабе печы гаршкоў складаюцца з наступнага:

| | |
|---|---|
| 2 фунты мукі на абару . . . | — р. 8 к. |
| 1 воз гліны . . . . . | — р. 50 к. |
| 1 воз дроў . . . . . | — р. 60 к. |
| Усяго. | 1 р. 18 к. |

Прадажная цана печы гаршкоў 10—12 руб., а паштучная ад 5 да 20 кап. за штуку.

У першым выпадку застаецца на долю працаўніка 9-10 руб., а ў другім 15-16 руб.

За месяц можна зрабіць 5-6 печак, што дасьць 50-60 руб. месячнага заработку.

Выраб палівы даражэйшы, і выдаткі на горн складаюць большую суму:

| | |
|---|---|
| 15 фунтаў волава па 45 к. фунт . . | 6 р. 75 к. |
| 1 воз гліны . . . . . | 1 р. — |
| 1 воз дроў . . . . . . | 1 р. — |
| 2 фунты жытняй мукі . . . . | — 8 к. |
| Усяго . | 8 р. 83 к. |

Сотня палівы рознай велічыні пры продажы самім работнікам каштуе 11—13 руб., а перакупцы дае 9-10 руб. Значыць горн дае працаўніку круглым лікам 30 руб. чыстага прыбытку. У месяц пры інтэнсыўнай працы можна зрабіць 3-4 горны, што дасьць у сярэднім 80 рублёў.

Гэтыя лічбы даюць уяўленьне аб выгодах гэтага рамяства, асабліва для паліўнікаў. Апрача гэтага трэба сказаць, што зваротны капітал паліўнікаў расьце хутчэй, чым ганчароў, бо попыт на паліву больш значны, чым на гаршкі.

### Умовы жыцьця і працы ганчароў.

Умовы працы і быт удалася дасьледваць толькі ў агульных рысах.

Усяго занятых у вытворчасьці налічваецца, паводле вестак 1926 г., 41 чалавек. Самастойных гаспадароў у гэтым ліку 38, а вучняў—3. У лік вучняў не ўваходзяць дзеці саміх ганчароў, а толькі спэцыяльна змоўленыя асобы. Малы лік вучняў тлумачыцца тым, што ганчары ня любяць перадаваць сваё рамяство чужым.

Паводле сваёй працы ўсе ганчары падзяляюцца на ўласна ганчароў, якія вырабляюць чорную пасуду, і паліўнікаў. Але апошнія займаюцца таксама і вырабам гаршкоў, г. зн. чорнай пасуды. Уласна ганчары складаюць меншую частку. Да іх належаць тыя жыхары паселішча, якія маюць здавальняючую колькасьць зямлі і ганчарствам займаюцца падсобна. Такіх усяго 6 чалавек. Сем'і ганчароў параскіданы па розных частках мястэчка, толькі невялічкая група—патомкі „кантаністаў“ жыве асобна за рэчкай Лучосай, у Зарэччы або салдацкай слабадзе. Паводле апавяданьняў старых, іх продкі таксама займаліся ганчарствам.

Ня гледзячы на здавальняючыя заработкі, жывуць ганчары не багата, а некаторыя зусім бедна. Праўда, паміж імі ёсьць некаторыя досыць заможныя, аб якіх зайдросныя жыхары паселішча, не ганчары, кпліва кажуць, што яны не галавой разжыліся, а нагамі.

Беднасьць некаторых ганчароў тлумачыцца, галоўным чынам, адсутнасьцю шырокага збыту продукцыі, конкурэнцыяй, якая прымушае зьніжаць цэны і значнымі па колькасьці сем'ямі. Важнай прычынай беднасьці некаторых ганчароў служыць п'янства. У рэволюцыйныя часы становішча ганчароў крыху палепшылася, дзякуючы няхвату пасуды фабрычнага вырабу і, значыць, павялічэньню збыту.

Хаты ганчароў у большасьці з надворнага боку нічым не вызначаюцца ад хат іншых жыхароў. Унутры яны маюць ганчарную печ, якая служыць замест кухоннай, калі не занята гаршкамі. Паліўнікі маюць горн у асобным будынку. Выраб на кругу адбываецца ў большасьці выпадкаў у хаце, дзе жыве ўся сям'я, але ёсьць шмат ганчароў, што маюць для гэтага ўжо асобныя майстэрні.

У працы ганчара прымае ўдзел уся сям'я : жонка, дзеці, якія месяць гліну, кладуць пасуду ў горн, на воз і нават возяць пасуду на кірмашы. Гаспадар выконвае самыя галоўныя працы—выраб пасуды на кругу, абсейваньне, аборваньне і апальваньне. Праца пачынаецца з самага раньня: летам з усходам сонца, а зімой гадзіне а 6 і канчаецца позна вечарам. Працоўны дзень цягнецца каля 10-12 гадзін. Апрача гэтага, апальваньне адбываецца па начох. Гэтая праца асабліва цяжкая, бо прыходзіцца ўвесь час стаяць каля горна ці печы і сачыць, каб пасуда не перапалілася ці агонь ня зьменшыўся. Вядома, цесната, паветра, насычанае вільгацьцю гліны, вялікі працоўны дзень шкодна ўплываюць на здароўе ганчара. К таму перапальваньне сьвінца, якое робіцца часта ў хаце, і ўжываньне яго ў працы атручваюць організм, у выніку чаго крышацца зубы, разьмякчаюцца косьці, апошняе асабліва прыкметна на дзецях.

Асаблівай сьмяротнасьці сярод ганчароў ня прыкметна.

Культурны стан ганчароў нічым асаблівым не вызначаецца ад іншага насельніцтва паселішча. Ёсьць, праўда, некаторая скрытнасьць, нежаданьне гаварыць аб сваім рамястве, што тлумачыцца страхам магчымай конкурэнцыі.

Песень, зьвязаных з рамяством, не давялося пачуць. Толькі ў час продажы ганчар, прывозячы свой тавар у вёску, выкрыквае завучаную слоўную формулу: „Бабы, дзеўкі, маладушкі! купляйце гаршкі, латушкі! гаршчок—пятачок, латушка—тры капейкі!“

## Вывады.

Як відаць з прыведзеных даных, ганчар мае досыць значныя выгады ад свайго рамяства. Але гэта бывала не заўсёды: да рэволюцыі фабрычныя вырабы зусім зьбівалі цэны на ганчарскі тавар, і многім ганчаром прышлося спыніць сваю працу і заняцца іншымі промысламі ці выехаць на працу па сваёй спэцыяльнасьці ў больш глухія куткі. У будучыне прадбачыцца тое самае. Затым, багаты збыт продукцыі адбываецца, галоўным чынам, на кірмашох, а ў звычайныя дні ён значна зьмяншаецца, і гандляр-перакупца ўваходзіць у сваю ролю, ролю прысваіцеля чужой працы.

Не зважаючы на гэта, ганчары ня імкнуцца да паляпшэньня тэхнікі свайго рамяства і колектывізацыі сваёй працы. Асабліва важна было-б апошняе, бо тады магчымы шырокі падзел працы і зьніжэньне конкурэнцыі. Запасы гліны, блізасьць лесу і, значыць, таннасьць дроў спрыяюць разьвіцьцю тут гэтага рамяства ў больш шырокіх разьмерах, а колектывізацыя асобных рамесьнікаў значна палепшыла-б якасьць продукцыі і яе збыт. У сучасны момант ганчароў ня прымаюць у аб'яднаньне саматужнікаў, бо з іх амаль ня кожны мае кавалак зямлі.

Улічваючы значную колькасьць ганчароў у паселішчы, можна было-б згуртаваць іх у асобнае таварыства і, даўшы яму крэдыт, дапамагчы рацыяналізацыі вытворчасьці.

Гэтыя меры тым больш патрэбны, бо мы ня маем у БССР пасудных фабрык, а палепшанае ганчарства змагло-б даць танную пасуду для шырокага ўжываньня.

———

## Заўвагі да артыкулу т. Сяргеенка.

У парэволюцыйны час вывучэньне паасобных промыслаў сустракаецца рэдка. У зьвязку з гэтым артыкул т. Сяргеенка „Ганчарства ў паселішчы Бабынавічы“ заслугоўвае таго, каб на яго была зьвернута ўвага. Артыкул зьяўляецца першай працай у напрамку вывучэньня хатніх рамёстваў у БССР; дзякуючы гэтаму, у ім, як і ўва ўсякай першай працы, побач з дадатнымі бакамі, ёсьць і шэраг адмоўных. На апошніх я і маю намер спыніцца. Адзначэньне тых ці іншых недахопаў робіцца выключна з тэй мэтай, каб як сам аўтар, так і іншыя дасьледчыкі, а разам з тым і, наогул, усе, у каго будзе жаданьне заняцца падобнай працай, маглі-б скарыстаць зробленыя заўвагі ў далейшай сваёй працы.

Перш за ўсё неабходна зазначыць, што артыкул не ахапляе ўсіх момантаў ганчарства:—не адзначана географічнае палажэньне паселішча Бабынавічы; няма аналізаў і, наогул, характарыстыкі глін; не апісана дастаўка матар‘ялаў і інш. На жаль, аўтар артыкулу не знаёмы з програмай па вывучэньні промыслаў, якая апублікавана ў працах другога ўсебеларускага зьезду за 1927 г.; у адваротным выпадку яго праца была-б значна паўнейшай. Далей у артыкуле ня зьвернута належнай увагі на экономіку ганчарства, між тым як гэты момант зьяўляецца адным з галоўных. Воз гліны адзін раз ацэньваецца ў 1 р., а другі ў 50 к.; воз дроў—адзін раз у 1 р., а другі ў 60 к. На аплату аднолькавых выдаткаў выводзяцца розныя сумы, і аўтар ніякіх тлумачэньняў наконт гэтага не дае. Зусім ня ўзяты ў разрахунак амортызацыйныя выдаткі, у той час як для ганчароў гэтыя выдаткі досыць значныя. У даным выпадку маецца на ўвазе, галоўным чынам хаты ганчароў, якія, дзякуючы пастаяннай вільгаці служаць толькі каля 10—15 гадоў. Пры розных падліках нават самых дробных сум прапушчаць ня можна. Аўтар-жа прапусьціў, пры падліках выдаткаў на горн палівanae пасуды выдаткі на дастаўку прысады (дробны пясок) і на набыцьцё зундзы (шлакі з кузьні) альбо перапаленай медзі. У артыкуле зазначна, што ганчары маюць надзелы зямлі і нічога ня сказана пра сэзоннасьць працы, апошняя, бязумоўна, пры вывучэньні экономікі мае досыць важнае значэньне. Нічога ня сказана пра аплату рабочае сілы. Таксама ня прынята пад увагу праца сямей ганчароў. Ня вылічаны кошт рабочае сілы, а разам з тым і сабекаштоўнасьць продукцыі ганчароў. Слаба вызначана роля перакупшчыка. У зьвязку з вышэйадзначаным, частка вывадаў, зробленых аўтарам, зьяўляецца ня зусім грунтоўна абаснаванымі. Лепш аўтару ўдалася апісаньне тэхнікі ганчарства, хаця і ў гэтай частцы назіраецца зьмешваньне паняцьцяў, як гэта робяць і самі ганчары. Паліваная пасуда і той састаў, які ўжываецца для паліваньня, завуцца аднолькава „паліва“.

Ня гледзячы на зробленыя заўвагі, усё-ж такі прыходзіцца зазначыць, што артыкул, бязумоўна, мае каштоўнасьць.

Пры аддзеле Прыроды і Гаспадаркі Інстытуту Беларускае Культуры існуе камісія па вывучэньні хатніх рамёстваў. Просьба ўсіх таварышоў, хто мае намер заняцца дасьледчай працай, карыстацца выданай програмай, зварочвацца да камісіі, і апошняя ніколі не адмовіцца даць тыя ці іншыя ўказаньні па дасьледваньні хатніх рамёстваў.

Нав. Сакратар камісіі *Рак Р.*

# Програмы, анкеты, інструкцыі.

## Аб падліку працы школьна-краязнаўчых гурткоў.

Програмы савецкай працоўнай школы будуюцца на краязнаўчым матар'яле. З гэтае прычыны ў жыцьці школы значнае месца пачынае займаць так званае школьнае краязнаўства. Пры школах рознага тыпу засноўваюцца краязнаўчыя гурткі, мэта якіх абудзіць у вучня зацікаўленасьць да вывучэньня мясцовага краю, выхаваць яго, як юнага дасьледчыка. Дзейнасьць школьна-краязнаўчых гурткоў часта вельмі разнастайная і багатая вынікамі. Гурткі зьбіраюць краязнаўчыя матар'ялы, якія часам маюць значную навуковую вартасьць, наладжваюць краязнаўчыя вечары, інсцэніроўкі, ставяць даклады на тэмы з мясцовага жыцьця і г. д. Усё гэта надзвычайна ажыўляе школьнае жыцьцё і разам з тым робіць моцны ўплыў на агульна-грамадзкае культурнае жыцьцё.

Каб даць належнае мэтодычнае кіраўніцтва школьным краязнаўчым гуртком, пры ЦБК заснавана Школьна-Краязнаўчая Камісія. У гэтым годзе камісія ставіць мэтай—організацыйна аформіць ужо існуючыя пры школах краязнаўчыя гурткі, шчыльна зьвязацца з апошнімі і дапамагчы заснаваньню новых школьна-краязнаўчых гурткоў.

Каб выканаць гэта заданьне, неабходна правесьці падлік працы школьна-краязнаўчых гурткоў. З гэтай мэтай і складзена анкета, якая ніжэй зьмяшчаецца. Пажадана, каб кіраўнікі школьна-краязнаўчых гурткоў пераслалі запоўненую анкету Школьна-Краязнаўчай Камісіі пры ЦБК (Менск. Рэволюцыйная, 21).

Калі пры школе няма краязнаўчага гуртка, дык неабходна ў інтарэсах самой школы заснаваць яго, дзеля чаго можна зьвязацца з раённым т-вам краязнаўства, якое дасьць неабходныя інструкцыі, літаратуру і статут для гуртка („Наш край“, № 2, люты 1927 г.).

У мэтах зацікаўленасьці вучняў вывучэньнем свайго краю неабходна таксама выпісаць для школы часопіс „Наш Край“, у якім можна знайсьці ўвесь неабходны кіраўніча-інструкцыйны матар'ял.

## АНКЕТА.

1. Назва школы і адрас . . . . . . . .
2. Лік сяброў гуртка на 1/1 28 . . . . . .
3. Разьмеркаваньне сяброў гуртка па групах . . . .
4. Кіраўнікі гуртка . . . . . . . .
5. Ці ёсьць сэкцыі ў гуртку . . . . . . .
6. Дзейнасьць гуртка . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . .

7. Якія былі экскурсіі . . . . . . . .
8. Апрацоўка краязнаўчых матар'ялаў (колекцыяваньне, сыстэматызацыя, літаратурная апрацоўка) . . . .

. . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . .

9. Якія даклады чыталіся ў гуртку . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . .

10. Ці выдае гурток краязнаўчы часопіс ці газэту . . .

. . . . . . . . . . . . . . .

11. Сувязь гуртка з раённым т-вам краязнаўства . . .
12. Які намечан плян працы гуртка . . . . .
13. Ці прыняты статут гуртка . . . . .
14. Агульныя заўвагі аб працы гуртка . . . . .

Анкету запоўніў (подпіс).

---

# Апытальнік для азнаямленьня з бібліографічнай працай на мясцох.

У мэтах найбольш поўнага выяўленьня мясцовай бібліографічнай працы ЦБК просіць краязнаўчыя організацыі даць самыя падрабязныя адказы на ніжэйпаданыя пытаньні. Калі ёсьць весткі ня ўлічаныя ў апошніх—просьба даць іх дадаткова. Калі праца вядзецца часткова—неабходна мець адказы хоць на некаторыя пытаньні. Адказы просьба прыслаць у ЦБК (Менск, Рэволюцыйная, 21) не пазьней 1 лютага 1928 году.

1. Назва і адрас організацыі ці ўстановы або асобы, якая вядзе бібліографічную працу па краязнаўству.

2. Якую тэрыторыю абхоплівае гэтая праца.

3. Апісваецца літаратура ўся наогул па мясцовым краі, ці толькі па пэўных пытаньнях адносна яго; па якіх.

4. Якая па характары краязнаўчая літаратура апісваецца: кнігі, часопісы, газэты, карты, лістоўкі і да т. п.

5. Ці апісваецца літаратура толькі на беларускай мове, ці і на іншых: рускай, польскай і г. д. На якой мове робіцца апісаньне—беларускай, рускай і г. д.

6. За які час апісваецца літаратура. Ці не вядзецца асобна апісаньне літаратуры за рэволюцыйныя гады, а таксама тэй, якая зараз выходзіць.

7. Укладаецца картатэка ці сьпіс выданьняў. Ці няма ў мясцовых бібліотэках спэцыяльных краязнаўчых аддзелаў і як яны папаўняюцца (ці не атрымліваецца ад друкарні абавязковы экзэмпляр усіх мясцовых выданьняў).

8. Скарыстоўваюцца для працы мясцовыя кнігасховы, ці побач з імі вядзецца праца і ў цэнтры (акруговым горадзе, Менску). Ці скарыстоўваюцца паказчыкі літаратуры і якія ўласна.

9. Ці скарыстоўваецца бібліографічны аддзел „Нашага Краю" і летапіс беларускага друку. Ці задаваляе іх пастаноўка, запатрабаваньні Вашай працы і ў чым іх галоўныя хібы па Вашым досьледу.

10. Калі ўкладаецца картатэка, дык колькі ёсьць ужо картак. Па магчымасьці пакажэце лік іх па аддзелах.

11. Дадайце да гэтага ўзоры Вашых картак для кніг, зборнікаў прац, часопісаў, артыкулаў, карт, лістовак і інш.

12. Ці карыстаецеся Вы падручнікам Здабнова, Шамурына і інш. або сваёй інструкцыяй. Калі магчыма, дадайце яе.

13. Ці даюцца аннотацыі (характар выданьня, яго ацэнка, зьмест, рэфэраты і г. д.). Ці паказваюцца надрукаваныя на гэту працу рэцэнзіі.

14. Па якой сыстэме клясыфікуецца Ваш бібліографічны матар'ял, калі не па дзесятковай, дык пералічэце асноўныя рубрыкі Вашай клясыфікацыі.

15. Хто пэрсанальна вядзе працу, хто кіруе ёю і спэцыяльнасьці працуючых.

16. Калі пачаліся працы і ці адбываюцца яны рэгулярна або эпізодычна.

17. На якія сродкі адбываецца праца, ці аплачваецца яна і па якой цане.

18. Ці вядзецца праца падліку і апісаньня мясцовых выданьняў, у якім абхваце і за які тэрмін. Ці маеце Вы для гэтага абавязковы экзэмпляр усіх мясцовых выданьняў, ці ведзяце працу іншым шляхам.

19. Ці вядуцца бібліографічныя працы. Калі вядуцца, дык які крытэры існуе для вызначэньня мясцовага дзеяча. Колькі такіх асоб Вамі зарэгістравана па мясцовым краі.

20. Ці былі да пачатку Вашай працы апублікаваныя матар'ялы па бібліографіі Вашага краю. Да якога часу яны належаць і наколькі поўна абхопліваюць мясцовую літаратуру. Якая іх вартасьць у сэнсе тэхнікі апісаньня. Пералік іх. Ці друкаваліся вінікі Вашай працы. Пералік іх.

21. Ці ёсьць у Вас скончаныя і ненадрукаваныя паказчыкі літаратуры па мясцовым краі. Іх велічыня і колькі прац апісана. Колькі друкарскіх аркушаў (40.000 знакаў) яны займаюць і як Вы спадзяецёся іх выдаць.

22. Ці вядзецца праца па рэцэнзаваньні мясцовых выданьняў і аб мясцовым краі. Кім пішуцца рэцэнзіі і дзе яны друкуюцца.

23. У якім стасунку пажадана Вам дапамога ў Вашай працы з боку ЦБК.

24. Якія тэорэтычныя пытаньні бібліографічнай працы лічыце неабходным для асьвятленьня ў „Нашым Краі“.

25. Ці не вядомы Вам яшчэ якія-небудзь організацыі і асобы, якія вядуць бібліографічную працу ў межах Вашага краю. Паведамце іх адрасы. *Н. М.*

---

# Тэрмінолёгічная работа ў Інбелкульце і зьбіраньне народных тэрмінаў.

Тэрмінолёгічная работа мае надзвычайна важнае значэньне для справы культурнага будаўніцтва кожнага народу.

У 1927-28 г Інстытут Н. М. мае апрацаваць і выдаць наступныя тэрмінолёгіі: 1) мэханічную, 2) выяўленчых мастацтваў, 3) астрономічную, 4) фізычную, 5) пэдагогічных ведаў, а потым пераглядзець і дапоўніць: 1) літаратуразнаўчую, 2) лёгіка-псыхолёгічную і 3) геолёгічную (з крышталёграфіяй, пэтраграфіяй і мінэралёгіяй) і сабраць матар‘ял для тэрмінолёгій: 1) вэтэрынарнае і 2) хэмічнае (орган. х.).

Даць дакладную тэрмінолёгію для тае ці іншае навукі, якая-б у поўнай меры адпавядала навуковасьці і здавальняла-б пэдагогічную і штодзённую практыку,—справа нялёгкая, і Інстытут Навуковае Мовы лічыць, што ўдасканаліць сваю работу зможа ён толькі ў тым выпадку, калі на помач яму прыдзе актыўная работа ўсіх зацікаўленых асоб і ўстаноў. Вось чаму Інстытут Н. М. зварачаецца да іх з просьбаю дапамагчы яму ў цяжкай справе распрацаваньня беларускае навуковае і тэхнічнае тэрмінолёгіі.

Спадзяючыся знайсьці вялікае слоўнае багацьце ў жывой народнай гутарцы, Інстытут Н. М. думае ў першую чаргу мець падтрыманьне ў сваёй рабоце ў мясцовых краязнаўчых організацыях і таварыствах. Краязнаўчыя таварыствы і гурткі і іншыя навукова-дасьледчыя і навучальна-асьветныя ўстановы і організацыі на мясцох могуць дапамагчы тэрмінолёгічнай справе, зьбіраючы народную тэрмінолёгію—назовы ў розных сфэрах народнага жыцьця і ў розных галінах людзкое працы.

Кожны, хто больш-менш цікавіцца прыродаю і яе зьявамі, можа знайсьці некаторыя астрономічныя і мэтэоролёгічныя назвы ў народнай мове:

1) *астрономія:* назвы нябесных сьвяціл і зьяў, назвы зорак, сузор‘яў, назвы камэт, зьнічак, зацьменьні сонца, месяца і г. д.

2) *мэтэоролёгія:* назвы розных зьяў у паветры, назвы станаў паветра, назвы азначэньняў цяпла і холаду, добрага і нядобрага надвор‘я, сухасьці і вільгаці; назвы хмар, дажджоў, сьнягоў і г. д.

Тыя людзі, што заняты рамёствамі або працуюць на фабрыках, цагельнях, броварах, гутах, папернях могуць даць нямала назваў-тэрмінаў фізычных і хэмічных.

3) *фізыка:* розныя фізычныя процэсы ў прыродзе і прамысловасьці—награваньне, астуджваньне, ціск, павялічэньне і памяншэньне аб‘ёмаў прадметаў у залежнасьці ад гарачыні і холаду ; тапленьне, літаваньне, гартаваньне, адпусканьне і г. д. Гэтыя тэрміны могуць даць,

напрыклад, кавалі, катляры. Аб ціску вады, роўнавазе вадкасьцяй і г. д., а таксама назвы ў галіне мэханікі аб колах, шасьцярнёх, аб спосабах перадачы сілы—дадуць многа матар'ялу млынары.

4) *хэмія:* назвы хэмічных процэсаў (гніцьцё, розныя дармэнтацыі і пад.) добра ведаюць рабочыя на папернях, броварах, півварнях і г. д.

5) *геолёгія:* назвы формаў зямное паверхні і процэсаў, якія адбываюцца ў сувязі з яе зьменамі (шчыліны, апаўзаньні зямное паверхні) розныя тэрміны для гор, узгоркаў, далін, лагчын, яроў; назвы наземных (рэчка, багна, возера) і падземных вод (крыніцы, ручаі); назвы берагоў, астравоў, затok і інш.; назвы розных зямных парод і пластоў, іх формы і пабудовы.

Рабочыя на торфараспрацоўках і проста на зямляных работах ведаюць многа геолёгічных назваў. Муляром, рабочым на цагельнях вядомы мінэралёгічныя назовы.

6) *мінэралёгія і пэтраграфія:* назовы мінэралаў і мэталаў, розных руд і тых капаленъ, адкуль іх здабываюць; назвы розных акамянеласьцяй.

Селянін цікавіцца ўсім у прыродзе і пасвойму ведае:

7) *глебазнаўства:* розныя глебы, чорназем, перагнойныя глебы, гліну, пясок, суглінак і г. д. і мэліорацыйную тэхніку: асушку, абвадненьне зямлі.

8) *батаніка:* назвы розных расьлін (дрэвы, травы, веткі ягады, грыбы) назвы часьцін расьліны (ліст, корань, насеньне, кара і г. д.); назвы зьяў з жыцьця расьлін (красаваньне, выплываньне і г. д.).

9) *земляробская тэхніка:* назвы земляробскіх работ, прылад і машын, назвы спосабаў вырабу зямлі і сыстэм земляробства.

10) *заолёгія:* назвы розных жывёл (зьвяры, хатнія жывёлы, птушкі, рыбы, гады, казяўкі і інш.). Назвы часьцін цела жывёл (морда, сківіца, вантробы, хвост, кіпці і г. д.).

11) *вэтэрынарыяй* займаюцца і народныя лекары—канавалы, якія ведаюць назвы розных жывёльных хвароб і народныя назвы лекаў.

12) *мэдыцынаю*—займаюцца на свой лад шаптуны, якія ведаюць ня толькі сродкі псыхічнага ўплыву на хворага (замовы) але і народныя лекі і назовы пошасьцяй і іншых людзкіх хвароб. Ім вядомы і народныя назвы часьцін чалавечага цела і нормальных і ненормальных процесаў у гэтым організьме. Такім парадкам, знаёмства з шаптунамі можа дапамагчы ў запісваньні народных тэрмінаў з галіны анатоміі, фізыолёгіі, патолёгіі і формакагнозіі.

З заолёгіяй знаходзяцца ў сувязі:

13) *паляўніцтва і рыбалоўства*—яны таксама, як і папярэднія галіны працы, маюць і сваю высака разьвітую тэхніку, маюць прылады (пастка, таптуха, венцер, вуда, розныя гатункі стрэльбаў і г. п.), маюць свае мэтоды (напрыклад, мэтоды паляўніцтва: аблава, засада і г. п.).

Лясьнікі, лясныя старажы ня толькі ведаюць зьявы прыроды, але ім вядома таксама і

14) *лясная гаспадарка,* а шмат якім людзям цікава

15) *гадоўля жывёлы* (малачарства, сьвінарства, пчалярства).

Народныя назвы ў галіне тэхнікі.

1) *Будаўніцтва.* Назвы хаты і іншых відаў будоўлі (стадола, восецъ, сьвіран і г. д.); назвы складаных часьцін будоўлі (страха, шчыт, бальна і г. д.); асабліва добра гэта ведаюць цесьляры (плотнікі).

2) *Сталярства.* Назвы хатніх прылад, назвы мэблі ды прылад для ежы, адпачынку, мыцьця і г. п.

3) *Ганчарства і драўляныя вырабы* такароў і бандароў, а таксама *гутніцтва.*

4) *Малярства і разьбярства* (прылады і способы працы, а таксама і асаблівасьці вырабаў).

5) *Шавецтва, кравецтва.* Назвы адзежы і абутку, матар'ялаў самаробных і купленых, прылады і способы працы.

6) *Гарбарства і ткацтва.* Прылады, способы працы, гатункі вырабаў.

7) *Кулінарыя.* Назвы розных напояў і страў і способаў іх прыгатаваньня.

8) *Млынарства*—назвы розных гатункаў продуктаў і способаў іх вырабу.

9) *Алейніцтва*—алеі пажыўныя і тэхнічныя і способы іх вырабу.

10) *Тэхніка апалу і асьвятленьня.* Назвы гатункаў матар'ялаў і способы іх ужываньня.

11) *Тэхніка комунікацыі.* Назвы шляхоў зносін—вадзяныя і сухапутныя. Назвы способаў і прылад плаваньня, язды і г. п.

12) *Тэхніка гандлёвае справы.* Назвы, што ўжываюцца пры абмене і гандлі. Месцы гандлю (кірмаш, рынак, крама); назвы вандроўных гандляроў; віды гандлярства. Адзінкі мер—старых і новых. Назвы монэт і грашовых адзінак, крэдыту і забясьпекі. Прыналежнасьці памеру.

13) *Канцалярска-праўная тэхніка.* Назвы, зьвязаныя з пісарскімі судовымі і г. п. функцыямі. Звычаёвае права.

14) *Адміністрацыйная тэхніка старога і новага часу.* Тэрміналёгія праўных суадносін паміж органамі ўлады і насельніцтвам і паасобнымі клясамі. Ваенныя веды ў народзе.

15) *Пэдагогічна-дыдактычная тэхніка.* Тэрміналёгія, пераважна вядомая *дзяком і дарэктаром,* што вучылі дзяцей у старыя часы.

Гэтым не абмяжоўваюцца магчымыя тэрміналёгічныя слоўнікі, але тут дадзены толькі некаторыя для прыкладу.

Запісы назваў-тэрмінаў могуць даваццa ў альфабэтным парадку асобнымі сшыткамі і на картках, як гэта робіцца з слоўным матар'ялам для слоўніка жывое мовы. Да кожнае назвы трэба дадаць, калі гэта можна, сказ-прыклад, што можа паясьніць значэньне данага слова-назвы. Але можна абмежавацца расійскім або польскім перакладам ці беларускім тлумачэньнем або нават рысункам, калі справа ідзе аб тэй ці іншай прыладзе ці прыналежнасьці. Рысункі і наогул вельмі пажаданы.

Пры запісах найлепш трымацца мясцовага вымаўленьня і запісваць слова так, як яно вымаўляецца тым, хто гаворыць, каб, пераводзячы на літаратурны правапіс, не папсаваць часам кораня слова і яго значэньня. Можна пісаць і лацінкаю, калі хто лепш знаёмы з ёю, як з кірыліцаю.

Кожны, каго абходзіць справа культурнага будаўніцтва ў нашай краіне, будзе працаваць, зьбіраючы словы-назвы (тэрміны) і запісваць іх дзеля ідэёвага здавальненьня, так уласьцівага кожнаму культурнаму работніку, кожнаму дзеячу. Але, каб выдзеліць найлепшых працаўнікоў, Інстытут Навуковае Мовы пастанавіў прэміяваць лепшыя слоўнікі і запісы народных назоваў грашоваю нагародаю.

На ўсе запытаньні ў Інстытут Н. Мовы будуць даны безадкладныя адказы і парады.

Перапіска на імя Інстытуту Беларускае Культуры паштовай аплаце не падлягае.

Перапіску і запісы слоў пасылаць: Менск, Рэволюц., 21. Інбелкульт, Інстытут Навуковае Мовы.

Дарэктар Інстытуту Н. М. *Я. Лёсік.*

Сакратар *Л. Цьвяткоў.*

---

# ХРОНІКА.

## Дзейнасьць ЦБК.

### Пасяджэньне 28/x-27 г.

Заслуханы даклад польскага інструктара ЦБК аб яго чыннасьці і пэрспэктывах працы сярод польскай насельнасьці БССР. Заслухан протокол пасяджэньня камісіі па выстаўцы нацменшасьцяй ад 17/x-27 г. і вылучан ад ЦБК прадстаўнік у гэтую камісію. Разгледжана пытаньне аб акруговых краязнаўчых конфэрэнцыях і пашырэньні падпіскі на „Наш Край“.

### Пасяджэньне 4/xi.

Заслухан даклад старшыні Менскага Акруговага Т-ва Краязнаўства аб скліканьні Менскай Агульнагарадзкой вучнёўскай конфэрэнцыі па краязнаўству. Зацьверджан каляндарны плян паседжаньняў прэзыдыуму ЦБК.

### Пасяджэньне 9/xi.

Разгледжан і зацьверджан у канчатковай апрацоўцы проект статуту ЦБК. Ухвалена рэзолюцыя па дакладу т. Марука аб працы Т-ва Краязнаўства пры Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце. У рэзолюцыі ЦБК рэкомэндуецца Т-ву пераважную ўвагу зьвярнуць на мэтодычную падрыхтоўку сяброў Т-ва, на неабходнасьць дасьледваньня ў Менску сіламі Т-ва і на карыснасьць наладжваньня студэнцкімі сіламі краязнаўчых экспэдыцый. Вылучан са складу ЦБК прадстаўнік у Этнографічную Камісію ІБК.

### Пасяджэньне 10/xi.

Зацьверджан орыентовачны плян працы раённага т-ва краязнаўства. Заслухана інформацыя Старшыні Школьна-Краязнаўчае камісіі ЦБК т. Аляксандрава аб працы азначанай камісіі за мінулы год. Зацьверджаны плян працы Студэнцкае камісіі ЦБК. Разгледжана пытаньне аб організацыі падпіскі на „Наш Край“. Ухвалена пастанова даць акруговым т-вам 25% падпісной сумы за зьбіраньне падпіскі; кожнаму паасобнаму зьбіральніку падпіскі, які сабраў 10 гадавых падпішчыкаў, на працягу году высылаць бясплатна 1 экз. час. „Наш Край“, дадзена права крэдыту для гадавых падпішчыкаў; прасіць Навукова-Мэтодолёгічны Камітэт НКА ўхваліць „Наш Край“ для карыстаньня ў школах, клюбах і хатах-чытальнях.

### Пасяджэньне 17/xi.

Заслуханы протоколы Мазырскага і Віцебскага Акруговых Т-ваў Краязнаўства. Разгледжана пытаньне аб увядзеньні курсу краязнаўства ў тэхнікумах і вышэйшых школах БССР (даклад т. Касьпяровіча). Даручана камісіі ў складзе тт. Жураўскага, Касьпяровіча і Аляксандрава вызначыць мінімум ведаў па краязнаўству для канчаючых тэхнікумы і вузы, узгадніць гэта пытаньне з Навукова-Мэтодолёгічным Камітэтам і ўнесьці ў Камітэт проект програмы курсу краязнаўства для розных тыпаў тэхнікумаў і вузаў. Разгледжана пытаньне об організацыі ўсебеларускай выстаўкі краязнаўчых фотографій і зарысовак. Вызначаны тэрмін, у які павінна адбыцца выстаўка—15/iv—15/v 1928 г. Абрана камісія па організацыі выстаўкі ў складзе: Касьпяровіча, Ластоўскага, Палееса, Шашалевіча і прадстаўніка Белдзяржкіно. Прынята пастанова аб камандыраваньні інструктароў ЦБК т. Шашалевіча і т. Жураўскага ў Аршанскую і Магілеўскую акругі. Прынята пастанова аб камандыраваньні на Ўсерасійскую конфэрэнцыю па краязнаўству т. Казака. Заслуханы даклад т. Касьпяровіча аб краязнаўстве ў Эстоніі, Латвіі, Літве. Вылучаны прадстаўнікі ЦБК у рады аддзелаў, аддзелу Прыроды ІБК—т. Казак і т. Касьпяровіч.

### Пасяджэньне 24/xi.

Заслуханы протоколы Менскага і Мазырскага Акруговых Т-ваў краязнаўства. Разгледжана програма часопісу „Наш Край“ на 1928 год. Зацьверджаны тэмы, на якія пажадана зьмясьціць артыкулы ў „Нашым Краі“.

**Пасяджэньне 8/XII.**

Разгледжана пытаньне аб укладаньні краязнаўчай бібліографіі. Вылучаны ў гэтых мэтах прадстаўнік ад ЦБК у бібліографічную камісію ІБК. Прызнана неабходным зьмяшчаць краязнаўчую бібліографію ў „Нашым Краі", пачынаючы з № 1 за 1928 г. Заслуханы справаздачныя даклады інструктароў ЦБК т. Шашалевіча і Жураўскага аб іх камандыроўцы ў Аршанскую і Магілеўскую Акругі. Для ажыўленьня краязнаўчай працы на мясцох прызнана неабходным: а) прасіць адпаведныя органы аб аслабаненьні ці разгрузцы краязнаўчага актыву ад іншай грамадзкай працы і 2) раіць пераводзіць працу на мэтод конкрэтных індывідуальных заданьняў усім сябром краязнаўства; 3) практыкаваць пастаноўку на сходах т-ваў дакладаў па конкрэтных пытаньнях краязнаўства. Заслуханы протоколы Віцебскага і Гомельскага Акруговых т-ваў краязнаўства. Прынята пастанова аб камандыраваньні інструктара ЦБК т. Жураўскага ў Віцебскую акругу.

## Абсьледваньне краязнаўчай працы на мясцох.

*(Крычаўскае, Чэрыкаўскае, Прапойскае і Журавіцкае раённыя т-вы краязнаўства Магіл. акр.).*

Краязнаўчая праца ў пералічаных раёнах за апошні час заняпала, а ў раёнах Чэрыкаўскім і Журавіцкім і зусім спынілася. У Чэрыкаве нават няма праўленьня т-ва, а ў Журавічах яно больш году ня зьбіралася. Весткі аб складзе сяброў т-ва маюцца толькі за мінулы год, сяброўскія ўзносы зьбіраюцца больш-менш акуратна, толькі ў Прапойскім т-ве, дзе сродкі т-ва ад узносаў даходзяць да 100 руб. У Крычаве ёсьць пачатак музэю, але экспонаты без апрацоўкі і пашпартоў, у іншых раёнах покуль што няма пэўных памяшканьняў для концэнтрацыі музэйных рэчаў, якія ўсё-такі маюцца як у т-вах, так і ў гуртках. Ніякай сувязі раённых т-ваў з Акруговым з мінулага году няма. Адсутнасьць сувязі, асабліва адмоўна адбіваецца на райт-вах б. Калініншчыны.

Аднак зацікаўленасьць краязнаўствам, імкненьне да гэтай працы не зьмяншаецца. З боку раённых партыйных і савецкіх організацый і ўстаноў выяўляецца прыхільнасьць да краязнаўчай справы, дзе яна хоць крыху варушыцца.

У Крычаўскім раёне ёсьць цікавыя спробы популярызацыі краязнаўства сярод сялян. Былі два даклады аб краязнаўчай працы на выязных пасяджэньнях пленуму РВК у сельсаветах, прачытаны даклад на жаночай дэлэгацкай конфэрэнцыі; даклад выклікаў вялікую зацікаўленасьць жанчын, якія вынесьлі пастанову аб дапамозе ў зьбіраньні фольклёрнага матар'ялу і хатніх тканін. У выніку гэтай популярызацыі сяляне прыносяць у т-ва розныя рэчы: грашовыя скарбы, каменныя прылады і інш. Краязнаўчая праца популярызавалася і сярод комсамольцаў і піонэраў таксама ў форме дакладаў на краязнаўчыя тэмы.

Прапойскае т-ва сабрала звыш 3.000 картак-слоў (дублікаты іх адсылаліся ў Магілеўскае Акруговае т-ва), да 300 песень, сабраны некаторыя матар'ялы па гісторыі 1905 г. на Прапойшчыне, складаецца хроніка рэволюцыйнага дзесяцігодзьдзя (1917—1927 г.) і інш.

На пасяджэньнях праўленьняў т-ваў, на сходах сяброў яго і прадстаўнікоў розных мясцовых устаноў і настаўнікаў, скліканых у часе абсьледваньня паказаных т-ваў, абгаворваны пытаньні чарговай працы і вызначаны першачарговыя заданьні ў вывучэньні сваіх раёнаў.

## Магілеўскае Акруговае Т-ва Краязнаўства.

За апошні час Т-ва вядзе працу пераважна ў межах гораду, шляхам распрацоўкі паасобных пытаньняў і пастаноўкі дакладаў на агульных сходах. Ёсьць ухіл да габінэтнага мэтоду працы. У неабходнасьці сувязі з раёнамі і кірунку на масавасьць працы ў часткі сяброў Праўленьня Акруговага Т-ва няма цьвёрдага пераканаиьня. З сэкцый праца наладжана толькі ў культурна-гістарычнай, якая вувучае Кастрычнік на Магілеўшчыне, і ў прыродна-географічнай, якая вядзе досьледы глебы Магілеўшчыны (узгоднена з агульна-рэспубліканскім маштабам) і зьбірае лекавыя расьліны.

Улетку была наладжана ў Быхаўскі раён (в. Гарадзец) этнографічная экспэдыцыя, якая на працягу 7 дзён запісала да 80 мэлёдый народных песень і іх тэксты. Некаторыя мэлёдыі ўжо апрацаваны тт. Чуркіным і Сушынскім. Вынікі экспэдыцыі—гармонізаваныя песьні дэмонстраваліся разам з дакладам на агульным сходзе ўсіх сяброў Т-ва і студэнцкіх краязнаўчых гурткоў г. Магілева. На гэтым-жа сходзе быў заслуханы даклад т. Ламакі аб зьменах у быце сялян за 10 год рэволюцыі.

Магілеўскае Аддзяленьне Дзяржаўнага Музэю мае пэўны краязнаўчы ўхіл (гісторыя, архэолёгія, мастацтва, этнографічны аддзел) і ў далейшым разгортваецца ў гэты бок, наладжваючы аддзел мясцовай прамысловасьці і аддзел прыроды. Да десяцігодзьдзя Музэй адчыніў вельмі цікавы аддзел рэволюцыйнага руху наогул і асабліва на Магілеўшчыне.

Неабходна адзначыць умелую эспоноў-

ку і ўзорны парадак і чыстату, якая падтрымоўваецца ў памяшканьні музэю.

З прычыны адсутнасьці сувязі Акруговага Т-ва з раённымі т-вамі няма ніякіх вестак аб Клімавіцкім Музэі: сродкаў на яго ўтрыманьне не далі, дзякуючы чаму Акруговае Т-ва мае намер найбольш каштоўныя матар'ялы перавезьці ў Магілеўскі Музэй.

Т-ва ня выявіла ініцыятывы ў кіраваньні студэнцкімі краязнаўчымі гурткамі г. Магілева. Такія гурткі існуюць пры ўсіх тэхнікумах г. Магілева і савецкай партыйнай школе.

Школьна-краязнаўчая праца добра вядзецца ў Бялыніцкай Школе Сялянскай Моладзі. Вестак аб школьнай краязнаўчай працы ў школах сямігодках Магілеўшчыны ў Акруговага Т-ва няма, але на мясцох у большасьці выпадкаў такая праца вядзецца.

Плян працы Акруговага Т-ва на бягучы год намечаны ў агульных рысах на пасяджэньні праўленьня 4 сьнежня. Галоўныя пункты пляну: ажыўленьне працы сэкцый, правядзеньне акруговай конфэрэнцыі і падрыхтоўка да другога зборніка „Магілеўшчына".

Па дакладу Праўленьня Т-ва АПА Акружкому 3/XII вынесены конкрэтныя пастановы аб падтрыманьні краязнаўчай працы на Магілеўшчыне.

У заключэньне трэба заўважыць, што на Магілеўшчыне, як у горадзе, так і на раёнах ёсьць шырокія магчымасьці для разьвіцьця краязнаўчага руху: неабходна толькі Акруговаму Т-ву наладзіць організацыйную сувязь з краязнаўчымі аб'яднаньнямі раёнаў і ахапіць іх сваім кіраўніцтвам.

## Аршанская Акруга.

### Ляднянскае раённае т-ва.

Т-ва існуе ўжо 3 гады і організацыйна зусім аформілася. Сяброў Т-ва мала: 46 асоб. Па раёне ёсьць 6 сельсавецкіх гурткоў. Т-ва зрабіла значную працу. Больш усяго сабрана фольклёрных матар'ялаў: больш 4.000 №№. Матар'ялы паступова апрацоўваюцца. Вельмі добра апрацавана і прыведзена ў сыстэму каля 1.000 прыпевак, некалькі сотняў пагаворак, загадак і замоў. Усё гэта мае належную пашпартызацыю, паказаны варыянты, аналёгіі, паралелі. Вельмі многа зроблена ў зьбіраньні слоў жывой мовы: больш 3.000 слоў сабрана, з іх каля 1.000 слоў надзвычайна рэдкіх, якія, магчыма, яшчэ не зарэгістраваны ў беларускіх слоўніках. Наогул у зьбіраньні і апрацоўцы фольклёру Т-ва мае вельмі здольных краязнаўцаў, якія добра знаёмы з мэтодамі навуковага зьбіраньня і сыстэматызацыі матар'ялаў.

Па вывучэньні народнага мастацтва Т-ва многа зрабіла: каля 500 узораў народных тканін і вышывак зьяўляюцца сырым матар'ялам, які чакае апрацоўкі па музэйным прынцыпе.

Прамысловасьць вывучалася мала. Сабрана некалькі экспонатаў па ганчарнай вытворчасьці і зроблена 56 зарысовак Ляднянскай крашаніны. Зарысоўкі адасланы ў ІБК.

Прыродна-географічнае вывучэньне Ляднянскага раёну вядзецца ў напрамку дакладнага вядзеньня мэтэоролёгічных наглядаўняў, зьбіраньня зоолёгічных колекцый і выпраўленьня карт раёну. Складзена аднавярстовая карта раёну, засьнялі плян м. Ляды.

У галіне вывучэньня гісторыі і архэолёгіі раёну Т-ва знайшло шмат старых грошай, адасланых у Музэй, два царкоўныя летапісы і рэвіскія сьпісы.

Т-ва не падзяляецца на сэкцыі, але вучот працы наладжаны. Т-ва карыстаецца аўторытэтам сярод савецкіх органаў і грамадзкіх організацый. Так па просьбе РВК Т-ва склала 46 дыяграм для раённай с.-г. выстаўкі.

Значную дапамогу Т-ву дае вучнёўскі краязнаўчы гурток пры Ляднянскай сямігодцы.

На апошнім пасяджэньні праўленьня Т-ва 25/XI быў зацьверджаны плян працы Т-ва. Найбольш важныя пункты пляну: 1) паставіць справаздачны даклад Т-ва на пасяджэньні прэзыдыуму РВК, 2) прачытаць для насельніцтва ілюстрацыйныя даклады: „Што зроблена і сабрана па вывучэньні Лядняншчыны" і „Народныя песьні Ляднянскага раёну" і 3) вясною наладзіць выстаўку краязнаўчых матар'ялаў; 4) закласьці краёвы раённы музэй і склікаць конфэрэнцыю па краязнаўстве; 5) разьмеркаваць сабраныя матар'ялы між сябрамі Т-ва для апрацоўкі і 6) пачаць весьці хроніку мясцовага жыцьця.

РВК, маючы на ўвазе карыснасьць працы раённага Т-ва, вызначыў невялікую грашовую дапамогу Т-ву (25—30 р.) на абсталяваньне краёвага музэю.

### Дуброўненскае раённае Т-ва.

Т-ва яшчэ не пачынала працаваць, хоць популярызацыя краязнаўчай працы досыць часта праводзілася. Прычына ў тым, што асобы, якія змаглі-б што-небудзь зрабіць у краязнаўчым кірунку, не ўваходзілі ў праўленьне Т-ва, раўнадушна ці пэсымістычна глядзелі на гэтую справу альбо лічылі сябе перагружанымі. У зьбіраньні матар'ялаў больш робіць Дуброўненская беларуская сямігодка, у якой можна заўважыць, як растуць надзвычайна здольныя юныя краязнаўцы (Чабатарэвіч). Яўрэйская сямігодка вяла запісы слоў жывой мовы і давала адказы на дыялектолёгічныя запытаньні Яўр. аддзелу ІБК.

4/XII адбыўся агульны сход сяброў Т-ва, на якім было пераабрана праўленьне Т-ва і намечаны мінімальны плян працы Т-ва.

**Коханаўскае раённае Т-ва.**

Т-ва, якое налічвае да 70 сяброў, вядзе галоўным чынам зьбіральніцкую працу. Дзякуючы гэтаму праца Т-ва мае выразны музэйны ўхіл. Т-ва імкнецца свой раён адбіць у музэйных экспонатах. Т-ва атрымала ад РВК памяшканьне пад музэй і патроху пачынае прыводзіць яго ў парадак. Экспонатаў яшчэ вельмі мала: дыяграмы, выстаўкі, старыя грошы, статыстычныя даныя розных устаноў раёну, лічбы зваротаў прамысловых і гандлёвых устаноў раёну, запісы народнай творчасьці раёну, запісы аб паўстаньні 63 году, два схэматычных апісаньні 2-х вёсак, узоры торфу, охры і др. выкапняў і інш.

Т-ва мае 5 гурткоў, сувязь з якімі дрэнная, але толькі праз іх Т-ва мае магчымасьць зьбіраць цікавыя весткі аб прыродных і гістарычных асаблівасьцях раёну.

Т-ва прымае меры да аховы помнікаў прыроды і гісторыі, але на жаль зьнішчэньне гэтых помнікаў ідзе нястрымана. Курганы часта разрываюць толькі для таго, каб пабудаваць у іх лазьні.

РВК дапамагае Т-ву ў яго працы і абяцаў адпусьціць 30 р. на абсталяваньне краёвага музэю.

**Талачынскае раённае Т-ва.**

Т-ву падпарадкавана 3 вясковых гурткі краязнаўства і адзін местачковы комсамольскі. Апрача гэтага існуюць гурткі пры Талачынскай беларускай і яўрэйскай сямігодках. Сувязь з гурткамі наладжана. Старшыня Т-ва рэгулярна 1-2 разы ў месяц інструктуе гурткі шляхам аб'ездаў. Вясковыя гурткі пераважна складаюцца з сялян-комсамольцаў, нярэдкі выпадкі, калі ў гурток уваходзяць вясковыя жанчыны, якія даюць фольклёрны матар'ял. Моладзь больш цікавіцца вывучэньнем гісторыі і экономікі раёну. У выніку працы вясковых гурткоў Т-ва мае апісаньне раёну, праўда, вельмі схэматычнае, якім аднак карыстаюцца ўжо пры выкладаньні ў школах раёну. Другая праца, якую правяло Т-ва: 1) падлічаны помнікі старажытнасьці на раёне і вучот пасланы ў акругу; 2) запоўнена і адаслана большасьць анкет, складзеных ЦБК і ІБК (монографіі паселішчаў, бюджэт часу селяніна, аб хатніх рамёствах і інш.); 3) сабрана шмат фольклёрных матар'ялаў, слоў жывой мовы і некалькі мэлёдый народных песень; 4) знойдзены некаторыя карысныя выкапні: охра, торф, блакітная мінэральная фарба і інш. Т-ва мае акрэсьленую програму сваёй працы. Програма дзеліцца на паасобныя заданьні, якія даюцца гуртком для разьмеркаваньня між сябрамі. Т-ва спрабавала наладзіць экскурсію ў Стуканаўскі сельсавет, каб засьняць цікавае Гарадзішча (у выглядзе пірамiды, вакол якой у 3 ярусы равы). Здымкі не ўдаліся.

Т-ва організоўвае музэй і ўжо мае пачатак яго. На гэтую справу РВК вызначыў 60 руб.

**Крупкаўскае раённае Т-ва.**

Сталага праўленьня Т-ва ня мае. Ёсьць толькі старшыня праўленьня інспэктар РайАНА т. Цітавец. Літаратура прыходзіць акуратна, перапіска прымаецца, але за адсутнасьцю сталага праўленьня адказаў на перапіску ніхто не дае.

Некаторая краязнаўчая праца вядзецца толькі ў Бобрскай сямігодцы, дзе вядуцца мэтэоролёгічныя, фэнолёгічныя назіраньні і зьбіраецца фольклёр.

У апошні момант робяцца захады, каб ажывіць працу Т-ва. У пачатку сьнежня быў наладжаны сход актывістых асьветнікаў. Сход прыняў пастановы ў гэтым напрамку. РВК вырашыў дапамагчы Т-ву ў наладжаньні краязн. працы.

## Барысаўская школьная краязнаўчая конфэрэнцыя.

29 лістапада г. г. ў Барысаве адбылася школьная краязнаўчая конфэрэнцыя, якая мела сваёй мэтай аднавіць школьную краязнаўчую працу і намеціць шляхі гэтае працы. На конфэрэнцыі прысутнічала 42 дэлегаты ад школ г. Барысава (у тым ліку 5 настаўнікаў). Заслуханы былі даклады: „Краязнаўчая праца ў школе“ (В. Самцэвіча) і „Фэнолёгічныяназіраньні ў школе“ (С. Нікіфаровіча). У дакладах высьветлена было значэньне краязнаўчае працы ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве, значэньне краязнаўчага мэтоду працы ў школе, вызначаны былі краязнаўчыя тэмы ў школьных програмах і неабходнасьць організацыі краязнаўчых гурткоў у школах; даны былі конкрэтныя ўказаньні адносна практычнага вядзеньня фэнолёгічных назіраньняў і значэньне гэтае працы. На конфэрэнцыі выявілася слабая зацікаўленасьць краязнаўчай працай у школах; краязнаўчыя гурткі альбо зусім распаліся, альбо існуюць толькі па паперы; практычнай працы амаль што няма; настаўніцтва вельмі слаба дапамагае вучням у організацыі краязнаўчае працы.

Адзначыўшы вялікае значэньне краязнаўчае працы ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве і вялікае выхаваўчае значэньне гэтае працы ў школе, конфэрэнцыя знайшла неабходным:

1) пры выкладаньні розных дысцыплін школьнага курсу (природазнаўства, грамадазнаўства і інш.) больш базавацца на мясцовым матар'яле, які прыдае выкладаньню больш яскравасьці, відавочнасьці, эмоцыянальнасьці;

2) дабіцца найхутчэйшай організацыі пры

школах краязнаўчых гурткоў з прыцягненьнем у склад іх і настаўнікаў; гуртком прымаць шчыльную сувязь з раён. таварыствам;

3) дабіцца, каб у бібліотэках школ мелася популярная краязнаўчая літаратура і часопіс „Наш Край“;

4) імкнуцца пры школах з'арганізаваць краязнаўчыя куткі, у якіх павесьці сыстэматычную працу пры ўдзеле настаўнікаў;

5) прыняць меры да арганізацыі сумесна з КІМ гурткоў юных натуралістаў;

6) лічыць неабходным наладзіць да вясны па 1-2 экскурсіі ў мясцовую вытворчасьць, а з наступленьнем вясны экскурсіі ў прыроду;

7) для абмену вопытам працы краязнаўчых арганізацый раёну і кіраўніцтва гэтай працай конфэрэнцыя лічыць неабходным выданьне краязнаўчага часопісу, якім забясьпечыць школы;

8) конфэрэнцыя заклікае ўсе краязнаўчыя гурткі прыняць удзел у папаўненьні організуемага раённым Т-вам краязнаўчага музэю экспонатамі;

9) для вучоту працы і прыданьня ёй належнага напрамку склікаць вучнёўскую краязнаўчую канфэрэнцыю пасьля зімовага перапынку і ў канцы вучэбнага году і

10) правесьці перарэгістрацыю краязнаўчых гурткоў пры школах да 10/XII.

Конфэрэнцыя ў значнай меры падняла настрой вучняў; неабходна толькі, каб настаўнікі дапамаглі ім (вучням) наладзіць належную практычную працу.

*В. С.*

## Трэцяя ўсерасійская конфэрэнцыя па краязнаўству.

11—14 сьнежня 1927 году ў Маскве адбылася трэцяя ўсерасійская конфэрэнцыя па краязнаўству. У ёй прымала ўдзел 345 дэлегатаў, з якіх 193 чал. з рашучым і 152 чал. з дарадчым голасам. З Беларусі ў якасьці гасьцей прысутнічалі на конфэрэнцыі тры чалавекі: намесьнік старшыні ЦБК БССР А. З. Казак, інструктар ЦБК БССР па працы сярод яўрэйскай нацыянальнай меншасьці Аляксандраў, член Праўленьня Магілеўскага Акруговага Таварыства Краязнаўства Вянюкоў і ў якасьці дакладчыка — навуковы сакратар ЦБК БССР М. І. Касьпяровіч.

Даклады аб дзейнасьці Цэнтральнага Бюро Краязнаўства РСФСР і аб дзейнасьці краязнаўчых установ на мясцох былі надрукаваны і разасланы мясцовым краязнаўчым організацыям і дэлегатам заўчасьне. Таму на конфэрэнцыі яны ня чыталіся, а па іх вяліся спрэчкі побач з іншымі на пленуме конфэрэнцыі. Рэшта дакладаў абгаварвалася на пленуме і ў чатырох сэкцыях конфэрэнцыі мэтодычна-організацыйнай, навукова-дасьледчай, школьнага краязнаўства і музэйнай.

З надрукаванай справаздачы ЦБК РСФСР відаць, што праца вялася 2 аддзяленьнямі ЦБК—Ленінградзкім і Маскоўскім, прычым адчувалася няўзгодненасьць іх працы. Дзейнасьць Маскоўскага Аддзяленьня ЦБК выявілася амаль выключна ў заслухваньні і абмеркаваньні тэорэтычных дакладаў на Аддзяленьні і бібліографічнай камісіі яго. Ленінградзкае Адзяленьне ЦБК зьяўлялася фактычным організацыйна-мэтодычным краязнаўчым цэнтрам РСФСР і за справаздачны кругабег прарабіла вялікую працу. Апрача Прэзыдуму ў складзе яго працавалі наступныя камісіі: бібліографічная, школьна-краязнаўчая, студэнцках і экскурсійна-даведачнае бюро. Яны былі ня толькі дапаможнымі мэтодычнымі ўстановамі ЦБК, але часамі выконвалі і значную організацыйную працу. Сваімі часопісамі „Краеведение“ і „Известия Центрального Бюро Краеведения“ ЦБК абслугоўвала краязнаўчую сетку РСФСР мэтодычнымі матар'яламі і адбівала мясцовую працу і яе дасягненьні. Апрача часопісаў ЦБК выдала некалькі програм і новае выданьне даведачніку „Краеведные учреждения СССР“. Для выяўленьня мясцовых організацый і іх дзейнасьці ЦБК у 1927 годзе зрабіла краязнаўчы перапіс. З яго даных відаць, што краязнаўчыя організацыі ў РСФСР пачалі зьяўляецца ў масавым маштабе ў час 1917—1921 г. г., калі заснавалася 72 організацыі, а ў час 1922—1924 г. г.—169, 1925 г. —72 і 1926—58. Лічбы, паказаныя па саюзных рэспубліках, у тым ліку і па БССР, для параўнаньня ў даным вападку, як і наогул усюды ў дакладзе, ня зусім правільныя. Усіх членаў краязнаўчай сеткі РСФСР у 1927 г. налічвалася 27.495 чал. Пераважны лік організацыі, а ўласна—234, мае толькі па 11—50 членаў. Па характары дзейнасьці найбольшы лік (117) організацый комплексных. Экспэдыцый па тэрыторыі РСФСР адбылося 633. Экскурсійную працу вялі толькі 224 краязнаўчых організацыі. Свае выданьні маюць 226 організацый. Свой бюджэт ад малой сумы да 100.000 руб. маюць 358 організацый. Зразумела, што вялізныя дасягненьні краязнаўчай працы ў РСФСР перавышаюць гэтыя бюджэтныя магчымасьці.

Пленум конфэрэнцыі працаваў чатыры вечары над заслухоўваньнем і абгаворваньнем найбольш важных дакладаў. Начальнік Галоўнавукі РСФСР Пятроў у сваім дакладзе паказаў на вялікія дасягненьні краязнаўчай дзейнасьці ў РСФСР, выявіў асноўныя тыпы краязнаўчых інстытуцый: таварыствы і гурткі, музэі і інстытуты, а таксама давёў, што краязнаўства павінна быць комплексным або ўсебаковым, а ня толькі вытворчым ці іншым, як думаюць некаторыя краязнаўцы ў РСФСР.

Фэрсман сказаў уступнае слова да спрэчак аб дзейнасьці ЦБК, а Прэабражэнскі—аб пераносе ЦБК у Маскву і інш. арганізацыйных пытаньнях. Н. Крупская ў сваім усебаковым дакладзе высьветліла надзвычайна вялікую карысьць краязнаўчай працы для палітасьветных установ і краязнаўчай дзейнасьці апошніх. Пасьля дакладу Крупскай пленум абмяркоўваў наступныя даклады: „Школа і краязнаўства“, „студэнцтва і краязнаўства“, „краязнаўства і мастацтва“, „краязнаўства і нацыянальныя меншасьці“, „краязнаўства і абарона стараны“ і інш. З усіх гэтых дакладаў асаблівую цікавасьць прадстаўлялі два апошнія. Тако-Годзі ў сваім дакладзе вызначыў залежнасьць краязнаўчага руху сярод нацыянальных меншасьцяй РСФСР ад Кастрычнікавай рэволюцыі, яго нязвычайны рост у апошнія часы і асablівасьці. Амаль паўтарагадзінны даклад наступнага дакладчыка паказаў нязьмерна вялізарнае значэньне краязнаўчай дзейнасьці ў справе абароны СССР.

Найбольш цікавымі дакладамі ў арганізацыйна-мэтодычнай сэкцыі зьяўляліся наступныя: „экскурсіі і краязнаўства“, „аб краязнаўчай картаграфіі“ і „аб ролі бібліотэк у краязнаўчай працы“. „Краязнаўчае вывучэньне вескі“.

У сэкцыі школьнага краязнаўства абмяркоўваліся такія даклады: „аб савецкім краязнаўстве ў школе“, „значэньне краязнаўства для школы і школы для краязнаўства“, „аб краязнаўчым падручніку для школы“, „які матар'ял можа атрымаць школа ад мясцовых установ і як яго скарыстаць“, „які матар'ял патрэбны настаўніку ў межах губэрні“, „які матар'ял патрэбны настаўніку ў павеце і як яго скарыстаць“, аб студэнцкім краязнаўстве —2 даклады і аб выкладаньні краязнаўства ў вышэйшых школах—тры даклады.

У музэйнай сэкцыі найбольш важнымі дакладамі зьяўляліся: „значэньне комплекснага вывучэньня краю для музэйнай працы“, „музэі і краязнаўства“, „экскурсійная праца над колекцыямі музэяў“, „узаемаадносіны музэяў і краязнаўчых організацый“ і даклады ўласна аб структуры і організаваньні музэяў.

Асяродкавае месца на данай конфэрэнцыі займала навукова-дасьледчая сэкцыя. Спачатку ў ей былі заслуханы інформацыйныя даклады; „краязнаўства ў Фіншчыне, Эстоніі, Латвіі і Літве“, „сталецьце Херсонскіх раскопак“, „аб дзейнасьці геодэзычнага камітэту“ і „аб дзейнасьці інституту вывучэньня Поўначы“. Пасьля гэтых быў заслуханы шэраг мэтодолёгічных дакладаў: „лёкальны мэтод у вывучэньні помнікаў літаратуры“, „задачы гістарычнага вывучэньня краю“, „праца краязнаўцаў у справе вывучэньня помнікаў матар'яльнай культуры“, „організацыя дасьледчых этнолёгічных станцый“, „антрополёгічныя досьледы сіламі краязнаўчых организацый“, „праца краязнаўцаў у справе вывучэньня расьліннасьці“, „праца краязнаўцаў у справе вывучэньня біоклімату“, „краязнаўства і геолёгія“, „гідромэтэоролёгія ў краязнаўстве“ і інш.

Агулам, даная конфэрэнцыя паглыбляла і дэталізавала працу папярэдняй, уносячы мала новага ў краязнаўчую справу РСФСР. Дадатнымі бакамі яе бясспрэчна зьяўляюцца наступныя: буйны рост актыўнасьці нацыянальных меншасьцяй у краязнаўчай дзейнасьці ў РСФСР, вызначэньне паняцьця краязнаўства як комплекснага, усебаковага вывучэньня краю, паўторны заклік зьвярнуць асаблівую ўвагу на вывучэньне вытворчых сіл краю і вызначэньне вялікай ролі краязнаўства ў палітасьветнай працы і ў справе абароны краю.

Для дэлегатаў зьезду быў наладжаны надзвычайна ўдалы концэрт і агляд музэю народазнаўства з дакладамі аб музэях за межамі.

У канцы конфэрэнцыі быў абраны новы склад ЦБК РСФСР з організацыйным цэнтрам у Маскве і мэтодычным—у Ленінградзе; у склад ЦБК РСФСР увайшлі прадстаўнікі ўсіх губэрскіх краязнаўчых організацый і аўтономных рэспублік РСФСР, а таксама ад зацікаўленых дзяржаўных установ.

---

# Бібліографія.

*Проф. Сямёнаў-Цян-Шанскі: „Что должен знать каждый краевед о географии населения“. (На дапамогу краязнаўцы. Пад рэдакцыяй проф. В. П. Буданава і проф. С. А. Саветава). Выд. Брокгаўз. Эфрон. Ленінград, 1927. стар. 132. Ц. 1 руб. 40 к.*

Гэтую працу вядомы вучоны прысьвячае памяці айца, настаўніка, Пятра Пятровіча Сямёнава-Цян-Шанскага, па поваду стагодзьдзя ад дня яго нараджэньня—14 студзеня 1827 г. Дзякуючы гэтаму прысьвечаньню, у рэцэнзуемай працы прыходзіцца бачыць нешта большае, чым просты падручнік для краязнаўцы. Запраўды, пазнаёміўшыся з гэтаю працаю В. П. Сямёнава-Цян-Шанскага, чытач павінен будзе канстатаваць, што гэта сур'ёзная навуковая праца, амаль адзіная ў сваім родзе ў нашай літаратуры. Знаёмячы з ёю краязнаўцу, грунтуючыся на існуючай літаратуры і ўласных досьледах, з асновамі параўнаўча яшчэ маладое і мала распрацаванае антрапогеографіі, В. П. Сямёнаў выконвае дзьве задачы: 1) тэорэтычную—далейшая распрацоўка антрапогеографіі, як асобнай галіны навуковых ведаў і 2) прыкладную—дапамога краязнаўцы ў яго вывучэньні жыцьця чалавека ў сувязі з вакольнымі географічнымі ўмовамі. Будуючы гэтак сваю працу, аўтар робіць правільна, бо без знаёмства хаця-б з элемэнтарнымі палажэньнямі антрапогеографіі. краязнаўца ня можа весьці працы. Дзякуючы гэтаму, праца В. П. Сямёнава складае з сябе быццам дзьве цесна злучаныя працы: 1. сучасны стан антрапогеографіі і 2. програма працы краязнаўцы ў відзе гэтага шэрагу каштоўных парад і пытаньняў. Пры гэтым задача краязнаўцы аўтару ўяўляецца як праверка на мясцовых умовах правільнасьці асноўных палажэньняў, высунутых у яго кнізе. Зрабіўшы-ж гэткую працу, краязнаўца гэтым самым, зразумела, вывучыць і свой край у сэнсе ўплыву прастору на чалавека. Вялізная колькасьць фактаў і вывадаў, зробленых аўтарам у яго кнізе, хаця яны і не дапасаваны выключна да СССР, а, наадварот, датычацца, галоўным чынам, матар'яльнага і духоўнага боку жыцьця ў розных кутках зямное кулі, у самых розных умовах, усё-ж, бязумоўна, будуць мець вялікае значэньне ў практычнай працы краязнаўцы. Дзеля гэтага знаёмства з гэтаю каштоўнаю кнігаю ёсьць абавязак кожнага краязнаўцы.

Складае яна не малую цікавасьць і для выкладчыкаў географіі і грамадазнаўства, якім дасьць ня мала цікавых вестак, увядзе іх у сутнасьць, пазнаёміць з сучасным станам антрапогеографіі. Зьмест яе наступны: 1. Прадмова; 2. Праца чалавека; 3. Харчаваньне; 4. Адзежа чалавека; 5. Будынкі чалавека; 6. Насялёныя пункты і расьсяленьне; 7) Шчыльнасьць насельніцтва, яго натуральны прырост і палавы склад; 8. Вёскі і гарады; 9. Шляховыя пабудовы і сродкі зносін; 10. Тэрыторыяльныя рухі чалавека; 11. Розныя матар'яльныя прадметы, утвараемыя чалавекам; 12. Уплыў прыроды на творчасьць чалавека; 13. Тэрыторыяльнае разьмеркаваньне і сувязь чалавечых культур.

Напісана кніга агульнадаступна, але ня глядзячы на гэта патрабуе некаторай падрыхтоўкі. Шматлікія карты і дыяграмы выкананы добра. Выдана кніга вельмі добра. Каштуе ня дорага.

Н. Фінкельштэйн.

*В. І. Селінаў. „Культуроведение в краеведческой работе“ (история, археология, музейное дело). (На дапамогу краязнаўцы. Пад рэд. проф. В. П. Буданава і С. А. Саветава). Ленінград, 1928. Выд. Брокгаўз. Эфрон. Стар. 136. Кошт 1 руб. 40 кап.*

Сярод актыўных працаўнікоў па краязнаўству адно з першых месц павінен заняць настаўнік. Лёзунг: „Пазнай свой край“ настаўнік павінен правесьці ў жыцьцё ня толькі таму, што гэта абавязак кожнага культурнага чалавека, але і па доўгу сваёй штодзённай працы. Програмы сучаснай школы патрабуюць ад настаўніка ведаў краязнаўчага матар'ялу. Дзеля гэтага, каб толькі выканаць свой абавязак, ня кажучы ўжо аб больш шырокім абхваце працы, провінцыяльны настаўнік адчувае патрэбу ў адпаведнай літаратуры і асабліва ў парадзе з боку

спэцыяліста. Асабліва-ж гэта важна для настаўніка-краязнаўцы з гісторыка-археолёгічным ухілам. Улічваючы гэты момант, аўтар рэцэнзуемай кнігі і паставіў перад сабою задачу дапамагчы сельскаму настаўніку-краязнаўцу шляхам цэлага шэрагу практычных ведаў, пададзеных у гэтай кнізе. Задача ўдзячная. Як-жа вырашыў яе Селінаў?

Калі адкінуць у бок дробныя памылкі, задача выпаўнена вельмі добра. Даўшы спачатку кароткі, але вельмі добры, нарыс месца археолёгіі і гісторыі ў краязнаўчай працы, і адзначыўшы каштоўнасьць гістарычнага краязнаўства ў пэдагогічным напрамку, аўтар далей приступае да непасрэднага выкананьня наступнай перад сабою задачы. Простаю а часамі мастацкаю моваю В. І Селінаў "знаёміць з тэхнікаю працы ў галіне гісторыі, археолёгіі і музэйнае справы, малюючы пры-гэтым апошнюю на фоне навуковых дасягненьняў па ўсіх гэтых галінах. Ахапляючы шмат матар'ялу і шмат пытаньняў, В. І. Селінаў не абмяжоўваецца агульнымі заўвагамі, а наадварот, кожнае пытаньне дэталізуе. Сталая навуковасьць падаваемых ведаў у злучэньні з агульнадаступнасьцю іх паданьня— гэткі агульны тон кнігі.

Асаблівую каштоўнасьць гэтай багатай па зьместу і цікавай кнізе надае тое, што аўтар зачапляе шэраг новых пытаньняў, на якія дасюль краязнаўцамі мала зварачалася ўвагі. Так, напрыклад, Селінаў зварачае ўвагу на неабходнасьць вывучэньня замкоў да дзьвярэй розных будынкаў, на неабходнасьць больш уважлівага вывучэньня сялянскіх хат, іх стылю, на важнасьць вывучэньня сялянскага малярства, аб якім адсюль не напісана ні воднага радку, калі ня лічыць працы Н. Шчэкотава.

Тут мы знойдзем ня тольлі сыстэматызаванае выкладаньне знаёмых у краязнаўстве пытаньняў, але і шэраг новых. Дзеля гэтага гэтую кнігу павінен прачытаць ня тольткі настаўнік краязнаўца і краязнаўца наогул вёскі, але і краязнаўца гораду.

Зьмест яе наступны: I—Месца археолёгіі і гісторыі ў краязнаўчай працы. Пэдагогічная роля гістарычнага краязнаўства. II—Археолёгічная разьведка, зьвязаная з досьледам монумэнтальных нярухомых помнікаў. Сюды ўваходзіць досьлед курганоў, гарадзішч, паселішч будынкаў розных і г. д. III—Археолёгічная разьведка, зьвязаная з досьледам перасоўваемых помнікаў матар'яльнае культуры. Сюды ўваходзіць досьлед адзеньня, малярства, розных відаў мастацтва ды інш. IV—Крыніцы вывучэньня духоўнай культуры краю ў мінулым і шляхі працы над імі. V—Мясцовы друкаваны і архіўны матар'ял. Організацыя гісторыка-археолёгічнага аддзелу мясцовага музэю. Трэба дадаць, што кожны з памянёных пяці разьдзелаў кнігі падзяляецца на шмат дробных падразьдзелаў.

Выдана кніга добра.

---

Выдавец—Інстытут Беларускае Культуры.

Рэдактар—З. Бядуля.

Члены Рэдакцыі: М. Бялуга. А. Казак. М. Касьпяровіч.

# Зьмест.



## МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.



## ПРОГРАМЫ, АНКЕТЫ, ІНСТРУКЦЫІ.



## ХРОНІКА.

## Заўважаныя памылкі.

| Стар. | Які радок | | Надрукавана | Трэба |
|---|---|---|---|---|
| 7 | 1 | зьверху | Н. Дружчыц. | В. Дружчыц. |
| " | 3 | " | За нядоўгі час існаваньня на Беларусі краязнаўчага масавага, які фактычна пачаўся з часоў рэволюцыі, руху і даволі... | За нядоўгі час існаваньня на Беларусі краязнаўчага масавага руху, які фактычна пачаўся з часоў рэволюцыі і даволі... |
| " | 7 | " | выражэньне | вырашэньне |
| 8 | 22 | зьнізу | выражэньне | вырашэньне |
| 10 | 21 | зьверху | даюць | дае |
| " | 11 | зьнізу | выхады | вывады |

# Зьмест „Нашага Краю“ за 1927 г.

## № 1 (студзень).



## № 2 (люты).



## № 3 (сакавік).

## № 4 (красавік).



## № 5 (травень).



## № 6—7 (чэрвень-ліпень).

## № 8-9 (жнівень-верасень).



## № 10 (кастрычнік).



## № 11 (лістапад).

## № 12 (сьнежань).



---




